

Ліда Шакурава і яе сяброўка Марыя Канцавая аднымі з першых адгукнуліся на заклік камсамола: «Дзяўчаты — на трактар!» Ліда скончыла вучылішча механізацыі і працуе цяпер у родным калгасе «Орша» на Віцебшчыне.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі
і Саюза пісьменнікаў БССР

9

ВЕРАСЕНЬ.

1962.

Год выдання X.

## У НУМАРЫ:

У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Апавяданні Алеся Асіпенкі і Анатоля Кудраўца.**
**Вершы Рыгора Барадуліна, Анатоля Грачанікава і Міколы Маляўкі.**
**Заканчэнне рамана Івана Навуменкі «САСНА ПРЫ ДАРОЗЕ».**
**Слова пра Якуба Коласа.**
**Нарыс Альберта Салаўёва «Пошукі».**

На вокладцы малюнак **Ю. Архіпава «ЗА ВУЧОБУ!»**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-8-54.

Фармат паперы 70×108[1]/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7217. Цана 40 кап.
АТ 15457. Здадзена ў набор 1.VIII-62 г. Падпісана да друку 3.IX-62 г. Зак. 457.

Выдавецтва «Звязда».

Друкарня выдавецтва «Звязда». Мінск, Ленінскі праспект, 79.

# ГІМН КАМУНІЗМУ



Лётчыкі-касманаўты СССР Героі Савецкага Саюза Павел **ПАПОВІЧ** і Андрыян **НІКАЛАЕЎ**.

## ВЫДАТНА!

Гісторыя,
Абводзь чырвоным даты,
Здзіўляйся нашай веліччу ізноў.
Ты чуеш голас Космасу —
«Выдатна!»
Мы зноў да зорак шлём сваіх сыноў.

Яны ляцяць туды з савецкай візаю,
І ў захапленні ўвесь Сусвет прыціх.

Уся зямля ўключае тэлевізары
І чуе іх, і нават бачыць іх.

Гісторыя!
Пішы, на што мы здатны,
Куды нас камуністы прывялі...

Выдатна ўсё, таварышы!
Выдатна —
І ў небе,
І на матухне-Зямлі.

**Генадзь БУРАЎКІН.**

# ДА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ І НАРОДАЎ САВЕЦКАГА САЮЗА! ДА НАРОДАЎ І ЎРАДАЎ УСІХ КРАІН! ДА ЎСЯГО ПРАГРЭСІЎНАГА ЧАЛАВЕЦТВА!

## *ЗВАРОТ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР І ЎРАДА САВЕЦКАГА САЮЗА*

У летапіс асваення касмічнай прасторы ўпісана новая слаўная старонка. Упершыню ў свеце савецкія лётчыкі-касманаўты ажыццявілі на караблях-спадарожніках гераічны, бяспрыкладны па сваёй складанасці і працягласці групавы палёт у космас.

11 і 12 жніўня 1962 года магутныя савецкія ракеты вывелі на арбіты вакол Зямлі караблі-спадарожнікі «Усход-3» і «Усход-4», пілатуемыя лётчыкамі-касманаўтамі — грамадзянамі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, камуністамі таварышамі Нікалаевым Андрыянам Рыгоравічам і Паповічам Паўлам Раманавічам.

Праявіўшы найвялікшую мужнасць і гераізм, таварышы Нікалаеў і Паповіч зрабілі мнагадзённы групавы палёт вакол Зямлі, бліскуча выканалі намечаную праграму і паспяхова прызямліліся ў зададзеным раёне на тэрыторыі нашай Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Касмічны карабель-спадарожнік «Усход-3», кіруемы таварышам Нікалаевым, за 95 гадзін, гэта значыць амаль за 4 сутак, абляцеў больш 64 разоў вакол зямнога шара і прайшоў адлегласць больш 2 мільёнаў 600 тысяч кіламетраў.

Касмічны карабель-спадарожнік «Усход-4», кіруемы таварышам Паповічам, за 71 гадзіну, гэта значыць амаль за 3 сутак, абляцеў больш 48 разоў вакол нашай планеты і прайшоў адлегласць каля 2 мільёнаў кіламетраў.

Сумесны палёт двух касмічных караблёў праходзіў на блізкай адлегласці адзін ад аднаго. Паміж лётчыкамі-касманаўтамі ажыццяўлялася непасрэдная ўстойлівая двухбаковая радыёсувязь. Узлёт і пасадка караблёў-спадарожнікаў зроблены ў строгай адпаведнасці з намечанымі планамі. Апаратура караблёў на працягу ўсяго знаходжання ў космасе дзейнічала безадмоўна. Стан здароўя абодвух касманаўтаў у час палёту быў выдатны, настрой бадзёры. Працаздольнасць захоўвалася поўнасцю. У час палёту яны выканалі вялікую праграму навуковых даследаванняў. Здароўе лётчыкаў-касманаўтаў пасля вяртання са складанага касмічнага палёту добрае.

Такі групавы палёт забяспечан перш за ўсё дасканаласцю касмічных караблёў, дакладнасцю навуковых разлікаў, выключнай дакладнасцю і зладжанасцю работы ўсіх савецкіх людзей, якія ўдзельнічалі ў выкананні гэтага адказнага задання.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Урад Савецкага Саюза з найвялікшай радасцю і задавальненнем адзначаюць, што савецкія лётчыкі-касманаўты, вучоныя, канструктары, інжынеры, тэхнікі і рабочыя, якія ўдзельнічалі ў стварэнні касмічных караблёў і абслугоўванні іх палётаў у космасе, з гонарам выканалі свой абавязак перад Радзімай, перад прагрэсіўным чалавецтвам.

Мнагадзённы групавы палёт вакол Зямлі знамянуе новы этап у даследаванні космасу. Упершыню ў час палётаў была ажыццёўлена радыёсувязь не толькі касмічнага карабля з Зямлёй, але і паміж касмічнымі караблямі, якія знаходзіліся ў палёце на розных дыстанцыях. Навука ўзбагацілася каштоўнейшымі данымі аб стане чалавечага арганізму ва ўмовах касмічнага палёту. Два касманаўты, якія рабілі адначасова групавы палёт, падтрымліваючы паміж сабой сувязь і кіруючы караблямі, каардынавалі адзін з адным свае дзеянні, абменьваліся звесткамі аб абстаноўцы, аб рабоце апаратуры, параўноўвалі вынікі назіранняў. Цяпер ужо зусім відавочна, што савецкім лётчыкам-касманаўтам падуладны адлегласці, якія вылічваюцца мільёнамі кіламетраў. Набліжаецца час, калі яны павядуць магутныя касмічныя караблі да планет сонечнай сістэмы.

Вялікі подзвіг таварышаў Нікалаева і Паповіча ўзнімае яшчэ вышэй славу нашай Айчыны, ярка дэманструе дасягненні высакаразвітай савецкай эканомікі, перадавой савецкай навукі і тэхнікі, неаспрэчныя перавагі сацыялістычнага ладу.

Савецкія героі космасу — гэта людзі, якія выйшлі з глыбінь народа, выхаваныя ў радах нашай слаўнай Камуністычнай партыі. Яны выхаваны на высокіх ідэалах сацыялізма і камунізма, да канца адданы свайму народу, сваёй Радзіме. Яны ўвасабляюць непарушную дружбу сацыялістычных нацый СССР. Услед за рускімі таварышамі Гагарыным і Цітовым космас штурмавалі сын чувашскага народа таварыш Нікалаеў і сын украінскага народа таварыш Паповіч. У адзінай брацкай сям'і народы Савецкага Саюза будуюць камунізм, у адзіным страі яны ідуць і на штурм космасу ў інтарэсах міру і прагрэсу, шчасця ўсяго чалавецтва.

Імёны камуністаў Юрыя Гагарына, Германа Цітова, Андрыяна Нікалаева і Паўла Паповіча сталі ўвасабленнем гераізму, творчага генія і працавітасці нашага народа. Савецкія касманаўты — верныя і дастойныя сыны нашай Радзімы, вялікай ленінскай Камуністычнай партыі. Гэта людзі непахіснай мужнасці, вялікіх ведаў, высокай культуры і маральнай чысціні.

Цяпер увесь свет бачыць, што камуністы ўпэўнена ідуць у авангардзе чалавецтва на зямлі і ў космасе, што сацыялізм — гэта і ёсць тая надзейная стартавая пляцоўка, з якой Савецкі Саюз паспяхова накіроўвае ў космас свае магутныя дасканалыя касмічныя караблі.

Новыя выдатныя поспехі ў асваенні космасу пераканаўча паказваюць, што камунізм атрымлівае адну перамогу за другой у мірным спаборніцтве з капіталізмам. Натхнёны рашэннямі XXII з'езда, новай Праграмай партыі, савецкі народ упэўнена будуе камуністычнае грамадства, пракладваючы ўсяму чалавецтву шлях да светлай будучыні.

Збываецца прадбачанне вялікага Леніна аб пераўтвараючай ролі навукі, тэхнікі і культуры ў развіцці грамадства: «Раней,— гаварыў Уладзімір Ільіч,— увесь розум чалавека, увесь яго геній тварыў толькі для таго, каб даць адным усе багацці тэхнікі і культуры, а другіх пазбавіць самага неабходнага — асветы і развіцця. Цяпер жа ўсе цуды тэхнікі, усе заваёвы культуры стануць агульнанародным здабыткам, і ад гэтага часу ніколі розум і геній чалавека не будуць ператвораны ў сродкі насілля, у сродкі эксплуатацыі. Мы гэта ведаем,— і хіба ў імя гэтай найвялікшай гістарычнай задачы не варта працаваць, не варта аддаць усіх сіл? І працоўныя выканаюць гэтую тытанічную гістарычную работу, бо ў іх закладзены дрэмлючыя вялікія сілы рэвалюцыі, адраджэння і абнаўлення».

Наша партыя, наш народ ідуць па шляху, указанаму Леніным. Цяпер усе бачаць, якія цуды здзяйсняюць абуджаныя рэвалюцыяй гіганцкія творчыя сілы свабодных народаў Савецкай Радзімы.

У наш час навука і тэхніка адкрываюць бязмежныя магчымасці для авалодання сіламі прыроды і ўсебаковага іх выкарыстання на карысць чалавека. Вялікія адкрыцці навукі толькі тады могуць служыць паляпшэнню ўмоў жыцця, калі яны выкарыстоўваюцца ў мірных мэтах, у імя шчасця людзей.

Савецкая дзяржава паслядоўна і настойліва змагаецца за трывалы мір ва ўсім свеце. З мірнымі мэтамі зроблены і новыя палёты савецкіх касмічных караблёў.

Чалавецтва прагне трывалага міру на зямлі, і ні адзін урад не можа не лічыцца з гэтым. Наколькі вялікая нянавісць народаў да ворагаў міру, ярка паказаў Сусветны кангрэс за ўсеагульнае раззбраенне і мір, які нядаўна адбыўся ў Маскве. Ад імя ўсіх народаў кангрэс гнеўна асудзіў мілітарысцкія колы заходніх дзяржаў і заклікаў да актыўнай барацьбы за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне пад строгім міжнародным кантролем, за забарону навечна выпрабаванняў ядзернай зброі.

Савецкі ўрад зноў урачыста заяўляе, што ён поўнасцю падтрымлівае патрабаванні народаў аб забеспячэнні трывалага міру ва ўсім свеце і робіць усё неабходнае для ажыццяўлення гэтых справядлівых патрабаванняў.

Савецкі ўрад зноў звяртаецца да ўсіх урадаў і народаў з заклікам яшчэ больш настойліва змагацца за збаўленне чалавецтва ад пагрозы тэрмаядзернай вайны, за непарушны мір на зямлі. Савецкія людзі ўпэўнены ў тым, што сваёй упорнай барацьбой народы адстаяць справу міру.

Гераічныя подзвігі лётчыкаў-касманаўтаў таварыша Нікалаева і Паповіча напаўняюць сэрцы савецкіх людзей, усіх сумленных людзей свету радасцю і гордасцю, клічуць наш народ да новых поспехаў у камуністычным будаўніцтве!

Уперад, да перамогі справы міру і прагрэсу!

| | | |
|---|---|---|
| **ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС** | **ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР** | **САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР** |



*Міколу Капыловічу дваццаць пяць год. Ён нарадзіўся на Палессі, у вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна. Скончыўшы сярэднюю школу, працаваў на камсамольскай рабоце. Цяпер займаецца на 5-ым курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Пісаць пачаў у 1960 годзе. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Мікола **КАПЫЛОВІЧ**

# АПАВЯДАННІ

Мал. Ф. Бараноўскага.

## ДОМА

Гладкая сцяжына прашылася праз кусты, заламалася ўлева і схавалася ў высокай траве. Я крочу шырокім роўным поплавам. У руках у мяне хлёсткае доўгае вудзільна — іду пасядзець ля рэчкі.

Так пачаўся першы дзень маіх студэнцкіх канікулаў.

Поплаў дурманіць патрывожанай косамі мятай, дыша пахамі дзікага маркоўніку і вязелю. Саладка, хмельна пахне палеская зямля!

Уперадзе лапоча трактар, глушыць усе гукі поплава. У душы я нараканю на трактарыста. Так хочацца пачуць, як крэкча мой палескі драч, як мармыча пекур і крычыць кнігаўка. Я даўно так іх не чуў. На неба лезе пухлае чырвонае сонца. На траве гарэць, мітусяцца кропелькі расы. У кусты, хаваючыся ад сонца, запоўз пахучы туман і доўга там абмарошвае лісце ліпкай, быццам пыл, імглой. Напятыя між кустоў і абсыпаныя расою блішчаць павуковыя сеткі, падобныя ні то на гардзіны, ні то на мішэні.

Сцяжына віляе ў траве.



Трактар лапоча гучней і гучней.

Нада мной калышацца прыбраны ў белы фартушок кулік. Дзесьці ў траве галосіцьплача яго птушаня.

Прыгравае сонца. Млеюць травы, звешваюць на грудзі свае кветкі, хаваюць за пазухай, між лісцяў і сцяблінак, чыстыя кроплі расы. Чорны цельпукаваты чмель абдзьмуў адуванчык, аблысіў яго, пасля ўпаў на кветкі, апудрыўся жоўтай пылотай, напіўся мяжовай настойкі, ап'янеў і заснуў.

На поплаве застылі зялёныя хвалі скошанай травы.

Сцежка зноў прабегла праз кусты. Я выйшаў на чысты і выпуклы, як лоб, узгорак — ля выразанай у зямлі сіласнай ямы тросся калёсны трактар, спрэжаны з сіласарэзкай напятым пасам. Ля транспарцёра стомлена рассоўвае і пхае ў зубатую пашчу сіласарэзкі ахапкі кукурузных сцяблоў дзядзька Антось. Грыміць трактар, шпарка ганяе зашмараваны, нібы навошчаны пас. З дзюбы сіласарэзкі ў яму ліецца зялёны струмень. Шпарка махаюць віламі маладыя хлопцы, завальваюць Антося цяжкімі кукурузнымі сцяблами.

— Варушыся, дзядзька! — смяецца і крычыць на ўсё горла насаты Васіль.

Распараны потам, Антось вінавата азіраецца.

Я кідаю на зямлю вудзільна.

— Адпачні, дзядзька! — крычу на вуха Антосю і займаю яго месца.

Хапаю першы ахапак, кладу ў карыта транспарцёра і растрасаю яго. Сцябліны плывуць, умінаюцца валкамі машыны. Лопаюцца па швах адзетыя ў зялёныя мундзіры, чубатыя пачаткі, распранаюцца да сподняй бялізны і пырскаюць у вочы салодкім, ліпкім сокам.

— Шах! Шах! Шах!..— шаткуе кукурузу сіласарэзка.

— Так! Так! Так! — трымціць трактар; на лобе-радыятары ў яго ад напружання выступае пот.

Скачуць у яме дзяўчаты, шпарка рассоўваюць зялёную сечку. Вырываецца з рукава сіласарэзкі вецер, скубе плацце Надзі, раздувае яе белую, як адуванчык, завіўку. Надзя шчыра смяецца мне густымі і чыстымі, як кукурузныя зярняты, зубамі. Зялёныя кукурузныя стужкі носяцца ў паветры і заплятаюцца ў валасы дзяўчат.

А пас бегае і бегае...

За каўнер набілася сечка і нясцерпна рэжа маю спіну. З лоба на рукі градам сыплюцца кроплі поту.

— Гэта табе не па тратуарах у Мінску хадзіць! — паддзявае мяне мой аднакласнік Васіль. — Бач, як распарыўся...

Дзяўчаты рагочуць

Васіль падкідае мне апошні ахапак. Трактар папярхнуўся, кашлянуў і заглох. У зашаткаванай сіласам яме дзяўчаты пачалі выплятаць з валасоў кукурузныя стужкі. Смяюцца і ацепваюцца ад пылу хлопцы.



Я іду да вудзільна — мой хлёсткі дубец ляжыць пераламаны. Цераз яго пераехала падвода. Гляджу на свае пазелянелыя рукі... Яны пахнуць кукурузай. Я ўвесь прапах палескаю зямлёю.

# ПЕРАД КАСЬБОЙ

З двароў нясецца дробны стальны клёкат. Гэта касцы кляпаюць косы. Заўтра першы дзень касьбы ў калгасе, заўтра — вялікае свята на паплавах...

Дадзёўбшы сваю касу, Аркадзь, шыракагруды малады хлапец, падняўся з калодкі і выйшаў паклёванай кроплямі дажджу, васпаватай разорай на агароды.

Ад цяпла і парнасці на агародзе ўсё расло, як на дражджах: натужыліся і нацэліліся ў неба стрэлы цыбулі, распіралі зямлю буракі, натапырыўся і расплываўся з загонаў у разоры гуркоўнік. Таўсцелі апранутыя ў жоўтыя цяльняшкі і прывязаныя да зямлі зялёнымі вяроўкамі, каб не забеглі ў чужы агарод, крутабокія гарбузы.

Аркадзь спыніўся на поплаве. Пашараваў і памянташыў касу.

Вечарэла. Поплаў заплываў туманам. Шчацінілася аблітая расою трава.

Аркадзь шырэй расставіў ногі, пацягнуў некалькі раз касою — у траве пралысіўся і разгарнуўся вялізны маладзік.



«Не каса, а брытва. Не косіць, а злізвае граву...»

Аркадзь сам сабе шчыра смяецца. Ого, ён ведае, як выбраць сабе ў магазіне лепшую, новую касу. Выйдуць заўтра на поплаў, размахнуцца касцы і першы пагоніць пракос Аркадзь! Бо ў яго лепшая каса. Часцей пераступаючы ногі, Аркадзь замахаў вальней. З-пад касы валіцца трава, разгортваецца, разматваецца на зямлі зялёным палавікам, вытканым духмянымі кветкамі. Лёгка і вольна ходзіць каса.

Аркадзь спыняецца, мацае пальцамі лязо; шурпатыя пальцы скрабуць, чапляюцца за вострае ўедлівае жалеза, пасля гладзяць белае і моцнае, што косць, касільна.

Ля густога куста лазы, падобнага на капу сена, ён заламаў пракос назад. Яму было лёгка і бадзёра ісці. Хацелася зрэзаць разам з травою і гэтыя кусты і нават алешнік, што пачынаўся за поплавам.

Раптам Аркадзь аж заплюшчыў вочы — каса з размаху стукнулася аб нешта жалезнае, скрыгатліва дзынкнула і адскочыла ад касільна. Аркадзь сагнуўся, намацаў і выкаціў на пракос гільзу ад нямецкага снарада. Потым падняў з зямлі адламаную касу... Доўга і моўчкі глядзеў на яе...

«А была такая каса...»



# ПЕРАГАРОДКА

На душы ў Андрэя было пагана. Трымаючы пад пахаю пасцілку, ён прадзіраўся праз хмыз да балаціны: жонка адправіла надраць моху. Трэба было перабіваць на дзве палавіны хату і праразаць другія дзверы, бо маладой жонцы стала цесна жыць у адной хаце з яго маці і сустракацца з ёй у адных дзвярах.

Хмызняк дружна абсыпалі і разбегліся ўбакі чародкі лісічак, падобных на лапкі гусянят. Яны вытыркаліся з-пад лісця, цінуліся да пнёў, ланцужком выстрачыліся ў траве. Дзе-нідзе з зямлі выбіваліся мухаморы, вылазілі ліпкія маслякі.

Андрэй схамянуўся ад думак — твар непрыемна апляла халодная ліпкая павуціна. Андрэй змёў яе далонню, сплюнуў ад непрыемнасці.

Бліжэй да балаціны стаялі пралышаныя для падсочкі хвоі. Пахла смалою. Галава кружылася ад хмельнага багуну.

...Тады ў хаце гэтак жа пахла багуном. Калі Андрэй хлапчуком прастудзіўся на рэчцы, маці паіла, націрала яму спіну багуновай настойкай. Андрэй паварушыў плячыма. Яму чамусьці стала зябка. Пах багуну біў у галаву, блытаў думкі:

«Хочаш адгарадзіцца ад маці... Які ты ёй сын?!.»

«Інакш нельга... Як жа тады з жонкай?.. Ты ж кахаеш яе...»

«Жонку кахаеш, а маці?..»

«Буду памагаць ёй... Мы ж пад адным дахам...»

Перад вачыма выплыў твар маці. «Рабі, што хочаш, сынок... Табе ж не пяць год...», — успомніліся матчыны словы, калі ён сказаў, што трэба перагарадзіцца. Андрэй спатыкаўся аб патарчакі, ішоў, не разбіраючы дарогі... Раптам ён адступіўся. Пад нагамі захлопаў крыллем цецярук і, перавальваючыся з боку на бок, знік у хвойніку. Над галавою прарэзліва закрычала сойка. І гэта адарвала Андрэя ад думак.

Птушкі зноў аж захліпаліся ад спеваў. У іх сваё жыццё, свае песні, свае клопаты. І ім не да чалавека.

* * *

Балаціна ціснулася між двух грудоў, цягнулася і прападала ў хвойніку.

Дзве жанчыны, весела спяваючы, з другога боку балаціны скублі мох і складалі яго ў кучу. Андрэй прыгледзеўся і пазнаў Міхаліху. Ля кучы завіхалася яе нявестка. Яна пхала ў мяшок мох і несла да дарогі,



каб спадручней было да яго пад'ехаць на падводзе. Нявестка і свякруха весела гамоняць, смяюцца. У іх радасць — Міхалі ставяць новую хату.

Андрэй падышоў бліжэй.

— Добры дзень, цётка Ганна!

— Добры дзень, — падняла галаву Міхаліха. — А, сусед... — нарэшце сказала яна. — А я думала, хто б гэта...

— Вось ішоў ды... зайшоў.

— Няйначай, па мох, — спыніла свой позірк Міхаліха на Андрэевай пасцілцы. — Усе роўна, як згаварыліся: гэта ж у адзін дзень ты з маім Васільком жаніўся, цяпер разам будавацца будзем і ўлазіны, мабыць, у адзін дзень справім...

«Дазналася пра перагародку і знарок з мяне кепкуе», — мільганула ў Андрэя думка. — А можа хоча выведаць?..»

Вярнулася нявестка і пачала класці ў мяшок мох.

— Не бяры, Насцечка, многа. Не дай бог, шчэ надарвешся, — сказала да нявесткі старая Міхаліха.

— Не бойцеся, мама, не надарвуся, — весела азвалася маладзіца і лёгка падняла з долу поўны мяшок.

«Бач, як суладна жывуць, — пазайздросціў у думцы Андрэй. — А ў мяне?..»

Міхаліха куточкам хусткі выцерла старэчыя вочы і яшчэ весялей загаманіла:

— Ранкам я замяшала парасяці, выношу на двор цэбрык і бачу: прывёз ты з лесу калодкі і скідаеш пад плот. Я так і падумала: будавацца будзе сусед, абжывацца новаю хатаю, дай божа яму шчасця ў ёй. Яно ж так. Жэнішся — сям'я прыбаўляецца. Потым дзеткі пойдуць, стане цесна... — старая Міхаліха перадыхнула. — Каб толькі хораша жылося, ціха, а хатамі абзавядзёмся... Вось і мой Васілька...

Цётка Ганна спытала раптам у Андрэя:

— Новую хату будзеш рубіць ці мо трохсценак?

— Я не па мох іду, — адвёў убок вочы Андрэй. Ён чамусьці адчуў сябе вінаватым перад суседзямі, перад сабою. Яго ўсяго ахапіў сорам, у грудзях стала неяк цесна.

— Гэта я па ігліцу іду. Свінчаці мокра. Трэба чым-небудзь падаслаць, — зняпраўдзіў Андрэй.

— А-а... А я думала... — сціхла Міхаліха. Потым сказала: — Дык ідзі, Андрэйка, пад Даўгір, на хваёвы груд. Ты мінуў яго. Там ігліцы, што і за год не вывезеш...

— І праўда... А я і забыўся пра той груд, — завярнуўся Андрэй і пайшоў дарогай да вёскі.

Прыпарвала. Пахла лісцем, зямлёй. Пад нагамі ляжалі тоўстыя цені дрэў. Вецер калыхаў дрэвы — цені хісталіся, біліся адзін аб адзін. Андрэй выйшаў з лесу. Над вёскай уставала хмара. Па ёй змейкамі вілялі і біліся аб зямлю маланкі. Андрэй прыбавіў кроку. Хмара расла, залівала неба. Скора будзе навальніца. Нездарма так прыпарвае.

# СЛАНЕЧНІК

Жаўтагрывы, лабаты сланечнік павярнуў свой шырокі, бы рэшата, твар і пачаў углядацца на ўсход. Ён чакаў сонца. Над лесам выплыла пунсовая палоска і шырэй расцягнулася па небасхіле. Прачнулася

сонца. Барвай набрынялі пеністыя лёгкія хмаркі, чырвань заліла ўсё: і лес, і вёску, і паплавы. І засмяяўся, радуючыся сонцу, замахаў галавою сланечнік — мой добры зялёны таварыш.

Ён вырас самасеем: вясною расштурхаў лебяду, растапырыў пад маім акном шурпатыя, са светлым павуціннем жылак лісці. Пасля развязаў з зялёнага клуначка капялюш і пачаў штодня жмурыцца на сонца, праводзіць яго паглядам аж да самага захаду.

На пукатым твары сланечніку варушыцца некалькі пчол, — перабіраюць лапкамі маленькія яго кветкі-гладышачкі, цікаўна заглядаюць у іх. Прагугніў і ўпаў на сланечнік пухнаты руды чмель, апудраны, быццам мельнік, кветкаваю мукою. І пчолы і чмель назойліва варушацца, казычуць яму твар.

Чамусьці мне здаецца, што сланечнік не вытрывае: ён вось-вось устрасяне сваёй жоўтай грывай ад злосці і страсе з сябе пчол і чмяля. Няхай не перашкаджаюць глядзець на добрае зыркае сонца.





Уладзімір **ПАЎЛАЎ**

## НА СЛУЧЧЫНЕ



Павялося ў нас даўно на Случчыне
Не хваліцца дзеўцы харавтвом,
Мо таму па ўсёй акрузе злучаны
Сёлы непарыўным сваяўством.

Мо таму дзядзькі без лішняй чыннасці
Тут мяне прымаюць, як свайго.
Пазнаю я ў кожным па гасціннасці
Родзіча далёкага свайго.

Мо таму, калі малое родзіцца,
Каля кожнай хаты, прыкмячай,
Салаўі у засені заходзяцца,
Хоць бяры прыёмнік выключай.

І не раз радня мая збіралася
І крышыла ворагаў з пляча,
Ажно ўся планета калыхалася...
Толькі не пра гэта я пачаў.

Больш вядомы край мой памяркоўнасцю,
Шчодрай ласкай шахтаў і палёў.
І, калі захочаце, ўсё роўна ўсіх
Вам не пераслухаць салаўёў.

Калі трэба песеннага водару —
Прыязджайце ў кожны сельсавет.
Што ні хата — сцены ходзяць ходарам
Ад вясёлых гульняў і бясед.

Калі ж хціўцы пхаюць на абочыну
Вас
І жыць,
І сеяць,
І касіць —
Вось на вернасць вам рука рабочая,
Чэсная і цвёрдая ў касці.

## ВОСТРАЎ ЗЫСЛАЎ


эрвень дол дзеразой,
Нібы коўдрай зялёнаю, выслаў.
Вестку птахі лясныя
Разнеслі ў глухія куткі:
Едуць людзі,
Едуць
Да Вострава Зыслаў, —
На кірунках усіх
Запылелі ізноў
Бальшакі.

Каб не выдаць слядоў —
Без расы травастой сенакосны,
Каб не ўбачыць кастроў —
Елкі рукі самкнулі ямчэй.
Разумею вас,
Птахі,
І травы,
І гонкія сосны,
Вартавыя і сведкі
Былых партызанскіх начэй.

Вам прыпомніўся, пэўна,
Мароз
І пякучы і люты,
Заінелая стынь,
І барвовы наўсцяж небасхіл,
І суровыя клятвы
Ў скупых на патроны
Салютах
Сярод пушчы глухой
Над пагоркамі
Брацкіх магіл.

Вам здалося, напэўна:
Ізноў зарыпелі калёсы,
І збіраюцца хлопцы
Са слуцкіх
Бязлесных раўнін,
Што ідуць караваны
Бяззбройных,
Галодных
І босых,

Востраў Зыслаў — урочышча на Любаншчыне.



Каб на танках пасля
Прабівацца
На дымны Берлін.

Не жахайцеся, сосны!
Звіні медуніцамі, ранак! —
Разрыўныя
Тут бору ніколі
Не будуць шчапаць.
Зняўшы шапкі,
Ідуць
Да былых партызанскіх
Стаянак
Ветэраны,
Ў якіх
І сягоння шчэ раны шчымяць.

Зняўшы шапкі,
Ідуць.
І ад горнасці
Горбяцца плечы.
На павеках маршчыны
Тужэюць,
Нібыта кара.
Зняўшы шапкі,
Ідуць...
І ад гэтае простай сустрэчы
Весялей над магіламі
Зоркі на сонцы
Гараць.

Я гукаю вас, хлопцы,
З Дняпра і Заходняга Буга,
Каб сышліся сюды
Ўсе аднагодкі мае...
Трэба чуць вам,
Як хор
Беларускай
Ваеннай
Акругі
Пра бярозы і сосны
На Вострave Зыслаў
Пяе.

## БАЛАДА ПРА БАЦЬКУ


іны — міма і кулі — міма,
А для сына жадаў бы ты,
Каб за бацькавымі плячыма
Быў яму хоць маленькі тыл.

Я, напэўна, таму і выжыў
І другім не лічыў гадоў,
Што ў нягоды па чорных глыжах
За табою услед ішоў.

Моўчкі падалі хлопцы ніцма
Збоку, ззаду, — не палічыць.
Паламаная мной пшаніца
Нахілялася іх лячыць.

Сенажаці ніхто не кратаў
Тры даўгія гады касой.
Там мой тыл невялічкі раптам
Стаў найпершаю паласой.

Там юнацтва кудысьці ў сіні
Адплыло назаўжды ў чаўне.
«Не спыняйся, ідзі з усімі,
Потым вернешся па мяне...»

Зноў красуюць жыты на ўзмежку, —
Ні акопа, ні раўчука.
А назад да цябе я сцежку
Аніяк не змог адшукаць.

Колькі б я ні ішоў, ні ехаў, —
Не звужаецца далягляд.
Ад хады тваёй моўкне рэха,
Адступаецца ўсё назад.

Толькі ў небе — бусліны клёкат,
Зораў падаючых — хвасты.
Пэўна, я адышоў далёка,
Дзе з надзеяй чакаеш ты.

* * *

**Ю. С.**

За акном навальніца ляскае,
Шыбы тонкай струной пяюць.
Ні дакорам, ні ціхай ласкаю
Зараз мне цябе не вярнуць.

Вечарамі аднымі здзекамі
Нас падманьвалі салаўі.
І няма у цябе, як некалі,
Той ружовасці ад крыві.

І няма для каго мадоніцца,
Вечарамі спяваць услых,
Як тады, калі нас бяссонніца
Часта мучыла абаіх.

Мабыць, там, за старымі зрубамі,
Не аббіта цяпер раса.
Ад чужое рукі нялюбае
Заняпала твая каса.

Каля белых чаромхаў пеняцца
Срэбразвонныя ручаі.
Хочаш, разам гукнем — і вернуцца
Нашы змоўклыя салаўі.

Хочаш, пройдзем з табой без горычы
Праз нягоды усе і дажджы...
«Навальніца міне, — гаворыш ты, —
І пра гэта мне не кажы»...

І пайшла напрасткі па лужынах,
Як далёкі і дзіўны госць,
Мая першая ды замужняя
Ды нясмелая маладосць.






Іван **НАВУМЕНКА**

# САСНА ПРЫ ДАРОЗЕ

**Раман**

Мал. І. Давідовіча.

## Раздзел чацвёрты

### 1

Дні праз тры пасля таго, як Сяргей прынёс навіну пра савецкае наступленне, у будку завітаў Шнапс. Як і заўжды, ён гаваркі і рухавы, амаль безбароды, з рэдкімі валасінкамі рудой шчаціны, яго твар гарыць цікаўнасцю.

Сям'я вячэрала.

— Дабрыдзень. Хлеб ды соль!

— Дзякаваць богу. Сядайце з намі.

— Сам толькі ад стала.

---

Працяг. Гл. № 7, 8.

Маці выцерла хвартухом табурэтку, каб даць госцю сесці.

— Вазьмі, гаспадыня. Уюноў трохі прынёс. У вялікі пост трэба есці рыбу. Хоць уюны, можа, і не рыба. Кажуць, яны радня вужам.

— Чым вам аддзячым, дзядзька? Так вы спрыяеце...

— Ай, кінь ты, маладзіца. Каб толькі жывы былі.

— Дзе ты налавіў іх? — спытаў бацька. — Здаецца ж, і балот няма, пасушылі ўсе. Знойдзе ж, аднак...

— Балоты бальшавікі пасушылі. Я аж на возера хаджу. Там шчэ трохі можна ўзяць рыбы. Толькі ведаеце што, людзі? — Шнапс знізіў голас да шэпту. — Неспакойна ў лесе, страляюць, бухаюць, як добра прыслухаешся. Недзе, кажуць, цэлая наша армія прарвалася, з гарматамі, з танкамі. Гаворка ідзе, што пагналі немца ад Масквы. Калеюць яны, сукракамі бяруцца, проста падбірай на воз, як дровы. Па мястэчку брындаюць гэтыя нашы немцы, кажухі і валенцы ім давай, на помач, маўляў, нямецкаму фронту. Хавайце, калі што добрае ёсць у хаце. Могуць і да вас прывалакціся. Ой, што яшчэ будзе?..

— Усё можа быць, — пацвердзіў бацька. — Зімачку дало добрую, да нашага марозу ім цяжка прывыкаць.

— А нашым хіба лёгка? — прамовіла маці. — Божа ж мой, божа! Душа баліць, як падумаеш, што недзе на полі, на такім марозе чалавек.

— Наш чалавек да ўсяго прывычны, — сказаў Шнапс. — Вазьмі ты таго сібірака, дык яму твой мароз ні па чым. Ён яго не шманае. Цяжка прыйдзецца немцу фронт трымаць. І чаго ён лез, не вазьму ў розум. Колькі той Германіі, пераплюнуць можна, перашчыкнуць, а Расіі ж канца і краю няма.

— Тэхнікай хацеў узяць, — глыбакадумна заўважыў бацька. — Маўляў, твая Расія драўляная, саламяная, а мая Германія каменная, машыны ў ёй здаўна. Стукну па Расіі — і рассыплецца.

— Стукнуць то ён стукнуў, аж у вушах зазвінела. Толькі, мабыць, і ў самога асечка, калі кажухі сабірае.

— А з палоннымі што робіць? — умяшалася маці. — Нехрысці немцы, ці што? Нечувана было, каб так здзекавацца з народа. Страляюць, голадам, холадам мораць.

— Папомняць людзі немца, — бацька ўстаў і прыпаліў ад вугаля самакрутку. — Цяпер, калі б хто і хацеў, то ў палон не палезе. Пакаштавалі, які смак.

— Кажуць, што цяпер і папы заклікаюць біць немца.

— А што ты думаеш... Гора, яно ўсяму навучыць.

— Гітлер нібыта папрасіў замірэння. Няхай вам, маўляў, ваша Расія, а мне мая Германія. Толькі мяне не чапайце. Дайце пацІху выбрацца.

Бацька пярэчыць:

— Не пойдуць нашы на замірэнне. Столькі немец шкоды нарабіў! Людзей паклаў колькі...

Міця ўслухоўваецца ў гаворку старэйшых, на гэты раз не ўмешваючыся ў яе, і душа яго поўніцца радасцю. Прайшло ўсяго некалькі месяцаў, як з'явіліся немцы, але сам тон і настрой гаворкі пра вайну рашуча перамяніўся. Раней ва ўсім, што расказвалася пра немцаў, адчувалася прымесь страху. Немцы ўяўляліся нязломнай жалезнай сілай, якая сунецца з чужога, незнаёмага Захаду і ўсё ломіць, крышыць на шляху. Можа, гэта быў страх перад невядомасцю, перад тварам крушэння, ломкі ўсяго прывычнага, даўно ўсталяванага. Тады, перад з'яўленнем немцаў, шмат хто ў душы і ўголас лаяў нашых за тое, што адступаюць, пакідаюць народ на пакуты, здзек. То было вострае пачуццё,



якому цяжка даць назву. Калі немцы прыйшлі, сталыя дзядзькі зноў лаялі нашых. Цяпер ужо за другое. Успаміналіся ўсе недарэчныя выпадкі даваеннага жыцця.

Міцю абурала такая гаворка. Яна здавалася дробязнай, нікчэмнай, і ён здзіўляўся, чаму разумныя людзі не бачаць самага галоўнага. Прыйшлі немцы і гэта бяда. Тут, як на пажары, не прыходзіцца шукаць вінаватага.

Але з такімі, як Міця, не лічыліся. З іх пасмейваліся. Зрэшты, і сам ён разумеў, што не ва ўсім мае рацыю. Такія, як ён, каменем падалі з неба на зямлю. Перад вайной насіліся ў аблоках, і ім трэба было ўпасці, балюча стукнуцца, каб упэўніцца, што ўсё ў жыцці больш складана і заблытана.

Міця верыў — паны ніколі не вернуцца. А яны прыйшлі, хадзілі па мястэчку ў жывым вобліку нямецкіх салдат, якія пляваць хацелі на ўсё тое, у што ён верыў. Слова «таварыш», дарагое і блізкае, знікла, трэба гаварыць «пан»...

Міця не раз лавіў сябе на думцы, што старэйшыя глядзяць на жыццё прасцей, інакш, чым ён. Успамінаў рамонтнікаў, іх уздыхі і сумныя вочы ў першыя месяцы вайны. Тое ўсё было падобна болей на жарт, чым на праўду, успаміналася, як далёкі, несапраўдны сон. Што думаюць цяпер гэтыя спакойныя, добрыя дзядзькі? У што вераць, на што спадзяюцца?

Шнапс падаўся дахаты, і ўслед за ім выйшаў на пераезд Міця. Занесеная снегам, ледзь прыкметная сярод роўнядзі палёў, ляжыць чыгунка. Чарнее лес, і лёгкай сінню ў светлым змроку ночы аддае снег. Доўгай паласой чарнее мястэчка. На кургану — сасна. Дыхнулі вятры, і яна абтрэсла галіны ад снегу, распрастала іх. У голлі шуміць вецер.

Яшчэ нядаўна ў вокнах местачковых хат мільгацелі цьмяныя агеньчыкі капцілак, камінкоў, а школа зыркала электрычнымі агнямі. Немцы нічога не баяліся і адкрыта гэта паказвалі. Цяпер маскіроўка. Не прылятаў і не скінуў бомбы ніводны савецкі самалёт, але ўсё адно маскіроўка. Многае на свеце перамянілася.

Міця глядзіць на лес. Маўклівы, зацяты, ён хавае ў сабе штосьці патаемнае, шматзначнае; пад навіссю хвой, на снезе, нібы снуюць асцярожныя цені. Міцю здаецца — вось-вось вылецяць з лесу імклівыя коннікі, у руках іх, асветленыя месяцам, бліснуць шаблі. Коннікі кінуцца на мястэчка, і ўсё скончыцца...

Назаўтра Міця, перш чым падацца да Лобіка, прайшоўся па вуліцах. Хацелася пабыць аднаму, паглядзець, ці змянілася што-небудзь у мястэчку.

Праімчаліся запрэжаныя парай коней сані, на іх сядзяць трое паліцаяў, трымаючы ў руках вінтоўкі. Чацвёрты стаіць у перадку, на каленях, сцёбае пугай узмакрэлых коней. Паліцаі некуды спяшаюцца.

Перад школай ля ўваходу, які крыж-накрыж забіт дошкамі, тупае немец-вартавы. Нават па зімовым часе выгляд мае надзвычай няўклюдны: зялёны шынель, нацягнуты паўзверх кажуха, горбіцца на спіне; на боты надзеты вялізныя саламяныя чуні; павязаная хусткай галава з насунутай на вушы пілоткай робіць немца падобным на старую бабу. Тое, што вартавы ахоўвае нікому не патрэбны, забіты ўваход (ходзяць з двара), і тое, што ён не сароміцца нягеглага свайго выгляду, узрадавала Міцю.

Праехалі яшчэ сані з паліцаямі. Ля клуба ўзбуджана размаўляюць немцы.

Ля пошты Міця сутыкнуўся з Сюзанай. Сустрэча нечаканая, з таго дня, як Сюзана была ў Лобіка, ён нядобра пра яе думаў. Разгубіў-

шыся, Міця павітаўся і хацеў прайсці міма. Але Сюзана запыніла яго.
— Сваіх не пазнаеш?
— Пазнаю, чаму ж...
— Як жывеш? Што новага?
На Сюзане цёплая, з вавёрчынай футры жакетка, ногі — у белых, мяккіх валёнках, на галаве пушыстая, вязаная хустка, з-пад якой выбіваецца пасмачка русявых валасоў. Кранутыя марозам шчокі злёгку пунсавеюць, шэрыя вочы вясёлыя.
— Чаго стаіш? Холадна. Давай пройдземся,— прапанавала Сюзана.
Яны прайшлі з канца ў канец сквера і зноў спыніліся.
— Нашы вернуцца, Міця?
Адразу знікла ўся яго надуманая знявага да Сюзаны, — адчуваў сябе нясмелым, мізэрным і як бы вінаватым перад ёю. Прыйшло тое самае пачуццё, якое заўсёды ахоплівала Міцю раней, калі сустракаўся з Сюзанай.
— Масквы немцы не ўзялі. Нашы наступаюць. Ёсць чуткі — прарваліся нашы танкі.
— Я так баюся. Кажуць, будуць перапісваць моладзь, павязуць у Германію. Што тады рабіць, Міця?
Яна нагадвала безабаронную птушку, у якой перабіта крыло.
Дома Міця доўга не мог супакоіцца. Думкі пра Сюзану ўладна агарнулі душу. Як і тады, летам, ён проста не мог пра яе не думаць. Вечарам, калі ўсе палеглі спаць, дастаў з сундучка сшытак з вершамі. Запаліў каганец, прысеў да стала. У сшытку некалькі вершаў, прысвечаных Сюзане. Ён перачытаў той, які самому найболей падабаўся:

Вечар сіні, вясновы
Пасцель выслаў начы,
Я шукаў табе слова,
Ён шаптаў: «Памаўчы»...

Ціш плыла над зямлёю, —
Стома шумнага дня,
Набрыняла вясною
І табой цішыня.

Было толькі нас двое
На ўвесь сіні сусвет,
Вечар клікаў з сабою,
Вечар — дзіўны паэт...

Месяц срэбны, двурогі,
Нам свяціў, як усім,
Вечар выслаў пад ногі
Табе звонкі кілім.

Ты ішла той дарогай,
Я чуў кожны твой крок,
Неспазнанай трывогай
Вабіў стоены змрок.

Міця добра памятае той вясновы вечар, якім навеяны верш. Было гэта летась, у сакавіку, перад тым, як ён занес заяву дырэктару наконт экзаменаў за дзевяты клас. Ужо выйшаў падручнік па гісторыі СССР, але яго меў толькі выкладчык. Яшчэ адзін экземпляр быў у бібліятэцы, і Міця хадзіў туды вучыць гісторыю. Сядзеў у пустым, напаленым зальчыку — нябеленым, з чыстымі сасновымі сценамі, якія пахлі смалой. Другіх наведвальнікаў не было, і Міця адзін карыстаўся падручнікам. Прымошчваўся ля акна, за якім сінеў надвячорак, чытаў кнігу з самага пачатку — новая, нікім, акрамя яго, не чытаная, яна прыемна шасцела старонкамі.



Выйшаўшы на ганак, ён убачыў Сюзану. Яна ішла праз скверык, і пад яе нагамі ледзь чутна патрэскваў вячэрні лядок. Яго Сюзана не бачыла, ішла павольна, задуменная. Тады ўзнікла гэтае самае. Яму не было назвы. Ён проста адчуў радасць ад таго, што поўніцца надвячоркавай сінню скверык з рэдкімі, чорнымі дрэўцамі, хрумсціць пад нагамі кволая наледзь, што можа ўпасці са страхі і зазвінець, як шкляны, празрысты ледзяны капеж. Быў ён, была Сюзана, і тое, што яна яго не бачыла, не думала пра яго, нічога не азначала. Яна была на свеце, і гэтага аднаго было дастаткова, каб ён захапіўся ўсім, што наваколл...
Цяпер Міця перачытаў верш, і яму не спадабалася напісанае. Не ставала самага галоўнага — што пралягло між ім і Сюзанай, без чаго ён проста не меў права пра яе думаць. Тады, калі ён пісаў верш, яму было шаснаццаць. Цяпер — семнаццаць, і на таго, шаснаццацігадовага, ён глядзіць як бы звысоку, з выглядам трохі сумнай, трохі насмешлівай перавагі.
Схіліўшыся над сталом, Міця таропка стаў пісаць. Не ведаў, навошта піша — нікому не збіраўся верш паказваць — але інакай не мог.

О, Радзіма мая без канца і без краю!
Я твой сын, я твой дом, я цябе зберагу.
Жыць табой, жыць з табой — аднаго я жадаю,
Быць чужым, не тваім — не хачу, не магу...

2

У Акцябрскім раёне загрымела...
Там, на былой граніцы, асталіся неўзарваныя доты і там, па чутках, цэлая партызанская армія. Адтуль — за сотню ці болей кіламетраў — у ціхія вечары даносіцца водгулле выбухаў. З партызанамі вядуць вайну вайсковыя часці. Праз мястэчка ў паўночным напрамку праехала адна часць: узбоч саней крочылі апранутыя ў сялянскія кажухі немцы і мадзьяры, на санях навалам — кулямёты, мінамёты, скрынкі з боепрыпасамі.
У суседнім раёне — таксама партызаны. Местачковыя паліцаі ездзілі туды, акружылі, але партызаны, заняўшы каменны дом, адбіваліся двое сутак. Да месца бою зляцеліся бобікі з усіх навакольных гарнізонаў. Партызан было пяцёра. Сямёну Целяшу партызанскай куляй прашыла грудзі. Але жывы, лечыцца.
У халодным студзені чуткі, як вясенні разліў,— радасныя, узнёслыя. Нашы ў Смаленску, у Бранску. Самыя радасныя весткі прыносіць Вілюга. Невядома, дзе ён іх збірае. Аднойчы, уварваўшыся ў Лобікаву хату, з парога крыкнуў:
— Нашы Кіеў занялі!
— Можа Харкаў? — перапытаў недаверліва Лобік.
— Кіеў, гавораць табе. Гэта точна.
Да Кіева — падаць рукой, якіх-небудзь трыста кіламетраў. Хлопцы ўзбуджана захадзілі па хаце.
Зіма — нібы ўзнагарода за няпэўную, пакутлівую восень. Трашчаць калядныя марозы, і лёгка паверыць, што ў танках замярзае масла і немцы, уцякаючы, кідаюць іх па дарогах тысячамі, што з-за снежных віхур не могуць падняцца ў паветра самалёты, што прызвычаеныя да халадоў сібіракі гоняць фашыстаў.
Пакунак з шрыфтам ляжыць там, дзе яго пакінулі — у кутку за ложкам. Абыякавы да перасцярогі, Лобік так і не вынес яго з хаты. Ахопленыя прагай што-небудзь рабіць, дзейнічаць, хлопцы ўспомнілі пра шрыфт.

— Трэба лістоўка, — заявіў Мікола і выцягнуў з кутка пакунак.

Ён адчуваў сябе героем. Думка завітаць у рэдакцыю прыйшла ў галаву яму першаму. Мяшок разгарнулі на стале і з цікавасцю разглядалі шэрыя літаркі. Ніхто не бачыў і не ведаў, як гэтымі літаркамі друкуюць. Усе стаялі і маўчалі.

— Нічога мы не ўмеем,— Шура набраў жменю шрыфту і сыпануў яго назад у кучу.— Будзе тое самае, што з прыёмнікам...

Мікола раззлаваўся:

— Не ўмеем, не ўмеем. Трэба паспрабаваць. Гэта ж проста.

Ніхто Міколе не запярэчыў. Вісячую лямпу паставілі ў гаршчок з соллю. Але святло ўсё адно блеклае, нельга разабраць, якая ў пальцах літара. Хлопцы разышліся, парашыўшы сабрацца заўтра.

На лістоўку затрацілі цэлы тыдзень. Атрымалася нягеглая з выгляду і нікога не ўзрадавала. Адразу кідалася ў вочы, што друк саматужны. Літары розныя, словы скачуць уверх і ўніз. Перабраўшы шрыфт, Шура з Лобікам нарабілі з літар пячатак і прыкладвалі іх да паперы. Фарбы дастаў Мікола. Дзеля гэтага ён завёў знаёмства з дзяўчынай, якая да вайны працавала наборшчыцай. Але можна было і не знаёміцца. Бочка з густой чорнай масцікай стаяла ў рэдакцыйным хляве.

Лістоўку напісаў Міця.

*«ТАВАРЫШЫ!*

*Фашысты адступаюць. Чырвоная Армія блізка. Час вызвалення наступае. Не верце нямецкай хлусні. Няхай жыве савецкая ўлада!»*

Тэкст Міця перарабляў некалькі разоў. Хацелася напісаць болей. Але наборшчыкі — Лобік і Шура — пярэчылі. Доўгую лістоўку немагчыма было надрукаваць.

Вечарам Сяргей з Шурам рушылі з лістоўкамі на торфзавод. Для раённага мястэчка, дзе на сценах і слупах вывешваліся акуратна надрукаваныя нямецкія загады, яна як бы не падыходзіла.

Назаўтра стала вядома, што на торфзавод паімчаліся паліцэйскія і немцы з жандармерыі. Амаль у кожным доме рабілі вобыскі, арыштавалі настаўніка. Падазравалі, што ён напісаў лістоўку.

Вестка застала знянацку, устрывожыла. Ніхто не думаў, што немцы гэтак сур'ёзна паставяцца да трох невялікіх, з касымі, няроўнымі радкамі лісткоў. Лянівы Лобік нават не павыносіў з хаты рэшткі старых прыёмнікаў. На падаконніках, пад лавай, на паліцы па-ранейшаму стаялі непатрэбныя цяпер бутэлькі з кіслатой, прабіркі, шклянкі. Калі надвячоркам другога дня Міця зайшоў да Лобіка, работа была ў поўным разгары. Мікола з Вілюгам скідвалі ў мяшок кандэнсатары, шклянкі, а Лобік поўзаў па падлозе і выкалупваў са шчылін рассыпаны па хаце шрыфт.

Пра арыштаванага настаўніка ўспомнілі пасля таго, як у хаце быў наведзен поўны парадак. Ніхто, акрамя Міколы, не ведаў яго ў твар.

— Падвялі чалавека,— нездаволена прамовіў Лобік.

— Дык ты ж сам друкаваў!.. Вінаватага цяпер шукаеш,— закрычаў Мікола.— Вось гэта тактыка, я разумею. Чуць што, дык у кусты.

Разгарэлася спрэчка наконт таго, дзе фронт.

— Дзе ты чуў пра Кіеў? — дапытваліся ў Вілюгі.

— Ад немца.

— Ад якога немца?

— Ад салдата. Ля клуба цыгарэты прадаваў.

— Што ён гаварыў?

— Што быў у Кіеве.

— Ну і што?

— Што, што... Баі там ідуць. Навошта мне хлусіць.



Вілюга гарачыўся, крычаў. Было ясна — хлусіць. Наўрад ці мог нямецкі салдат так гаварыць.

Міця выйшаў ад Лобіка разам з Міколам. Рыпіць пад нагамі снег, навокал вячэрняя сцішанасць. Маскіроўка захоўваецца: не свеціцца ніводнае акно. Але і гэта не радуе. Здаецца,— усе спяць.

— Зойдзем да Мар'і Іванаўны, — прапанаваў раптам Мікола. — Можа што-небудзь пра фронт скажа.

Міця згадзіўся. Ісці дамоў не хочацца.

Стары, пабудаваны на гарадскі манер дом Мар'і Іванаўны ў цёмным правулку ля базарнай плошчы. Перад ім, нібы вартавыя, застылі старыя ліпы, навісаюць голлем над дахам. Да рэвалюцыі дом належаў прыставу, а з таго часу, як хлопцы пачалі сябе памятаць, у ім жыве настаўніца нямецкай мовы, якая працуе цяпер перакладчыцай у раённай управе. Мар'я Іванаўна адна. Яе муж — у арміі, два сыны да вайны яшчэ паехалі вучыцца і дамоў не вярнуліся.

Дом здаецца нежылым: аканіцы шчыльна зачынены, у дворыку гурбы снегу, а праз іх да парога — вузенькі след. Хлопцы нерашуча пастукалі ў аканіцу. Праз хвіліну ў сенцах пачуліся асцярожныя крокі.

— Хто там? — слабым голасам азвалася Мар'я Іванаўна.

Услед за настаўніцай яны, стараючыся не рабіць чаравікамі груку, мінулі два пярэднія цёмныя пакоі і прайшлі ў залу, дзе гарыць настольная лямпа. На сценах дзве карціны і сямейныя фотакарткі ў прыгожых асадках.

— Не распранайцеся, — папярэдзіла Мар'я Іванаўна. — Холадна ў мяне.

Настаўніца села за стол, а хлопцы, толькі зняўшы шапкі, прымасціліся ў старых крэслах. Мар'я Іванаўна за апошні час змізарнела, паблажэла. Хутаецца ў вязаную хустку, паводзячы час ад часу худымі, вузкімі плячамі. Прыходу нядаўніх сваіх вучняў яна, здаецца, зусім не здзівілася.

— Мар'я Іванаўна, мы прыйшлі наведаць вас,— пачаў Мікола.

— Дзякуй. Я рада вам, рабяты. Вы ж, Цябут, здаецца, самі апошні час працавалі настаўнікам.

— Адзін год.

— Падабаецца вам настаўніцкая работа?

Мікола маўчыць, апусціўшы галаву. Мар'я Іванаўна гаворыць так, нібы можа прапанаваць яму пасаду настаўніка.

— Мы прыйшлі, каб спытаць у вас пра фронт, Мар'я Іванаўна,— сказаў Міця.— Ходзяць розныя чуткі.

Настаўніца апусціла вочы. З хвіліну цягнулася няёмкае маўчанне. Потым яна загаварыла ціхім, глухім голасам:

— Нічога я вам, рабяты, не скажу. І не раю другім задаваць такіх пытанняў. Вы ўжо дарослыя. Павінны разумець самі.

— Ці праўда, што Смаленск і Кіеў у нашых? Мы болей ні пра што не спытаем...

Мар'я Іванаўна ўздрыгнула, спалохана зірнуўшы на хлопцаў.

— Няпраўда. Фронт, рабяты, далёка. Пад Масквой. За чуткі пра Смаленск і Кіеў паплаціўся чалавек. Настаўнік з торфзавода. У яго, кажуць, знайшлі лістоўку.

— Яго расстраляюць? — Мікола падхапіўся з крэсла, стаяў з пабялелым тварам.

Мар'я Іванаўна глядзіць некуды ў цёмнае акно. На сцяне ў чорнай каробцы мерна гойдаецца медны маятнік гадзінніка. Гадзіннік з зязюляй, але драўляная птушка маўчыць. Яна, відаць, сапсаваная.

— Не ведаю, рабяткі,— прамовіла настаўніца.— Усё не так проста,

як вам здаецца. Сам бургамістр, хоць і немец, але чалавек не благі. Не хоча крыві. Ёсць горшыя за яго. Не лезьце вы ў гэта. Вы яшчэ маладыя і нічога не разумееце. Вайна цяпер, як гавораць самі немцы, татальная.

— Што такое татальная? — спытаў Міця.

— Гэта французскае слова. Азначае, што тыл прыроўніваецца да фронта. Усюды адны законы. А як у вас, Птах, з нямецкай мовай? Вы ж так добра паспявалі ў школе.

— Няма цяпер часу.

— Вы хіба дзе-небудзь працуеце?

Зноў Мар'я Іванаўна спытала так, нібы гаворка ішла пра звычайную справу. Міця не ведае, што адказаць. Але настаўніца, здаецца, і не чакала адказу, загаварыла сама:

— Вясной будзе набор моладзі ў Германію. Ва ўправу прыслалі плакаты. Напісана, што набор добраахвотны, але раёну давялі план. Дзве тысячы чалавек.

— Ніхто не паедзе,— усклікнуў Мікола.— Дзе немцы такіх дурняў знойдуць!

Мар'я Іванаўна сумна ўсміхнулася, нічога не адказаўшы. Паднялася і, зняўшы з этажэркі стус нямецкіх газет, паклала перад Міцем.

— Вазьміце з сабой, Птах. Вам жа не так многа трэба, каб самому чытаць. Ёсць у вас слоўнік? Я магу даць, у мяне іх некалькі.

— Ёсць, Мар'я Іванаўна. Дзякую.

— А цяпер, рабяткі, ідзіце. Да мяне зараз прыйдзе немец з жандармерыі. Ён урокі рускай мовы бярэ.

— Немец вывучае рускую мову? — здзівіўся Мікола.

Настаўніца загадкава ўсміхнулася.

— Прозвішча ў яго славянскае — Красоўскі. Я не дапытвалася, хто ён. Добра размаўляе па-польску. У Германіі многа анямечаных славян.

Ужо ў правулку хлопцы сутыкнуліся з немцам, які, сагнуўшыся, настаўіўшы каўнер шыняля, борзда перабіраў нагамі. Падышоўшы да дома Мар'і Іванаўны, бразнуў веснічкамі, зайшоў у двор. Пад пахаю жандар нёс кнігі. На хлопцаў нават не зірнуў.

— Яна не прадалася? — спытаў Мікола, таргануўшы Міцю за рукаў.— Што ты пра гэта думаеш?

— Нічога не думаю. Не вярзі глупства.

## 3

Міця на пару з Лобікам пераклалі зводкі з нямецкіх газет, якія дала Мар'я Іванаўна. Фронт далёка. Чуткі былі перабольшаныя. Немцы пішуць пра баі пад Гжацкам — невялікім гарадком пад Масквой, успамінаюцца ў зводках мясціны, якія ляжаць на поўнач ад Арла і Вязьмы. Але ў той жа час самі фашысты пішуць, што паспяхова адбіваюць савецкія атакі ля Вялікіх Лук, Старой Русы. Зусім незразумела, як і дзе пралягае фронт. Хлопцы, збіраючыся, ломяць над гэтым галаву і не могуць знайсці адказу.

Далі адказ самі немцы. У адзін з халодных лютаўскіх дзён на будынку клуба паявілася вітрына з картай Еўрапейскай часткі Савецкага Саюза. Знізу прышпілен надрукаваны на машынцы лісток з нямецкай франтавой зводкай. З поўначы на поўдзень карту перарэзвае чорны шнурок, які вызначае лінію фронта. Ён прымацаван кнопкай ля самага Мурманска, абвіўся змяёй вакол Ленінграда, ледзь не пад прамым вуглом адбягае назад да Тарапца, Старой Русы і Вялікіх Лук, а потым крута паварочвае да Масквы. На поўдні савецкі клін зноў глыбока



ўрэзваецца ў захопленую ворагам тэрыторыю. Лінія фронта віхляе і пятляе.

Халодны вецер гоніць пазёмку. У агародах, ля парканаў ляжаць асеўшыя гурбы снегу. Як вестуны вясны, на стрэхах хат павіслі сінаватыя капяжы. Местачкоўцы на саначках вязуць з лесу дровы. За апошні час мястэчка неяк ажывілася: прыбавілася людзей, якія проста так, без пэўнай мэты выходзяць з хат, блукаюць па вуліцах, распытваючы ў знаёмых пра навіны.

Вечарам Сяргей прывёў у Лобікаву хату незнаёмага. Чалавек у дубленым чорным кажушку, валёнках — нізенькі, прысадзісты. Павітаўся з хлопцамі за руку, але сябе не назваў, маўкліва прысеў на зэдліку ля грубкі.

— Свае,— сказаў пра хлопцаў Сяргей.— Мы ўжо лістоўку надрукавалі.

— У вас падпольная група? — спытаў чалавек.

Хлопцы — тут Мікола, Міця, Сяргей і сам гаспадар хаты Іван Лобік—пераглянуліся. Яны яшчэ не думалі, хто яны і навошта збіраюцца.

— Група,— адказаў Сяргей.— Шэсць чалавек. Надзейныя, камсамольцы ўсе. Можна яшчэ каго ўзяць.

— Лішніх не трэба,— незнаёмы пажвавеў.— А зброя ёсць у вас?

Зноў пераглянуліся хлопцы, незнаёмы як бы загадвае, пытаецца, а пра сябе не гаворыць. Сяргей сумеўся. Запыніў на чалавеку позірк— нібы пытаўся, ці можна гаварыць. Той маўкліва кіўнуў.

— Гэта Анкудовіч,— сказаў Сяргей.— З партызан. Трэба даць ім батарэй.

— Будзем трымаць сувязь,— Анкудовіч устаў.— Праз яго,— паказаў ён на Сяргея.

Сувязь з партызанамі... Словы здаліся нязвычнымі, яны толькі пачыналі ўваходзіць у штодзённы ўжытак. Хлопцы наперабой загаварылі, замахалі рукамі. Зброі няма і невядома, дзе дастаць яе. Баёў паблізу не было. Ёсць толькі дзве гранаты і некалькі абоймаў патронаў, якія прыхаваў у лесе Міця.

Батарэй Анкудовічу далі, навалілі паўмяшка. Цёмным завулкам правялі да цагельні. У доўгай разбуранай будыніне гуляе вецер. Аднекуль з-за вугла выйшлі яшчэ двое. У кажухах, валёнках. На плячах вінтоўкі.

— Хай яно згарыць! — весела ўсклікнуў Анкудовіч.— Мабыць, горшай бяды няма, як хадзіць без зброі. Передрыжэў увесь.

Адзін з тых, што чакалі ў цагельні, падаў партызану вінтоўку — на плячы ў яго было дзве. Анкудовіч стаў развітвацца. За цагельняй— занесеная снегам ваколіца. Хлопцы стаялі і глядзелі да таго часу, пакуль у шэрым паўзмроку не расталі тры цёмныя постаці. Вярталіся ўзбуджаныя. Тайна, якую ведаюць адны яны, уздымала іх ва ўласных вачах.

— Пайшлі да дзяўчат! — гукнуў Мікола. — Крыўдзяцца, што не ходзім.

Хата, дзе жыве Вера, на галоўнай вуліцы, якая да вайны называлася Акцябрскай. Цяпер управа перайначыла яе на Палявую. Фантазія ў тых, што прыдумвалі назвы, не вельмі багатая — Палявая, Лугавая, Аляксандраўская, Мікалаеўская — так называюцца вуліцы. Але назвы гэтыя не прыжыліся, завуць па-ранейшаму, тым болей, што пошта не працуе, лістоў і газет не атрымлівае ніхто. Нават таблічкі на дамах ранейшыя.

У той палавіне Верынага дома, якую займаюць старэйшыя дзяўчаты, чыста, утульна. На падаконніках і падстаўках безліч вазонаў, на

мог сказаць. Пачуўшы шасценне ў кіяхах, слабым, зняможаным галасам пазваў да сябе.

Сяргей задыханы, узрушаны: пад вачамі сінякі, губы сцятыя, на твары — выраз рашучасці. Прысеў на край тапчана, адразу загаварыў:

— Хаваешся?.. Правільна робіш. Мне павестка ў Германію, Вілюгу таксама. За табой і мной сочаць. Я ўчора вечарам хацеў зайсці. Бачу— ля варот постаць. Той самы шпік, што і каля майго дома. Я пазнаў яго. Паліцай, якога зімой партызаны навылёт прашылі. Недабітая сволач. Цяпер — тайным агентам. Блізка ля мяне жыве...

Узнікла здагадка — яркая, імгненная, як успышка электрычнай іскры, працяла наскрозь нечаканай радасцю. «Значыць, малакасос навёў, Плішчынскі тут ні пры чым. Тады парадак, нічога страшнага...» Радасць ірвалася з грудзей, стала лягчэй дыхаць, але, разумеючы стан свайго субяседніка, стараўся не выдаць сябе. Спытаў заклапочана:

— Дык што рабіць? Выходзіць, засеклі.

Сяргей здзіўлена ўскінуў стрэлкі брывей. Ноткі разгубленасці, якія прагучалі ў голасе Юрыя, не прайшлі міма яго ўвагі. Таму загаварыў злосна, не тоячы здзіўлення:

— Ты як бы на свет нарадзіўся. У лес трэба ісці. Хопіць сядзець. СД прыехала. Нават тых, што на немцаў працуюць, арыштоўваюць. Цябе тым болей не мінуць. Калі схопяць цяпер — не выпусцяць...

— А з чым пойдзеш? З дуляй у кішэні?

Сяргей болей не мог трываць. Не паспеў Юры міргнуць вокам, як з-пад крыса шэрага пінжачка, з-за пояса штаноў выхапіў навенькі наган. Бліснула варанёная сталь, шчоўкнуў курок самаўзвода.

— А гэта не зброя? Сем паліцаяў кокнем, вось табе сем вінтовак.

Сяргей і на гэты раз заўважыў, што радасці на твары Юрыя не адбілася. Наадварот, твар яго пабялеў, спалохана заторгаліся павекі. Юры як бы абвяў. З хвіліну маўчаў, потым хрыпла загаварыў:

— Што партызаны? Што яны адны могуць зрабіць?.. Прыцісну немцы — юшка пацячэ. Фронт цяпер самае галоўнае. А дзе фронт?

— Дык ты што, у кусты? — у Сяргея пахаладзела ў грудзях ад нядобрага прадчування. — Можа табе сапраўды лепш у паліцыю паступіць? Туды якраз такія і ідуць... З такімі настроямі. Навошта было агарод гарадзіць? Мне хлопцы гаварылі, папярэджвалі. Не верыў. Думаў — чалавек ты...

Сяргей адразу асекся, зразумеўшы, што сказаў лішняе. Стаяў пабялелы, узбуджаны, дрыжалі рукі, калені, нядобра паблісквалі вочы.

Юры, седзячы на тапчане, не падымаў галавы. Першая ўспышка радасці мінула, цяпер зноў яго ўладна агарнуў страх. Марудна, але няўхільна праз сумятню пачуццяў прабівалася думка: «Як рыба ў нераце... Ні ўзад, ні ўперад»... Адчуваў, што трэба нешта гаварыць, але страх звязваў язык. Баяўся цяпер не Плішчынскага, не нямецкай жандармерыі, не гэтага нават СД, якое прыехала і забірае каго папала. Яны пра яго нічога не ведаюць і нічога благога не могуць зрабіць. Небяспека тоіцца ў гэтым камсамольцы, з якім ён так легкадумна, недарэчна звязаўся. Навошта? Адпомсціць Плішчынскаму... Цяпер гэта здавалася блазенствам, дзіцячай гульнёй. І за гэта трэба плаціць галавой... Заўтра ці нават сёння камсамольца схопяць, схопяць і яго, Юрыя. Пятлі або кулі не мінеш. Калі камсамольцу ўдасца збегчы ў лес, тое самае будзе. Паліцыя высачыла, што ён завітваў сюды, у яго дом. і гэтага дастаткова. Плішчынскі толькі ўзрадуецца. Лепшыя козыры яму і не сніліся...

Юры абвяў, абмяк.

— Дык што збіраешся рабіць? — гучна спытаў Сяргей.



— Цішэй ты. Можа стаіць той самы...

— Проста не поймеш цябе,— загаварыў Сяргей зноў, знізіўшы голас. — Які сэнс тут сядзець? Знойдуць, плата адна... Ад немцаў жа хаваешся...

«Ён праўду гаворыць, — варухнулася думка. — Калі выцягнуць адсюль — капцы... Чым дакажаш, што не хаваўся... Услед за гэтай халоднай і непрыемнай думкай нарадзілася другая, якая як бы несла надзею, давала выйсце: «Зашыцца куды-небудзь глыбей. Каб сам д'ябал нагу зламаў. На якое мне ліха гэтае мястэчка, Плішчынскі?.. Трэба туды, дзе ніхто не ведае. І зараз жа».

Ён прыўзняў галаву, выпраставаў плечы. Прыйшло пачуццё ўпэўненасці — яно прыходзіла заўсёды, калі ён на што-небудзь рашаўся.

Спытаў амаль бадзёра, з унутранай палёгкай:

— Ты ў лес калі?

— Трэба заўтра.

— Калі ісці, то сёння. Зараз жа. Чуў, што кажуць пра адклад? Давай проста адсюль...

Сяргей зірнуў на яго здзіўлена. На твары як бы прамільгнуў цень недаверу і адразу знік. Яму стала сорамна за рэзкія, злосныя словы, хацелася сказаць Юрыю што-небудзь цёплае, удзячнае.

— Ты прабач... Я пра цябе дрэнна падумаў. Заўтра пойдзем. Мне трэба хлопцаў папярэдзіць. Вілюга з намі пойдзе. Перачакай ноч. Хованка добрая, не здагадаецца ніхто. Я прыйду заўтра.

Прыгнуўшыся, разводзячы рукамі сцябліны кіяхоў, Сяргей падаўся ў бок агародаў, але праз хвіліну вярнуўся, загаварыў горача, даверліва:

— Ты не вер, што немцы пра фронт пішуць. Хлусня. Нашы вернуцца. Радыё хлопцы слухалі — савецкае. На кожным кіламетры фашыстаў тысячамі кладуць. Пад Ржэвам наступаюць. Не сорак першы год, не думай...

Франя ў павязанай па самыя бровы хусцінцы прынесла абед. Вінавата на яе зірнуўшы, апусціўшы вочы, Сяргей падаўся прэч.

Есці не хацелася. Юры папрасіў піць, Франя схадзіла ў хату, залішне доўга там кешкалася і вярнулася з поўным чайнікам. Прысела ля тапчана, адвярнуўшыся ад Юрыя. І ён убачыў, што ў яе ўздрыгваюць плечы — плача.

— Перастань... Тут без цябе — хоць вешайся.

Яна ўстала, нават не зірнуўшы на яго, пайшла.

Чорным мядзведзем зноў навалілася самота. Некалькі хвілін назад, калі побач сядзеў Сяргей, уцёкі з мястэчка здаваліся выйсцем. Цяпер ён не хацеў пра гэта думаць.

Рука сутаргава пацягнулася да чайніка, доўга, не аддыхваючыся, піў.

Узлез на тапчан, сцішыўся. Як збавенне, прыйшоў жаль да сябе... Хацелася плакаць, хацелася, каб побач прысеў хтосьці моцны, дужы, гладзіў, як малога, па галаве, суцяшаў. Але адчуваў — чакаць некага. Няма на свеце ніводнага чалавека, хто б яму цяпер паспачуваў. Усе нечага ад яго патрабуюць, збіваюць на свой троп, стоена або яўна пагражаюць.

Думка гэтая — аб сваёй невінаватасці — спадабалася Юрыю, і ён ухапіўся за яе, як хапаецца той, што тоне, за ўсё, што трапляе пад руку. Нахлынула злосць, твар Сяргея — адкрыты, даверлівы — здаўся ненавісным, і ён нагнятаў у сабе злосць і нянавісць, сам пачынаючы верыць, што яго пакуты з-за гэтага хлопца. «Пакутую праз другіх», — усплыла думка. Яна была як адкрыццё, і ён узрадаваўся ёй.

Юры падняўся з тапчана і, не прыгінаючыся, пайшоў у двор. Ён ужо ведаў, што зробіць. Калі гэтага камсамольца схопяць, яму, Юрыю, бяды не мінуць. Калі ўцячэ ў лес, тое самае будзе. Шпік нездарма віжуе. Сярэдзіны няма. Камсамолец сам выкапаў сабе яму. Загіне так або інакш. Трэба ісці, расказаць. Вядома, з розумам і не Плішчынскаму. Лепш мець справу з гаспадаром, чым з яго халуём.

Ён узышоў на ганак, азірнуўся. У надвячоркавай млявасці застылі агароды, сады, сасновы курган могільніка. На міг ім авалодала сумненне, але на адзін толькі міг. Яно змянілася нянавісцю — лютай, пякучай, яна давала сілы, уздымала ва ўласных вачах. У гэтую хвіліну ён ненавідзеў усіх — Плішчынскага, немцаў, Сяргея, Франю, ўсіх, з кім калі-небудзь прыходзілася яму сутыкнуцца. Ён нават не падумаў аб сабе як здрадніку. Ён здраджваў усё сваё жыццё, вінавацячы другіх.

(Заканчэнне будзе.)



**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**

**Лідзія ЭРЛЕР** родам з Далёкага Усходу. Сярэднюю мастацкую адукацыю атрымала ў Крымскім мастацкім вучылішчы. Пасля вучылася ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце і скончыла яго сёлета, абараніўшы дыпломную работу «Ранак маладосці».



*Максіму Танку пяцьдзесят год*

**Дзмітры БУГАЁЎ**

# З НАРОДАМ КРОК У КРОК

*І перад радзімай хачу я*
*Выканаць свой абавязак,*
*Каб слава майго народа*
*Заўсёды і ў песні жыла.*

*Максім ТАНК.*

На долю Максіма Танка, якому 17 верасня спаўняецца пяцьдзесят год, выпала зайздросная місія заўсёды быць у цэнтры літаратурнага працэсу, пракладваць новыя шляхі ў мастацкім развіцці свайго народа. З яго імем звязаны той выключна важны этап, калі маладая літаратура прыгнечанага народа Заходняй Беларусі не толькі гучна заявіла аб сваім існаванні як літаратура прафесійная, але і станавілася ўпоравень з больш развітымі «старымі» літаратурамі. Творы пісьменніка ўнеслі значны ўклад у беларускую савецкую літаратуру, узбагацілі ўсе яе паэтычныя жанры, пачынаючы ад эпічнай сюжэтнай паэмы і канчаючы лірычнай мініяцюрай.

* * *

Не лёгкім, я гэта помню,
Быў песні маёй пачатак,
То дым ад смалістай лучыны
Мае засцілаў радкі,
То чырвань агнёў-пажараў,
То цень ненавісных кратаў,
То ў полі іх снег заносіў,
Этапных дарог пяскі, —

коратка, але дакладна сказаў пазней Максім Танк пра тыя абставіны, у якіх яму давялося распачынаць сваю пісьменніцкую працу. Аднак цяжкасці ніколі не палохалі сапраўдных талентаў. Не спалохалі яны і Максіма Танка. І няхай сабе цэнзура забараняла то адну, то другую кнігу маладога беларускага хлопца, няхай сабе польскія ўлады час ад часу пасылалі яго самога ў славутую Лукішскую турму на чарговыя адсідкі, — бунтарная натура паэта-рэвалюцыянера, паэта-змагара не магла скарыцца. Занадта моцным быў для гэтага аптымізм Максіма Танка, яго сувязі з камуністычнай партыяй і народам Заходняй Беларусі.

«Ён жыве радасцямі свайго народа, балюча адчувае ўсе яго нягоды, абураецца, кіпіць, кліча да барацьбы за долю, кляйміць няпраўду, будзіць

надзеі. Усё гэта ў Танка прадумана, абвеяна глыбокім пачуццём, прасякнута глыбокім энтузіязмам, сілай, энергіяй, насычана свежасцю маладых парываў, паэзіяй незвычайна бурлівага таленту», — пісаў чвэрць стагоддзя таму назад Р. Шырма, высвятляючы прычыны, як ён казаў, «небывалага поспеху» паэта, які заўсёды адстойваў права і абавязак мастака быць непарыўна з'яднаным са сваім народам, з яго жыццём і барацьбой. «Пойдзем з народам, крок у крок, поплеч, як ішлі да гэтага часу», — заявіў Максім Танк у адказ на папрокі рахітычных заходнебеларускіх «жрацоў чыстай паэзіі». І ён сапраўды ніколі не збочваў з гэтага шляху. Застаючыся ўзорамі высокага мастацтва, яго лепшыя творы былі адказам на самыя хвалюючыя, самыя надзённыя праблемы жыцця.

Барацьбіт, адважны змагар за народную справу з'яўляецца галоўным героем даверас396нёўскай лірыкі Максіма Танка. Часта гэта прафесійны рэвалюцыянер, які ідзе цяжкай, пакутлівай дарогай астрожных этапаў, сустракаючы тут сваю дачасную смерць, поўную велічы і трагізму. Але і ў самыя цяжкія хвіліны танкаўскі герой не паддаецца адчаю. Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш «Спатканне» — адзін з лепшых і найбольш папулярных у свой час узораў грамадзянскай лірыкі паэта давераснёўскай пары. Ён уражвае сваёй чалавечнасцю, глыбокім аптымізмам, верай у заўтрашні дзень.

— Не плач! Мы вернемся вясной
І выйдзем ў поле грамадой,
Сустрэнем новы ўсход зары, —
Не плач і не бядуй, стары!
Вясною светлаю з-за крат
З сяўнёю, поўнаю зярнят,
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор... —

пераконвае сын-вязень старога бацьку. І той, «хоць вочы мокрыя ад слёз», таксама пачынае спадзявацца на лепшае, думаць аб вясне. «Здаецца, падужэў, падрос», — хораша перадае паэт адчуванне чалавека, якому кволай, але такой прывабнай і жаданай усмешкай усміхнулася «светлая надзея». Яна свеціць танкаўскаму герою заўсёды, яна дае яму сілу мужна змагацца і гэтак жа мужна паміраць.

Адцяняючы трагічныя інтанацыі і матывы, гэтая «светлая надзея» надае сапраўды суровай, але далёка не аднатоннай, шматграннай паэзіі Максіма Танка глыбока аптымістычнае гучанне. Гутарка, зразумела, ідзе не пра той абавязковы, наперад зададзены «казённы» аптымізм, які даўно стаў аб'ектам пародый і эпіграм, не пра залішне ружовы, наіўны ў сваёй аснове, хоць, вядома, і прывабны аптымізм юнацкай недасведчанасці, нарэшце, і не пра той крыху легкадумны, неглыбокі аптымізм голых і, галоўнае, дачасна бадзёрых заклікаў, на які грашылі многія заходнебеларускія пісьменнікі і якога прынцыпова не прыймаў Максім Танк. Аптымізм танкаўскай паэзіі быў цвярозым аптымізмам дасканалага ведання і глыбокага разумення карэнных жыццёвых праблем. Гэта варты захаплення аптымізм свядомага барацьбіта, перакананага ў справядлівасці сваёй справы, гатовага, калі трэба, ахвяраваць сабою дзеля яе перамогі. Такі аптымізм не мае нічога агульнага са спрашчэнствам або прыхарошваннем таго, што існуе.

Складанае перапляценне і ўзаемапранікненне трагічнага і аптымістычнага ў лірыцы Максіма Танка, можа, найбольш выразна бачна ў вершы «Хто пачуў тваю песню жалезную», хоць яно заўважаецца і ў многіх іншых творах паэта. У адных выпадках у яго больш чогка вылучаюцца трагічныя матывы, у другіх — пераважаюць аптымістычныя, але ўрэшце дасягаецца галоўнае: перадаецца рэальная складанасць і супярэчлівасць жыццёвых калізій, якая абумоўлівае дыялектычную супярэчлівасць танкаўскага лірычнага героя, скажам, у тым жа вершы «Хто пачуў тваю песню жалезную». Яму і жыць страшэнна хочацца, хочацца родную Беларусь «прывітаць новай песняй сваёй», і ў той жа час ён ведае, што, магчыма, прыйдзецца загінуць, і таму толькі просіць:



Не забудзь тады меншаму брату
Прынясці паказаць кайданы.

Паказаць для таго, каб той усё зразумеў і мог прадоўжыць пачатую справу... Бліскуча выказаў паэт (і ў гэтым ён быў наватарам) уласцівыя чалавеку-барацьбіту радасць змагання, глыбока эмацыянальнае адчуванне харастваа жыцця.

Аб шырыні душы лірычнага героя Максіма Танка, аб яго ўменні захапляцца прыгажосцю жыцця сведчыць і пейзажная лірыка паэта. Ужо ў яго першай кнізе былі такія ўзоры гэтага жанра, як верш «Жаўранак», амаль цалкам пабудаваны на майстэрскім гукаперайманні. Чытаючы такія вершы маладога Максіма Танка, бачыш, што некаторыя сённяшнія ледзь не сенсацыйныя для маладасведчаных людзей мастацкія «знаходкі» і «адкрыцці» ў галіне так званага «вольнага», «раскаванага» верша з'яўляюцца часам толькі нядрэнным паўтарэннем таго, што даўно было дасягнута лепшымі майстрамі вершаванага слова.

У некаторых ранніх творах паэта заўважалася схільнасць да гранічнай метафарычнасці і падкрэслена ўскладнёнай асацыятыўнасці паэтычнага вобраза. Але там, дзе паэту ўдавалася захаваць мастацкую меру, у яго нараджаліся смелыя і арыгінальныя вобразы, як, напрыклад, у вершы «Чорныя скібы»:

Б'ецца аб камень
сталёвы нарог.
Конь упіраецца, скібы цяжкія...
Глянь! — на усходняй старонцы
іскры! Барозны затлелі зарою!..
Выарам хутка і сонца!

Сказана, вядома, не надта проста, але сапраўды смела, нечакана, з глыбокім і ёмістым падтэкстам.

Ужо ў кнізе «Журавінавы цвет» ускладнёная, квяцістая, а то і манерна-знарочытая вобразнасць прыкметна слабее. Усё яшчэ дастаткова адчувальная ў многіх вершах, яна пачынае саступаць месца рэалістычнай прастаце і пластычнай выразнасці ў паэме «Журавінавы цвет» або ў такіх у аснове сваёй рэалістычных творах, як выдатная «Песня кулікоў», «Шэрыя хаты, платы і вароты», «Матыль», «Тры песні».

Нават у сваіх ранніх вершах Максім Танк пазбягаў прастаты прымітыву. Тым больш у сярэдзіне 30-х гадоў яна ніяк не магла вабіць яго. Пісьменнік намагаўся авалодаць той нялёгкай і няпростай, поўнай схаванай унутранай энергіі прастатой, якая прыходзіць толькі да сапраўдных талентаў, прыходзіць не адна, а разам з высокім паэтычным майстэрствам, разам з паэтычнай сталасцю. Гэткая прастата не выключае, а мае на ўвазе смеласць і арыгінальнасць паэтычнага мыслення, да чаго Максім Танк імкнуўся заўсёды. Простае, рэалістычна-стрыманае слова паступова прабівала сабе дарогу і ў лепшых вершах з кнігі «На этапах», і ў «Журавінавым цвеце», і ў падзейна-сюжэтнай «частцы» паэмы «Нарач», і асабліва ў зборніку «Пад мачтай», і ў творах, напісаных пасля верасня 1939 года.

* * *

Уз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай Беларускай сацыялістычнай дзяржаве Максім Танк прывітаў усхваляваным вершам «Здарова, таварышы». Звяртаючыся да адзінакроўных усходніх братоў, да савецкіх воінаў, якія прынеслі доўгачаканую свабоду яго спакутаванай зямлі, паэт пісаў:

Пра вас нашы песні складаліся шчыра
І колас, засмяглы, у полі звінеў,
І кожнай вясною, вітаючы вырай,
Лавілі мы ўсходняга ветру напеў.
Начамі паўзлі да калючага дроту,

6*

Якім нас хацелі на век раздзяліць,
Мы рвалі яго, звалі вас на падмогу, —
І вы, дарагія, пачулі, прыйшлі.

Так прыйшоў Максім Танк у савецкую літаратуру. І для яго гэта быў не толькі натуральны, але і глыбока заканамерны крок, бо, як слушна зазначаў Аркадзь Куляшоў, яшчэ ў даверасней́скую пару Максім Танк «як бы адчуваў ужо сябе грамадзянінам вялікага Савецкага Саюза і з гэтай вышыні разглядаў і ацэньваў усе з'явы, што адбываліся навокал». Такая пазіцыя «набліжала творчасць Танка да творчасці савецкіх паэтаў, у прыватнасці, да творчасці Маякоўскага». Цяпер і гэтае «як бы» адпала. І паэт стаў горача славіць савецкую рэчаіснасць, бачачы ў ёй ажыццяўленне сваіх ранейшых ідэалаў.

«Сённяшняе жыццё, — гаварыў ён у 1940 годзе, — гэта тое, аб якім марылі мы ў нашых учарашніх песнях, пісаных на этапах». Хвалюючае сваёй навізной адчуванне свабоды, небывалага прастору і нечуванага размаху велізарнай краіны вызначае эмацыянальны тон танкаўскіх твораў гэтага кароткага перыяду ад верасня 1939 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Як і ва ўсёй савецкай паэзіі ваенных гадоў, у творчасці Максіма Танка гэтай пары вельмі ўзмацняюцца, набываюць асаблівую выразнасць і вастрыню патрыятычныя матывы.

Беларусь бясконца дарагая паэту кожнай свёй вялікай і малой праявай і часцінкай, пачынаючы ад яе дзіўнай роднай мовы, якая выткана

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага звяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —

і канчаючы сціплымі пралескамі, што «на пакінутай зямлі, на папялішчах, пералесках, разбуджаныя, расцвілі», як прадвеснікі блізкай перамогі. Беларусь-паланянка і Беларусь-партызанка, яе самаахвярнае змаганне з чужынцамі — вось галоўная тэма пісьменніка. Ён прысвячае ёй лепшыя, найбольш прачулыя творы, сярод якіх нельга не прыгадаць выдатныя па сіле патрыятычнага пафасу вершы «Мы ў свой горад прыйшлі» і «Адыходзячы з хаты». Гэта паэтычныя вяршыні не толькі Максіма Танка, але і ўсёй беларускай літаратуры ваеннага часу.

Моцным патрыятычным гучаннем вызначаецца і паэма «Янук Сяліба» — адзін з буйнейшых і найбольш значных твораў нашай паэзіі аб партызанскім руху на Беларусі ў гады Айчыннай вайны. Асабліва бліскуча напісаны раздзелы паэмы, дзе аўтар звяртаецца да фальклорных матываў. Легенда пра музыканта Куліка, апавяданне старога Рыгора пра тое, як ён перахітрыў чорта, песня Раіны над калыскай сына, у якіх досыць выразна праглядваецца народна-паэтычная аснова, некаторыя крыху рамантызаваныя і некалькі ўзнёслыя ў параўнанні з падкрэслена размоўнай агульнай апавядальнай плынню паэмы маналогі той жа Раіны, Банадыка («На вольнае зямлі няма сірот і ран, якіх бы час не загаіў») або Васіля Сялібы, маналогі, у стылёвым абліччы якіх таксама часам адчуваецца подых фальклорнай паэтыкі, як і многія пейзажныя малюнкі з выразным сімвалічным падтэкстам, — усё гэта, што б там хто ні казаў, успрымаецца як усхваляваны патрыятычны сказ аб неўміручасці Беларусі, аб свабодалюбстве яе народа.

Патрыятычны пафас паэта з новай сілай выяўляецца ў яго пасляваеннай творчасці, якую адкрывае важкая і грунтоўная кніга «Каб ведалі», даўно і слушна прызнаная за адну з самых цікавых з'яў беларускай паэзіі першых пасляваенных гадоў. Вершы «Сон над Нёманам», «Крыніца», «Рэпатрыянты», «Два лісты», «Граніца», што непасрэдна працягваюць тэму радзімы, сацыялістычнай бацькаўшчыны, і блізкая да іх па агульнаму



гучанню невялікая, але глыбокая і змястоўная паэма «Люцыян Таполя» цэментуюць гэтую кнігу. Складаючы яе галоўны касцяк, яны як бы з'яўляюцца своеасаблівымі трансфарматарамі, якія вызначаюць узровень напружання паэтычнай энергіі ў кнізе.

Радуе таксама непарыўна звязаная з патрыятычным пафасам грамадзянская страснасць пісьменніка, яго ўменне ахапіць жыццё ў самых разнастайных праявах, заўважыць рэальныя жыццёвыя канфлікты і праблемы і даць праўдзівае іх адлюстраванне. Вось, напрыклад, як удала пасутнасці праз адну, але затое выдатную паэтычную дэталь паказаў Максім Танк нашы пасляваенныя цяжкасці:

— Я па голасу, — кажа рыбак,
Вас пазнаў. —
Запрашае вячэраць.
На стале лусту хлеба паклаў.
Хлеб, як скіба падзольная,
Чорствы і шэры.
Можа, пару зярнят у ім шчырых было,
Ды і тыя раслі на траншэях, магілах,
Дзе шумелі палын з гавылой,
Дзе учора яшчэ папялішчы дымілі.
І таму быў ён горак на смак,
І пра гэты праснак
На ўсім мядзельскім нашым Палессі
Не было яшчэ песні.
Час міне.
Адбудуецца край.
Белы ляжа на стол каравай.
Але гэты наш першы хлеб,
Хлеб, з якім паміналі братоў,
Сустракалі з няволі сясцёр,
Святкавалі перамогі нашы
І будуем жыццё, —
Не забудзецца век.

Так пісаў паэт, успамінаючы аб наведванні родных мясцін, у вершы «На Мядзельшчыне». Вельмі асабісты і лірычны, гэты верш у той жа час здзіўляе сваёй эпічнай ёмістасцю і шырынёй. І гэта наогул характэрная асаблівасць лірыкі Максіма Танка. Нездарма ж Янка Купала, некалі ўпершыню пазнаёміўшыся з яго творамі, з захапленнем зазначыў: «А шырыня ў вершах цудоўная».

* * *

На творах Максіма Танка, што сабраны ў кнігах «На камні, жалезе і золаце» і «У дарозе», у поўнай ступені адбіліся тыя неспрыяльныя для творчасці грамадскія ўмовы, якія склаліся ў нашай краіне ў 1949—1953 гадах. Аднак жа вершы «Рукі маці», «Райком», «Пры вогнішчы», «Яносік», «Сярод лясоў наднёманскіх» з кнігі «На камні, жалезе і золаце», «Антон Нябаба», «Ля вогнішч начлежных», «Таварышу», «Месяц над возерам», «Свежы хлеб», «На крутым пастаменце з граніту», «Песня фелаха» і некаторыя іншыя з кнігі «У дарозе», лірыка-публіцыстычная паэма «Пражскі дзённік», напісаная па непасрэдных уражаннях удзельніка Першага сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру, — усе гэтыя творы з'яўляюцца дастаткова пераканаўчым сведчаннем таго, што Максім Танк працаваў у цэлым паспяхова і ў тыя гады.

Як і трэба было чакаць, новы творчы ўздым перажывае паэт пасля XX з'езда партыі. Выдадзеная ў 1957 годзе кніга «След бліскавіцы» вызначаецца ўзмацненнем гуманістычнага пафасу. Пісьменнік тут з большай увагай ставіцца да жывога чалавека, да разнастайных праяў яго душэўнага свету, да яго звычайных, будзённых патрэб. Лірычны герой паэта становіцца больш цэласны, больш чалавечны. Яму ўласціва падкрэсленае непрыманне любога фальшу, няшчырасці, няпраўды ці напаўпраўды як у вялікім, так і ў малым.

Шырокі грамадскі рэзананс атрымала нізка вершаў паэта «З далёкіх дарог» («След бліскавіцы»). Развіваючы традыцыі Маякоўскага і сваіх папярэднікаў у беларускай літаратуры, паэт у жанры палітычнай лірыкі бескампрамісна, з пазіцый савецкага патрыёта ацэньвае капіталістычны свет, паказвае яго непрымірымыя супярэчнасці, яго варожасць сапраўднай гуманнасці. Разам з тым, «для заграгічных вершаў М. Танка, — як пісаў аб гэтай нізцы на старонках газеты «Правда» М. Рыленкаў, — ... характэрна глыбокая павага да культурных каштоўнасцей усіх народаў, вялікіх і малых, уменне за неонавымі агнямі рэклам убачыць і перадаць галоўнае — душу народа-стваральніка, увасобленую ў помніках матэрыяльнай культуры».

Трывога за лёс чалавецтва, палымяная ваяўнічасць і гуманізм бліскуча спалучаюцца ў вершах «З далёкіх дарог», нараджаючы такія шэдэўры, як «Ave Maria» або «Чарнаморскія чайкі».

Далейшае развіццё гуманістычных тэндэнцый у творчасці Максіма Танка не цяжка заўважыць у кнізе «Мой хлеб надзённы» (1962), натуральным працягам якой нам уяўляюцца «Трыццаць вершаў» паэта, апублікаваныя нядаўна ў часопісе «Полымя».

У новай кнізе Максім Танк прадаўжае тую лінію сваёй творчасці, якая бадай ці не найбольш выразна выявілася ў пасляваенны час, адлюстраваўшы ў поўнай ступені імкненне ўсёй савецкай, а разам з тым і беларускай літаратуры пашырыць тэматычныя гарызонты, звярнуўшыся да важнейшых жыццёвых працэсаў у зарубежных краінах, перш за ўсё ў краінах сацыялістычнага лагеру, з якімі давялося асабіста пазнаёміцца многім нашым пісьменнікам. Паэт прысвячае вялікія цыклы вершаў народнаму Кітаю і людзям капіталістычнай Амерыкі. Ён піша пра возера Марское Вока ў Карпатах і пра Фінляндыю, пра Атлантычны акіян і свой палёт над Грэнландыяй. Пісьменніка хвалюе прыгажосць Фларэнцыі, трагічная гібель шахцёраў з далёкага афрыканскага горада Колбрука, смерць японскай дзяўчынкі Садака Сасакі, якая захварэла на прамянёвую хваробу пасля атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы. «Горды сын Афрыкі» Патрыс Лумумба, правадыр кубінскай рэвалюцыі Фідэль Кастра, выдатны барацьбіт за свабоду Грэцыі Маноліс Глезас і старажытная егіпецкая царыца Неферціці становяцца героямі твораў Максіма Танка. А побач ідуць вершы пра каханне і кукурузу, пра ладзьбаванне і журавіны... Здавалася б, вельмі ўжо рознахарактарныя з'явы трапляюць у поле зроку аўтара, выклікаючы небяспеку зрабіць яго паэзію залішне стракатай і раскіданай. Аднак Максім Танк шчасліва пазбягае гэтай небяспекі — амаль у кожным яго вершы адкрыта ці ў падтэксце б'еццa страсная думка пра чалавека, пра ягонае права на жыццё, на звычайнае, «простае шчасце людское». Гэтая думка з'ядноўвае новую кнігу Максіма Танка, складае яе пафас, робячы лірычнага героя жывым, зямным чалавекам, якога хвалююць усе людскія радасці і нягоды.

Сённяшні лірычны герой Максіма Танка не можа цярпець нуднікаў і крывадушных поснікаў, якія звычайна падымаюць вэрхал, убачыўшы, як хлопец пацалаваў сваю дзяўчыну («Хай пішуць распуснікі посныя вершы»). Ён здзекуецца са стваральнікаў нудна-сентыментальных трагедый, у якіх закаханыя «гавораць адно пра свае працадні і рэдка калі — пра каханне», так рэдка, што ажно прыходзіцца дзівіцца: «як гэта яшчэ у нас нараджаюцца дзеці?» («Сентыментальная трагедыя» з кнігі «След бліскавіцы»).

Якраз паўната адчування жыцця перш за ўсё і робіць чалавечным і ў гэтай сваёй чалавечнасці, прастаце і натуральнасці вельмі сучасным і вельмі абаяльным танкаўскага лірычнага героя.

То — не рукі, якім працаваць не карціць,
То — не сэрца, што век ні па кім не баліць,
То — не танцы, калі не танцуе сама
Маладая з гасцямі з цямна да цямна,
І не пір, на якім ды прынукі няма
І не п'юць за здароўе да самага дна! —



разважае сённяшні лірычны герой Максіма Танка. Ён закаханы ў родную беларускую прыроду, і таму яго зачароўвае і «вецер радзімы», «не безымянны там вецер нейкі, а той, што вее начлежным дымам, шуміць чаротам, звініць жалейкай», і «пах жывіцы», і «пушчы рэха», і звычайная сялянская пуня з яе водарам духмянага сена, з рамантыкай тайных спатканняў «пад перазвон камароў», і бусліны сейм, што, зусім не баючыся добрага чалавека і нават не саступаючы яму дарогі, «збіраецца восенскай раніцай, каб выбраць спрактыкаванага важака і ляцець у вырай. Вядома, паэт не можа не спачуваць гэтай рахманай птушцы, бачачы ў бядзе свайго старога знаёмага бусла, што некалі «сцярог бацькаву хату ад буры, пажару і грому і кожны дзень яснае сонца, страчаючы, клёкатам славіў», а цяпер сумуе ў заалагічным музеі, трапіўшы да вучонага, які «каторы ўжо год» піша пра яго наўрад ці патрэбную дысертацыю. Чуламу сэрцу паэта здаецца, што нават каменнаму беламу скакуну з кітайскага храма «Белы конь» нудна «амаль дзве тысячы гадоў» стаяць у мёртвай цішыні манастыра, што і яму хочацца «ўцячы на росны луг» хоць бы сабе для таго, каб «аж да апошніх дзён сваіх цягаць жалезны плуг».

Шкадуе паэт і багоў з карцін Мікеланджэла і Рафаэля, якіх абязвечылі папа рымскі, загадаўшы цемрашалам замаляваць «спакуслівыя іх дэталі», ад чаго багі страцілі частку сваёй зямной, хоць і «грэшнай» прыгажосці.

Нават шыбы старой камяніцы здаюцца яму вартымі ўвагі, бо і ў іх некалі апошні раз глядзелі людзі. Яны, людзі, не павінны быць безназоўнымі «і іншымі», як яно яшчэ нярэдка здараецца, бо сярод гэтых «і іншых» — «і новыя каперніка, бетховены, купалы і гагарыны», — піша паэт, мімаходзь з'едліва высмейваючы тых масцітых крытыкаў, што любяць разважаць, «чаму паэт Казёл Вялікабродскі, які жыў у семнаццатым стагоддзі, пасля выклічніка «гэй» не паставіў коскі» (верш «... І іншыя»).

Як быццам жартоўны верш, а колькі тут увагі да чалавека, колькі шчырага сардэчнага клопату пра яго! А які боль за дачасна абарванае чалавечае жыццё і разам з тым які тужлівы гонар за волатаўскую сілу чалавечай нязломнасці гучыць у вершы «Чытаючы яе лісты»!

Так з гуманізму, з любві да чалавека, з клопатаў пра яго натуральна вырастае пратэст паэта супраць вайны і тых, хто яе рыхтуе сёння. Так прыходзяць у яго песню трывожныя ноты пра яшчэ не забытыя «сосны-калекі» на пажарышчах, пра незараўняныя курганы на старых ваенных дарогах. І таму не можа супакоіцца паэтава памяць, і таму «іржавыя ныюць асколкі» ў мірнай, чалавечнай паэтавай песні.

І ўсё ж яна прыкметна падабрэла, стала больш чулай да чалавечага гора, лепш зразумела чалавечае шчасце, бо паэт перакапаўся,

Што плуг, а не нож,
Што сэрца сігнал,
А не медзі глухой,
Што сонечны дзень,
А не ноч над зямлёй,
Віно, а не кроў,
Шчыры смех, а не злосць,
Не старасць зайздросная,
А маладосць —
Маюць слушнасць.

Хвалі часу «вымылі з сэрца нямала руды», — кажа паэт у другой цудоўнай мініяцюры, —

Толькі чамусьці пакінулі
Чуласць — нібыта яна
Самай была непадатлівай,
Самай цяжэйшай была.

Так сапраўды добра, па-маладому свежа і нечакана, па-сталаму мудра, важка і глыбока піша сёння Максім Танк. Што ж, ад душы парадуемся за яго, пажадаем яму новых удач, новых здзяйсненняў, багатага плёну ў яго вялікай натхнёнай працы.

**Мікола ЛІСОЎСКІ**

* * *

З рабіў памылку,
сам не рад! —
Дык паўбяды...
Не прызнаешся
ў гэтым, брат, —
Страшней куды!..

Хоць без аўтарытэту
горш —
Дык паўбяды...
А прадасі
яго за грош —
Страшней куды!..

Калі благі
і зрок, і слых —
Дык паўбяды...
Не хочаш бачыць,
чуць усіх —
Страшней куды!..

Не весялун,
не дабрадзей —
Дык паўбяды...
Свой твар
хаваеш ад людзей —
Страшней куды!..

Калі ж дарогай
пойдзеш ты,
Але не той —
Не абмінуць
крутой бяды,
Бяды крутой!..

## *На арбіту камунізма*



**Аляксей СІНІЛАЎ**

# ЛЮДЗІ, ІХ БУДНІ

**Нарыс**

### ВЫШКА, З ЯКОЙ УСЁ ВІДАЦЬ

Дыспетчарская — невялічкая, збітая похапкам з дошак будынiна. Яе адразу і не заўважыш, а калі трапіцца чалавек уражлівы — усё роўна на ёй вока не затрымае, бо крыху далей, за агарожай, адкрываецца велічная панарама. Стрэлы кранаў, высокія гмахі карпусоў, горы ўздыбленай зямлі. Над усім гэтым пануе лязгат машын, рокат матораў... На бліжэйшым шматпавярховым будынку вялізны, яркі плакат: «Таварыш, ты ўваходзіш на азотнатукавы — ударную камсамольскую будоўлю».

І гэты плакат, намаляваны мясцовым мастаком, разы ў два больш за дыспетчарскую. Яна мае чатыры крокі ўдоўжкі, чатыры

ўпоперак. Перагарадзілі, і атрымалася два пакойчыкі, з якіх адзін служыць кабінетам, другі — прыёмнай. І «даволі прасторныя», як гаворыць не без усмешкі гаспадар будыніны дыспетчар Мікалай Зіненка.

Стол ды стул, некалькі тэлефонных апаратаў, мікрафон селектара ды план прамысловай пляцоўкі, прыколаты да сцяны, на другой сцяне — план-графік работ, — вось і ўсё, што ўдалося ўціснуць у «кабінет», значную частку якога займае печка. Другой сваёй паловай яна выходзіць у «прыёмную». Забегшы сюды, чалавек не спяшаецца з будыніны, а праціскаецца бліжэй да печкі, адубелымі, чырвонымі ад холаду рукамі абдымае яе, хапаецца за напаленыя дзверцы...

На двары холадна. Красавік, другі месяц вясны, ды ў гэтым годзе яна не пажадала падпарадкавацца законам прыроды, і таму лютавалі марозы, рэдка які дзень абыходзілася без завірухі. Іншы раз, глядзіш, з неба падае і снег, і дождж, і град — і ўсё адначасна!..

Прыйшла вясна святла, але спазнілася вясна вады. Хоць сонца і падымалася высока, рабочы дзень будаўнікоў канчаўся тым, каб уцяпліць нанач бетон, а раніца пачыналася з таго, што трэба было вымятаць свежы снег з густога плеціва арматуры.

У дыспетчара гарачы час. Трашчаць тэлефонныя апараты.

— Калі будуць вагоны з віцебскай чырвонай цэглай? — звоніць некаму Зіненка, зазірнуўшы ў графік.

Толькі павесіў трубку, як у дыспетчарскую хуткім крокам увайшоў слесар:

— Дзе працуюць кампрэсары?

— На аб'ектах 345 і 201.

Заскочыў брыгадзір.

— Дыспетчар, дай трактар. Падвезці восем шчытоў,

— Трактары заняты.

— Дык што, цягнуць на гарбе?

— Чаму на гарбе? Вазьмі машыну, што дастаўляе раствор...

А на парозе — новы чалавек.

— Калі будуць слупы?

Дыспетчар не распытваў, пра якія слупы пытаюцца і для каго яны прызначаны, ён адразу пазваніў па адным тэлефоне, потым — па другім і адказаў:

— Ужо нагрузілі, вязуць.

Каб адразу ахапіць позіркам усю вялікую будоўлю, трэба выйсці з дыспетчарскай на пляцоўку, а яшчэ лепш — узняцца на высокі корпус. Але ж не маленькай вышкай аказваецца і вось гэтая цесная прыземістая будыніна. Адсюль таксама ўсё відаць. Адсюль вельмі зручна ахапіць усю будоўлю ўнутраным позіркам.

Будоўля мае свой штаб — будаўнічае ўпраўленне БУ-142. Кіруе ім інжынер Уладзімір Мікалаевіч Рубанік. Ну а дыспетчара не на жарт лічаць другім начальнікам. Улада ў яго вялікая. Яна — у цвёрдым графіку будаўнічых работ і ў тых правадах, што злучаюць яго будачку з вялізнымі карпусамі і з далёкімі тыламі будоўлі. І тое, што панелявоз накіраваўся з грузам жалезабетону на 344-ы аб'ект, а не ў іншае месца, і што экскаватар цяпер здабывае з кар'ера пясок, а не капае катлаван, і што на нейкі аб'ект дастаўлен раствор сухі, а не звычайны — мокры, — усё гэта справа рук дыспетчара.

**Дыспетчар Мікалай Зіненка спакойна вытрымлівае націск самых настырных прарабаў.**

Больш года, як стаіць гэта будыніна. І ўсё ў ёй застаецца без змены. Нават гэтыя словы на фанерных дзвярах, напісаныя чорнай фарбай: «Шуляк! Я паехала ў 1 г. 30 мін.». Нават тыя схемы мантажу жалезабетонных канструкцый, што так выразна намаляваны на абклееных шпалерамі сценах.

Па селектары знойдзен патрэбны чалавек.

— Арматуру на 201-ы забралі? Добра. Цяпер наконт 302-га. Прытрымай сёння калоны і пліты, не адпраўляй. Графік? Так. Паламаўся. Няўпраўка. Не было крана... Ну, навошта дакладная? Заўтра ставім на разгрузку кран, дзве аўтамашыны справяцца. Вас задавальняе такі варыянт? Галоўнае, каб за дзень вывезці і кран не трымаць двое сутак.

Ад прарабаў паступаюць заяўкі на заўтра, паведамляюцца вынікі работ за ўчарашні дзень. Не паспеў дыспетчар разнесці лічбы, як за спіной пачулася:

— Дзе прарабка Дзятлава?

«Прарабка» — гэта, відаць ад двух слоў: «прараб» і «канторка».

За акном спынілася машына тэхнічнай дапамогі. З яе выскачыў галоўны інжынер упраўлення механізацыі Ярмак. Гэта пад яго камандай усе тутэйшыя вежавыя і аўтамабільныя краны, бульдозеры, экскаватары. Толькі ўвайшоў у дыспетчарскую — і адразу разгарэлася спрэчка, больш правільна, працяг даўняй спрэчкі.

— Не хочаце кубікі падпісаць, забяру ад вас бульдозер, — з ходу кінуў Ярмак. — Адразу два бульдозеры забяру!..

— Не падпішу, — упарта сказаў Зіненка.

— Ну, што табе? Пішы: рыхленне грунту, і не будзем дурыць адзін аднаму галовы. Патрэбны кубаметры, разумееш? Кубаметры, а не вашы адзнакі гадзін.

— А на каго я павешу тыя кубаметры? — стаяў на сваім дыспетчар. — На падаражанне? Не, не зраблю гэтак.



**У камсамольскім штабе. Брыгадзір Уладзімір Макарэвіч раіцца з начальнікам штаба Вольгай Суфіновіч.**

— Вунь на шклозаводзе ў Гродна, — пачаў другі, што прыйшоў разам з Ермаком, — там пашкраблі бульдозерам катлаван — і ёсць 150 кубікаў зямлі. Там разумеюць: цяжкая работа зімой, а вы...

Далей па тэлефоне ўжо гаварылі і Зіненка, і Ярмак. Кожны нешта ўзгадняў, удакладняў...

— А бульдозер адзін усё ж забяру, — паклаўшы трубку, сказаў Ярмак.

## КАМСАМОЛЬСКІ ШТАБ ДЗЕЙНІЧАЕ

Трэба сказаць, што ў дыспетчарскай бавіўся я не проста так, дзеля цікаўнасці. Мяне прывяла сюды адна справа.

Спачатку назавём тры лічбы:

77, 89,6 і 129,9. Гэта — працэнты выканання агульнага аб'ёму будаўніча-мантажных работ адпаведна за студзень, люты і сакавік.

Паказчыкі сакавіка ўзрадавалі ўсіх, а наступны месяц застрашыў. Вясна пазнілася, значыць, бездараж будзе ў красавіку.

«Страшны красавік» — гаварылі... «Узняцца ўсім на барацьбу за план», — чулася на нарадах, сходах... Клопат пра тое ж быў відзён на тварах моладзі, што сабралася ў камсамольскім штабе будоўлі.

— Ёсць у нас сіла — камсамольцы, лічыце — трэцяя частка калектыву, — гаварыла Вольга Суфіновіч — начальнік штаба. — Народ баявы, усе гараць энтузіязмам. Але не хапае арганізаванасці. Што ні ўпраўленне — само сабе гаспадар. Вось і цягне кожны ў свой бок. Выконвае «свой» план любой цаной і іншы раз не клапоціцца пра інтарэсы ўсёй будоўлі...

— Во-во... — падхапіў сакратар камсамольскай арганізацыі Уладзімір Філіповіч. — Нашым дэвізам павінна быць правіла будаўніка камунізма: «Адзін за ўсіх, усе за аднаго».

І горача гаварыў далей:

— Вось цікавы прыклад. Скончыўшы змену, работніцы з растворнага вузла пераапрануліся, сабраліся дамоў. Раптам да іх цэлая дэлегацыя — будаўнікі з рамонтна-механічнага цэха. «Памажыце, кажуць, не хапіла бетону. Паўтара кубаметра. Змена наша кончылася, але ж назаўтра работу адкладваць не хочацца: правілы тэхналогіі не дазваляюць, павінна быць няспынная заліўка. Ну, памыліліся, калі заказвалі». Люда Патапава, Анна Мельнічак, Вольга Сідаровіч зноў апранулі спяцоўкі, уключылі бетонамяшалку, а хлопцы тым часам пабеглі на пляцоўку па самазвал. Знайшлі. Шафёр таксама згадзіўся папрацаваць, хоць і ў яго скончылася змена. Нарыхтаваўшы бетон і выгрузіўшы яго ў машыну, Люда, Аня і Оля зноў пачалі пераапранацца. Дадому ішлі вясёлыя.

— Свядомасць перамагла, — падагуліла Вольга Суфіновіч. — Кожны зробіць для будоўлі ўсё, што трэба, не зважаючы на цяжкасці, не лічачыся з часам. Галоўнае — трэба лепш арганізаваць усё ў маштабе будоўлі.

— Можа мітынг правесці ці сход агульны, — у роздуме прапанавалі адны.

— Камсамольцаў толькі, ці ўсіх будаўнікоў? — удакладнялі другія.

— Усё роўна. Галоўнае — каб была трыбуна для ўсіх.

— Але ж як? Працуюць у дзве, а некаторыя — у тры змены...

— Трыбуна ёсць!.. Таварышы, газета стане трыбунай для ўсіх!

Такая думка спадабалася ўсім. Парашылі не абмяжоўвацца на гэты раз ні рэйдамі, ні рабкораўскімі пастамі. Раздадзім людзям анкету. Няхай кожны напіша свае меркаванні, прапановы. Абагульнім іх, надрукуем... А потым на абмеркаванне.

І вось ужо аркушы паперы з кароткім тэкстам пайшлі па брыгадах, па ўсёй будоўлі:

«У сакавіку ўпершыню за ўвесь час быў выканан месячны план на будоўлі. Што, на вашу думку, патрэбна, каб і ў красавіку і ў наступныя месяцы забяспечыць выкананне і перавыкананне плана?

Як вы выкарысталі сёння 420 мінут свайго рабочага часу?»

## «СТРАШНЫ» КРАСАВІК

Вольга першая з лісткамі анкеты пайшла па брыгадах. А я пачаў з дыспетчарскай. Народу тут перабывае за дзень многа.

З участка паступіла просьба: арганізуйце бабу. «Баба» — з даўніх часоў вядомая прылада. Карысталіся ёю нашы дзяды і прадзекі. Падымуць гэта драўляную «бабу» — кругляк чачотлівай бярозы, абцягнуты жалезнымі абручамі — і, скамандаваўшы: «раз, два — узялі!», апусцяць з усяго размаху на па́лю, заганяючы яе ў рачное дно.

Сёння дзейнічае механізаваная «баба». Магутны экскаватар падымае на тросах цяжкі, завостраны клінам кавалак металу і з вышыні б'е па зямлі. Ад натужнага равення машыны, ад цяжкіх удараў зямля дрыжыць, здаецца, «баба» праб'е яе наскрозь. А як падымуць яе для наступнага ўдару — убачыш на зямлі толькі маленькую, як той сподачак, умяціну. Зямля мёрзлая, звініць. А рыхліць трэба, каб хоць крыху аблегчыць работу экскаватара, які ідзе следам і пракладвае траншэю для трубаправода.

І гэта — у красавіку!

... Праз колькі дзён я зноў зайшоў у дыспетчарскую. На гэты раз, апрача Зіненкі, там быў галоўны інжынер будоўлі Фадзей Антановіч. Абодва яны стаялі каля вывешанага на сцяне плана промпляцоўкі, раіліся.

— Дыспетчар! Пліты «ПКЖ»! Куды везці? — пачулася з расчыненых дзвярэй.

— На 344-ы.

— А дабяруся?

— Памогуць...

«Памогуць» — гэта калі аўтамабіль забуксуе і не будзе ніякай надзеі выбрацца з палону размоклай зямлі, падыдзе трактар ці бульдозер і выцягне. Кароткі бывае шлях — з'ехаць з брукаванай заводскай дарогі пад вежавы кран, метраў дзесяць ці дваццаць, а такім доўгім здаецца.

Пра гэтыя кароценькія дарогі-пад'езды і непакоіліся дыспетчар і галоўны інжынер. Як адолець бездараж — гэтага «ворага нумар адзін». Самазвалы ўсё вазілі і вазілі пясок, засыпаючы глеістае месіва, кожны метр дарогі бралі з дапамогай бульдозера. Дастаўленыя такім парадкам на аб'екты бетон, арматура ці раствор цаніліся даражэй за ўсё.

Шафёры пасля такой паездкі забягалі ў дыспетчарскую, каб адзначыць падарожныя лісты і крыху адпачыць.

— Ну і дарожка! — чуўся сярдзіты бас на ўвесь «кабінет» і «прыёмную».

Яшчэ з парога шафёр, высокі, плячысты чалавек, выцірае з ілба пот. Нібы падняў перад гэтым тую самую пліту «ПКЖ» ці нават бэльку.

— А чаму не, галубок? — насмешліва запыталі яго таварышы.

Палагоднеў і шафёр, усміхнуўся.

— Ды і то праўда. Хіба можна крыўдзіцца, будуем жа мяса-каўбасу... — яго бас не месціўся ў сценах.

Такое азначэнне будоўлі я пачуў упершыню, і мне здалося яно вельмі трапным. Азотна-тукавы завод будзе штогод адпраўляць на палі тысячы тон каштоўнага азотнага ўгнаення ды мноства мачавіны — спажыўнага корму для жывёлы. Выходзіць, сапраўды, мяса-каўбаса.

Увайшоў новы наведвальнік.

— Не хапіла раствору, — паведаміў ён. — Пад'езд у нас добры...

— А чаму сам брыгадзір не прыйшоў?

— На ЦЭЦ засталося нас зусім мала. Канчаем. Уся брыгада на эстакадзе. І ён там.

Зіненка крутнуў дыск апарата:

— Выручай, бацця, — просіць ён майстра растворнага вузла. — Паўкуба трэба яшчэ. Тэрмінова... Так, звыш графіка. Ну, так атрымалася... Крутні, калі ласка, кубік раствору, мокрага, маркі 100.

Калі рабочы выйшаў, Зіненка растлумачыў:

— З брыгады Макарэвіча.

Гэтае імя я чуў на будоўлі не аднойчы. А таго, каму яно належала, не бачыў. Чуткі ж хадзілі розныя. Адны гаварылі: «Малайчына, не было яшчэ месяца, каб яго брыгада не выканала план». Другія ж кідалі скептычна: «Вядома, можна перавыконваць, калі брыгадзір заўсёды сядзіць у дыспетчарскай і наступае на горла. Яго выправадзяць, а ён зноў там...».

З галоўным інжынерам мы выйшлі з дыспетчарскай, і адразу нас захапіла ў палон будоўля. Яна расце ўвысь, ушыркі, няспынна, і варта не пабыць тут усяго некалькі дзён, як убачыш перамены. Павышэлі карпусы; на месцы катлавана густа пасталі калоны; пляцоўку перакроілі новыя траншэі для трубаправодаў, а іх тут напланавана столькі, што пад зямлёй месца не хапае, таму і будуюць эстакаду над зямлёй. Гэтая шматкіламетровая наземная эстакада, як кажуць спецыялісты, будзе такая моцная і надзейная, што па ёй можна пускаць паязды.

Нараджаецца, расплываючыся ўшыркі па наваколлю, і ляціць у

паднябессе магутная сімфонія гукаў. Чалавечыя галасы ўплятаюцца ў рокат экскаватараў і бульдозераў, у натужнае равенне самазвалаў, дробны перастук вібратараў, шыпенне электразваркі...

Усюды людзі, усюды кіпіць работа.

І ўсюды гразка. Ды так, што словамі не сказаць і на паперы не напісаць. Такое трэба бачыць, толькі тады зразумееш усю небяспеку, якую тоіць «вораг нумар адзін». Ва ўсякім разе, такую гразь я памятаю на сваім вяку двойчы. Першы раз — вясною 1944 года, калі наш Другі Украінскі фронт ішоў па Правабярэжнай Украіне. Чарназём, разбаўлены вадой, размешаны тысячамі ног, колаў, гусеніц, прыставаў да салдацкіх ботаў так моцна, што здзіраў іх з ног... Другі раз — таксама вясной, але ўжо на мірным фронце.

— Вядома, барацьба са стыхіяй — гэта гераізм, але ж...

— Разумею, што вы хочаце сказаць, — выбіраючы месца, куды ступіць, загаварыў галоўны інжынер. — У народзе расказваюць такі анекдатычны выпадак. Стаяць людзі на мосце, а ў вадзе валтузіцца чалавек, крычыць: «Ратуйце!» І вось з моста, доўга не думаючы, скача ў ваду другі чалавек. Калі ён, выратаваўшы тапельца, выйшаў на бераг, яго сталі хваліць: «Герой!». На пахвальбу ён адказвае: «Герой то герой, але хто мяне спіхнуў з моста?..» Так і тут, які ж гэта герой?

— Ну, усё ж такі...

— Гразь — гэта наш недагляд. Вельмі буйны. Ніхто нас не штурхаў на гэта. Самі пайшлі. Добраахвотна. Справа не толькі ў тым, што пляцоўку выбралі ў лагчыне, дзе пад пластомворнай зямлі залягае гліна, якую павыцягвалі наверх, бо ў нас жа вельмі вялікі аб'ём земляных работ так званага нулявога цыклу. Гэта ўсе работы, звязаныя з пракладкай падземных камунікацый (а на хімічнай будоўлі іх асабліва многа), закладкай падмуркаў і інш. Перадавая тэхналогія будаўніцтва патрабуе: спачатку выканай работы нулявога цыклу, потым бярыся за наземныя збудаванні. Але ж зрабіць так — значыць патраціць час, прыкладна, з год... А выпрацаваныя заводам за год мінеральныя ўгнаенні, калі іх унесці ў глебу, дадуць прыбаўку ўраджаю 41 мільён цэнтнераў зерня, ці 328 мільёнаў цэнтнераў бульбы, — і паглядзеўшы, якое ўражанне зрабілі на мяне гэтыя лічбы, дадаў: — Вось бачыце: выйграць год — значыць выйграць бітву за ўраджай. Таму і парашылі: ісці шырокім фронтам, ведаючы, што будуць і перашкоды, напрыклад, гразь.

— Хіба толькі гразь?

— Не, не толькі. І наша непадрыхтаванасць да вясны таксама!..

Інжынера паклікалі. Чакаючы, пакуль ён вернецца, я стаў глядзець на суседні корпус. Да яго было метраў дваццаць, але такі глей расплыўся наваколь, што мала хто ў тую багну адважваўся ступіць... Я глянуў на свае гумавыя боты і ўжо намерыўся ступіць крок, але чамусьці прыпомніўся расказ галоўнага інжынера пра «добраахвотніка» на мосце.

## ЯКАЯ ЯНА, ПРАЎДА?

— Далібог, няпраўда. Усё прыбралі, склалі ў кучу, зрабілі як мае быць, — пачулася збоку.

Воддаль гутараць двое. Аднаго з іх ведаю — майстар Мікалай Дзятлаў. Пазнаёміліся з ім надоечы. Знаёмячыся тады, ён сказаў: «Я той майстар, якога часам называюць прарабам».

Каменьчык у мой агарод. Гэта пра Дзятлава так пісала колькі дзён таму назад наша газета. Там было сказана: у дыспетчара будоўлі пыталіся, дзе прарабка Дзятлава. «Так і гаварылі: прарабка?» — перапытвае ён. — «Так і гаварылі» — пацвярджаю.

«Значыць, быць табе, майстар, у хуткім часе прарабам», — дружалюбна жартавалі рабочыя. Забягаючы крыху наперад, скажу, яны маюць падставу. Дзятлаў атрымаў летась дыплом тэхніка-будаўніка, скончыўшы ў Магілёве тэхнікум. Будоўля азотна-тукавага — гэта яго «баявое хрышчэнне», першая школа. Прытым, добрая. Пра такую можна толькі марыць. І Мікалай стараецца. Яго не раз адзначалі за добры парадак на аб'ектах і ўмелую арганізацыю працы.



**Сустрэўся муляр Франц Яновіч** (злева) **з прарабам Мікалаем Дзятлавым.**

І вось мы сустрэліся другі раз. Дзятлаў ідзе насустрач. Невысокі, у расхлістаным паліто, без шапкі. Твар з усмешкай, ды такой шырокай, светлай і шчырай, што гутарыць з ім — адна любата.

— Чаго гэта ён божыцца? — пытаюся.

— Ды так проста... нагаварылі, нібыта, калі капалі катлаван, дык засыпалі зямлёй будаўнічыя матэрыялы. Ну, схадзіў, праверыў. Нічога падобнага. А тут вось сустрэўся звеннявы. Чэсны чалавек, старанны. А вось калі на яго хто дарэмна нагаворыць, бянтэжыцца. І «далібог» дае. А яму і без «божання» ўсе вераць. А наогул, брыгада — малайцы, — заключае майстар. — Яна не мая. Будуе ЦЭЦ. Але там работы паменшала, і прыслалі да нас. Часова, памагчы збудаваць наземную эстакаду...

На памяць прыйшлі словы, пачутыя ў дыспетчарскай: «На ЦЭЦ нас зусім мала. Усе на эстакадзе». Тады ішла гутарка пра брыгаду Макарэвіча.

— Хто ж у іх за брыгадзіра?

— Макарэвіч брыгадзірам... А працуюць! Адным словам, як франтавікі!..

Дзятлаў на якое імгненне сумеўся, зразумеўшы затоены сэнс пытання, і гаварыў далей гэтак жа горача і ўпэўнена:

— Ну, канешне, я не ведаю, як яно раней было... А тут па-баявому працуюць. На аб'екце заняты тры брыгады. Дзве першыя ўклалі ў падмурак па 40—45 кубаметраў бетону. А Макарэвіч, як думаеце, колькі?

Беручы пад увагу, што майстар хваліць брыгаду, «адгадваю»:

— Семдзесят...

— Гм, семдзесят, — іранічна паглядзеў ён, — семдзесят... А што падумаеце, калі дзвесце! Дзвесце кубаметраў! Га?!. Спаборнічаюць за званне калектыву камуністычнай працы... А працуе яна вунь там, бачыце?

Перада мной удалечыні завіхаліся людзі, гарэлі кастры. Кастроў было многа, яны доўгім пункцірам перасякалі пляцоўку, а потым беглі ўправа і самыя далёкія хаваліся за збудаванымі карпусамі. Брыгада капала катлаваны пад фундаменты наземнай эстакады. Праз кожныя дванаццаць метраў — апора, значыць, праз кожныя дванаццаць метраў — катлаван на два з лішнім метры глыбінёй. А зямля... дарма што зверху такая гразь, капянеш раз-другі рыдлёўкай — і метал дзынкае аб лёд. А яго больш за метр. Кастры вымушаны разводзіць: знімуць зверху зямлю на два штыхі, а потым распальваюць... Метровых плашак з паўкубаметра — на адзін касцёр. Іншы ўвішны хлопец пакруціцца ля механізатараў і дастане з паўвядра саляркі ці якога мазуту — вось і палыхае агонь,

адтайваючы змерзлую зямлю, зацягваючы ўсё дымам. Так змагаюцца з мерзлатой тыя, каму не дасталася «баба». І гэта ў красавіку... Але ж агонь не растоплівае зусім лёд, а толькі робіць яго храпаватым, больш падатлівым. Потым пойдуць ужо ломікі, кіркі — «цяжкая артылерыя» землякопа.

— Заўважце, — гаворыць далей Дзятлаў, — праца некваліфікаваная. А працуюць спецыялісты высокага разраду — каменшчыкі, бетоншчыкі, цесляры. І не скардзяцца, бо разумеюць: трэба. Я ўжо гаварыў, якія яны! За змену даюць 130—170 працэнтаў, а іншы раз і дзве нормы.

Як жа разабрацца пасля гэтага, дзе праўда?..

Пад канец дня я быў у канторы. Яе называюць тут кароткім, баявым словам: «штаб». Не паспеў ступіць на парог, як чалавек з незатоенай іроніяй у голасе павядаміў:

— Вас цікавіць Макарэвіч? Паглядзіце на дакуменцік у начальніка будоўлі. Усё стане ясна!..

І паспешліва падаў аркуш паперы. Копія. Чытаю: «Брак на аб'екце № 350 — у падмурку адной з грануляцыйных вежаў. Два кубаметры маналітнага жалезабетону прыйшлося разбурыць...»

— Падмурак грануляцыйнай вежы... — машынальна паўтарыў я.

— Так, так, на гранвежах...

І прыгадаўся мне такі малюнак. Брыгадзір бетоншчыкаў Канстанцін Аўтух (мы знаёмы з ім ужо гады два, з таго часу, як ён будаваў Ваўкавыскі цэментны завод «Перамога») «кінуў галоўныя сілы сваёй брыгады» (так ён казаў) на падсыпку пад'язднога шляху да свайго аб'екта. А аб'ект яго — дзве грануляцыйныя вежы і этажэрка пры іх, адзін з самых складаных на ўсёй будоўлі. І вось з падмуркам не пашанцавала. Здарыўся брак. Не вялікі, але брак. І вось цяпер адбойны малаток угрызаўся ў жалезабетон, а яго дробны перастук зліваўся з тарахценнем кампрэсара. Адвальваліся цяжкія глыбы бетону, агаляючы сталёвую арматуру.

Прызнацца, у той момант мне і ў галаву не прыйшло, каб спытаць: што гэта вы робіце? Усё здавалася ясна. А ў Аўтуха, калі ён гаварыў пра гэта, быў такі засмучоны выгляд, як у чалавека, які просіць прабачэння.

Тут жа, на парозе канторы, дапытваюся:

— Дык, значыць, брак зрабіў Макарэвіч?

— Макарэвіч.

— А памылкі тут няма?

— Ніякай. Усё, як у ясны дзень.

— А брак зрабіў, часам, не Аўтух?

— Ды не ж. Кажу, што Макарэвіч. Во, тут так і напісана: «Брак дапушчан брыгадай Макарэвіча»...

Я пайшоў да начальніка. Следам за аркушам паперы. А ў вушах рыпела: «Спаборнічаюць за камуністычнае званне, а брак зрабілі...».

## КАЛІ ГЛЯДЗЕЦЬ З «КП»

— Заходзь, заходзь, — сказаў мне сакратар абкома партыі.

У кабінеце былі яшчэ двое — іх я добра ведаў — упраўляючы Гродзенскага будаўнічага трэста Кіціс і намеснік дырэктара азотна-тукавага завода Гарбенка. Усе сядзелі ля стала і сядзелі, відаць, даўно, бо попельніца была поўная недакуркаў.

Гутарка аднавілася. Гаварылі, як можна было зразумець, пра трубы. Значыць, наконт анкеты прыйдзецца пачакаць. Услухоўваюся ў гутарку. Гавораць пра дзве з лішнім тысячы тон труб, якія трэба зманціраваць ужо сёлета. Запаслівы Гарбенка выцягнуў з папкі аркуш паперы, відаць, загадзя падрыхтаваны.

— Трубы вось, — ён тыцнуў пальцам у паперу. — Дзяржплан Саюза выдзеліў. Столькі, колькі прасілі, — 2196 тон. З іх 2096 тон перадана Міністэрству будаўніцтва, — глянуў пры гэтым на Кіціса.

— А яшчэ 100 тон дзе?

Гарбенка ўчытваецца ў паперыну, нарэшце, паціскае плячыма:

— Тут не сказана. Павіслі недзе ў паветры... Аднак 100 тон гэта кропля. Галоўнае — знайсці 2096 тон. А гэта нялёгка. Дасталіся яны Міністэрству будаўніцтва, а на нашу пляцоўку пакуль не паступілі, значыць, разбазараны. Здагадваюся: за кошт асабліва важнай будоўлі саюзнага значэння забяспечваюцца будоўлі звычайныя. Іх гэтаму не вучыць, — зноў глянуў на Кіціса.

Той маўчаў, пакуль не здарылася непрадбачанае. Гарбенка натыкнуўся ў сваёй папцы на паперку, у якой было напісана, што тыя 100 тон труб... атрыманы ўжо дырэкцыяй завода, гэта значыць Гарбенкам. Працяглая, вельмі выразная паўза, якую парушылі словы Кіціса:

— Так вы клапоціцеся пра будоўлю?!

Але Гарбенка і не думаў адступаць:

— Ну, добра, 100 тон знайшліся, — кінуў ён. — Аддадзім іх мантажнікам. Урэшце, пагоды яны не робяць... А астатнія? Дзе 2096 тон?..

І зноў усё спачатку. Зноў словы аб тым, што мантажнікі будуць сядзець без труб, што наогул будаўнікі такія — толькі б як мага больш загрэбсці дэфіцытных матэрыялаў. Ну, навошта аддалі сантэхнікам столькі труб — яны ж ні аднаго вытворчага трубаправода не манціруюць, гэтым будзе займацца «Саюзпраммантаж»...

— Во-во, а чаго ж вы самі не хочаце распараджацца сваімі трубамі? — сказаў Кіціс. — Майце на ўвазе: пастаўка тэхналагічных труб — справа заказчыка. Ваша, значыць. Значыць, і клопат ваш.

— Ды Саўнаргас не хоча... — сказаў Гарбенка, думаючы, што схаваўся ад крытыкі.

Пры гэтых словах Кіціс раптам падскочыў, хуценька перагнуўся цераз стол да Гарбенкі, «па-сяброўску» дэманстратыўна паціснуў яму руку:

— Іменна — Саўнаргас. За такое шчырае прызнанне дзякую, дзякую... Толькі давайце ўдакладнім. Саўнаргас — гэта сотні чалавек па штату. А канкрэтна хто? Не скажаце. А я скажу: вы. Вы трое — дырэктар завода Антонаў, яго намеснік Гарбенка, галоўны інжынер Лаўрычэнка. Бачыце, захацелася спіхнуць з сябе лішнія турботы.



### ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Яўгену САНЬКО** толькі мінула трыццаць гадоў. Ён нарадзіўся ў калгаснай сям'і на Херсоншчыне. Скончыўшы Адэскае мастацкае вучылішча, працаваў скульптарам на Баранаўскім фарфоравым заводзе. Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета, абараніўшы дыпломную работу — барэльеф «Абаронцы Брэсцкай крэпасці».

### ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

На Браншчыне ў 1926 годзе нарадзіўся **Аляксандр КАЛЮЖНЫ.** Рос ён у сям'і калгасніка, вучыўся ў школе, а калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, памагаў дарослым біць гітлераўцаў. Пасля вайны атрымаў сярэднюю мастацкую адукацыю, а пасля паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.

Сёлета абараніў дыпломную работу — жывапіснае палатно «Пра справы калгасныя».



Сутыкнуліся заказчык і падрадчык. Мне не аднойчы даводзілася быць сведкам такіх спрэчак і можна было б думаць: вось сышліся людзі з зусім працілеглымі інтарэсамі. Не, усё, аб чым гаварылася, я зразумеў так: упраўляючы трэста хацеў проста падкрэсліць недагляд дырэкцыі завода, тым больш, у прысутнасці сакратара абкома. Няхай бачыць, што ён, Кіціс, стараецца з усіх сіл, каб знайсці тыя трубы. Але ж спачатку ён прачытае мараль гэтаму Гарбенку.

— Вось, — кажа, — нашы гродзенскія будаўнікі закончылі рэканструкцыю і пабудавалі дзве новыя тэхналагічныя лініі ў Ваўкавыску на цэментным заводзе. Дарэчы (позірк у бок Гарбенкі), будоўляй кіраваў там Рубанік... Добра папрацавалі, на сем месяцаў раней тэрміну выканалі заданне. Падзяку ЦК партыі і ўрада рэспублікі атрымалі, многія былі ўзнагароджаны. Канец, кажуць людзі, усёй справе вянец. Добры там атрымаўся вянец. А пачатак быў дрэнны. Дырэктар прадпрыемства лічыў, што клапаціцца пра абсталяванне — не яго справа. Будаўнікі прыйшлі будаваць, няхай яны і дбаюць пра ўсё, а потым падвядуць яго да кнопак кіравання... Перавыхавалі мы дырэктара, і справа пайшла на лад. Але гэта — між іншым, — заўважыў Кіціс. — Што ж нам прыдумаць цяпер наконт труб?

І зноў гутарка наблізілася да надзённага клопату. Слухаеш, і не скажаш, што ўсяго мінуту-другую назад субяседнікі падколвалі адзін аднаго дасціпнымі слоўцамі. Дамовіліся: упраўляючы трэста і дырэктар завода паедуць у Мінск да міністра і там будуць утрасаць пытанне наконт труб.

Скажу, што гэтае пытанне хвалявала будаўнікоў не першы месяц. Нездарма ж сакратар абкома сабраў зацікаўленых на нараду, а потым штодзень пытаўся, як з трубамі... Тыдні праз два трубы пачалі паступаць на будоўлю вагонамі, і ўсе з палёгкай уздыхнулі.

Між тым, гутарка пайшла аб здачы пад мантаж абсталявання блока механічных цэхаў. Тут зноў пайшоў у наступ Кіціс:

— Вы прасілі нас, — глянуў на Гарбенку, — здайце цэх як мага хутчэй. Пайшлі насустрач. Узялі абавязацельства: здаць у маі, на месяц раней тэрміну. І вы ж спуталі нам рукі і ногі. Дзе матэрыялы і абсталяванне, каб весці сантэхнічныя і электратэхнічныя работы?..

— Электракабелем мы забяспечылі на 60 працэнтаў...

— А чаму не на ўсе сто? Калі аддасцё мантажнікам вентылятары, калярыферы?

Трубы займаюць сваё месца на эстакадзе.



Для бетонных труб падрыхтаваны траншэі, а ўкладку вядзе Уладзімір Хох.

— Ды Саўнаргас зацяг... — Гарбенка асекся, не дагаварыўшы.

— Майце на ўвазе, — заўважыў Кіціс, — для нас, будаўнікоў, Саўнаргас — гэта вы. Зарплату вам плаціць ён.

Гарбенка думаў знайсці паратунак у тым, што прамовіў:

— Добра, прымем цэх без сантэхнікі...

Але адразу атрымаў адпор:

— І акцік падпішаце? Каб была бачнасць законнасці? Значыць, на прыпіску штурхаеце... Малайцы, малайцы...

— Ну, хопіць вам, — спыніў спрэчкі сакратар абкома. — Вядома. Гарбенка так не зробіць.

Змест далейшай гутаркі накіраван быў пытаннем сакратара абкома: «Прадумана вамі ўсё наконт пуску завода? Заключайце дагаворы з субпадраднымі будаўніча-мантажнымі арганізацыямі. Фарсіруйце ЦЭЦ, трэба хутчэй — не пазней лета — прыступаць да будаўніцтва корпуса пад КВП. Работы трэба паскорыць...»

Гэта было ў красавіку 1962 года, а пуск першай чаргі завода прызначаны на канец 1963 года. Прызнацца, мяне гэта ўразіла сваёй далёкай, здавалася мне, вельмі далёкай перспектывай. Паглядзіш на пляцоўку — працы яшчэ ўга колькі! Але ж і зроблена за 15 месяцаў столькі, што чалавек, які тут першы раз, паверыць не адразу: гэтулькі набудавана ўсяго за год!

Застаецца ж адзін год і тры чвэрці. А зрабіць трэба куды больш. Адзін толькі корпус КВП — кантрольна-вымяральных прыбораў — гэта ж трохпавярховы гмах, а калі ўлічыць яшчэ яго «начынне»... А ЦЭЦ? Розлік такі: уступіць яна ў строй хутчэй, значыць, завадскія карпусы атрымаюць зімой цяпло і мантаж абсталявання пойдзе бесперапынна, а калі не... значыць — будзе затрымка.

Загаварыў зноў начальнік будаўніцтва Рубанік.

— Нам, таварыш Гарбенка, патрэбна рабочая дакументацыя па корпусу КВП і на ЦЭЦ. Тры сцяны пабудавалі, а на чацвёртую няма чарцяжоў...

— Упёрся дырэктар Белэнергапраекта — і ні з месца. Не дае дакументацыі. І нічога не зробіш. Падначальваецца ён Маскве...

— Але ж ён і ЦК падначальваецца.

— Добра, — сказаў сакратар абкома, — паспрабуем уздзейнічаць праз ЦК. А як з помпавай станцыяй на Нёмане? Удакладнялі?

— Так, удакладнялі. Кансультаваліся з навукова-даследчымі інстытутамі, якія вывучаюць пытанне аб Чарнаморска-Балтыйскім

водным шляху. Будуем помпавую з улікам іх заўваг.

Будучы ў дыспетчарскай сведкам бясконцых клопатаў Зіненкі, я сам сабе задаваў тады пытанне: што ж у такім разе застаецца рабіць начальніку будаўніцтва? І вось тут атрымаў частковы адказ. Штаб будоўлі — на большай вышыні, чым дыспетчарская, і з гэтага каманднага пункта адкрываецца больш далёкая перспектыва.

### ЗА НАМІ ПАЙШЛІ ДРУГІЯ

Аднойчы ў рэдакцыі пачуўся тэлефонны званок. Парторг будоўлі Фёдар Яфімавіч Гаранкоў паведаміў навіну: дэлегацыя гродзенцаў вярнулася са Светлагорска ад будаўнікоў завода штучнага валакна. Ездзілі брыгадзіры. Уражанняў шмат. Можа, гэта цікава для газеты?

У той жа дзень пад вечар я ўжо чытаў артыкул. Чалавека, які прынёс яго, я не ведаў.

— Мы ўтрох ездзілі,— сказаў ён.

Перагарнуў некалькі старонак, гляджу на подпісы: Пятро Кот, Аляксей Герасімаў, Уладзімір Макарэвіч.

«А хто ж вы?» — гатова было сарвацца пытанне.

— Утрох ездзілі, утрох і пісалі...

Так знянацку адбылося знаёмства з брыгадзірам Уладзімірам Макарэвічам, пра якога я так многа ўжо чуў.

Новы мой знаёмы, нават калі ён сядзіць, заўважыш, што высокі ростам, плячысты. Светлы выгаралы на сонцы чуб, валявы твар. Апрануты хлопец у ватоўку, ватныя штаны, боты, на галаве — вушанка. Але ў манеры апранацца было нешта сваё. Усё падагнана па фігуры, падцягнута, як у салдата-страявіка.

— Дык як жа пачалося ў вас з светлагорцамі спаборніцтва?

— Можна сказаць, як часта бывае, — расказваў Уладзімір.— Выступаў гэта летась я па радыё... І ўнёс прапанову: давайце, кажу, паспаборнічаем. Нашы будоўлі закладваліся, прыкладна, у адзін час, аднолькавы тэрмін вызначаны для здачы ў эксплуатацыю. Праўда, наконт спаборніцтва — гэта была думка ўсёй брыгады. Чакаем. І вось прыходзіць вестка: светлагорцы прынялі выклік, брыгадзір Георгі Мітраховіч адказвае — таксама ж па радыё — давайце спаборнічаць!..

За намі пайшлі другія. Іншыя брыгады абедзвюх нашых будоўляў уключыліся ў спаборніцтва, потым абодва калектывы заключылі сацумову. Завязалася дружба. Мы ўжо ездзілі ў госці да светлагорцаў і не раз прымалі іх. Сябруем са светлагорцамі — з брыгадамі Віктара Пятніцкага, Аркадзя Бандарэнкі, Георгія Мітраховіча. З многімі іншымі. І кожны раз многа карыснага знаходзім адзін у аднаго. Зацікавіў нашых будаўнікоў іхні метад ізаляцыйных работ. У нас — уручную, а там — механізаваным спосабам,— гэта разоў у пятнаццаць хутчэй. Аляксей Герасімаў занатаваў у блакноцік, дзе яны купілі спецыяльную ўстаноўку, і паведаміў ужо іншым ізаліроўшчыкам адрас таго завода. Або, скажам, агарожа. Пабудавалі яе светлагорцы са зборнага жалезабетону, які самі прыгатавалі. Добрая агарожа. А ў нас агарожу пабудавалі з цэглы, і яна абышлася амаль у два разы даражэй.

Вядома, заўважаем і недахопы. Раімся, як ліквідаваць іх.

— І яшчэ там навіна — буйныя брыгады,— гаварыў далей Макарэвіч.— Ехалі мы дамоў і абмяркоўвалі гэтае пытанне. Вось у нас на 345-м і 347-м аб'ектах працуюць дзве брыгады — Аляксея Герасімава і Вяслава Гапоніка. Чалавек па пятнаццаць кожная. А вежавы кран адзін. Калі б тыя людзі былі ў адной брыгадзе, кран паспеў бы падаць ім патрэбныя матэрыялы. А для двух — не паспявае, бо брыгадзіры цягнуць кожны сабе. Іншы груз, калі па-гаспадарску глядзець, мог бы і пачакаць, ды брыгадзір усё роўна падымае яго на рыштаванні, таму што «яго» груз, для «яго» брыгады. А суседзі ў гэты час можа прастойваюць, бо не хапае самага неабходнага. Гэта ж тормаз у рабоце,— і Макарэвіч бліжэй падсунуўся да стала, на паперы прыкінуў схему расстаноўкі людзей, работы па-новаму.



Людзі з брыгады Уладзіміра Макарэвіча.

Тое, што чуў раней: «узбуйняць брыгады не варта» — пачало абвяргацца пераканаўчымі довадамі людзей, якія на сваіх рабочых плячах адчуваюць, што лепш, а што горш. Але ж я ведаю і іншае: таму, што працавалі ўзбуйненымі, комплекснымі брыгадамі, Гродзенскі адзінаццаты трэст выйшаў з прарыву. Умацавалі будаўнічыя брыгады. Яны перайшлі на гаспадарчы разлік, сталі комплекснымі, пачалі выконваць больш работ і неўзабаве заваявалі ў сваім развіцці новую вышыню — сталі брыгадамі канчатковай прадукцыі.

Усталявалася цішыня, якую ўрэшце прыйшлося мне ж самому парушыць.

— Значыць, добра. Артыкул у вас атрымаўся. Так і таварышам перадайце. Надрукуем.

На тым і развіталіся.

### У БРЫГАДЗЕ МАКАРЭВІЧА

Людзей з брыгады Макарэвіча цяжка было знайсці ў гэтую раніцу. Некалькі чалавек працавалі на ЦЭЦ, другія на катлаванах.

Адзін катлаван яшчэ пачынаюць капаць, у другім заўважаеш толькі, як раз-пораз выкідваецца адтуль невялікімі порцыямі чырвоная гліна — яна вылятае нібы сама па сабе, бо ні людзей, ні рыдлёвак не відаць; далей па трасе — у апалубку ўжо заліваецца бетон.

Яшчэ здалі пазнаю Макарэвіча. У той жа ватоўцы, шапцы, ссунутай на патыліцу. Шпарка ходзіць. Знікае ў адным катлаване, праз мінуту-другую вынырне ўжо ля бетоншчыкаў, а потым — пабег... Куды? Ага, нясе на плячах нівелір. Паставіць трыногу, праверыць адзнаку катлавана па глыбіні, а потым саскоквае ўніз і загадвае, што далей рабіць. Не толькі загадвае, але і сам бярэцца за рыдлёўку. Як салдат. Больш дакладна — як памкамўзвода. Ёсць такая неспакойная пасада ў арміі — памочнік камандзіра ўзвода.

Вось бегае, бывала, камандзір па ўчастку, нібы адведзеным узводу, каб заняць абарону, тлумачыць кожнаму з 30 ці 40 сваіх салдат, дзе капаць індывідуальную ячэйку, дзе — траншэю, дзе — для аўтаматчыкаў, дзе — для кулямёта, і якія будуць сектары абстрэлу — усё скажа, кожнаму растлумачыць, пакажа. А потым капае акопчык для сябе, і капае хуценька, напружваючы ўсе сілы, бо вось-вось наступіць раніца, пачнецца бой, значыць — будуць кулі і асколкі, а яны не разбіраюцца, чаму ў цябе неглыбокі акопчык — па ўважлівай ці няўважлівай прычыне: часу не было або ленаваўся. Разводнее, і памкамузвода правярае, ці добра замаскаваны акопы, а да гэтага, у

начной цемры, ён паспеў ужо збегаць у тыл і разведаць шляхі, па якіх будуць падносіць боепрыпасы, сняданак. Так было на вайне.

А цяпер? Нешта падобнае, калі глядзіш, як увіхаецца брыгадзір. Толькі зорачкі пяцікутнай няма на шапцы брыгадзіра, а так — поўнае падабенства з памкамузвода.

Праз мінуту Уладзімір Макарэвіч разам з двума рабочымі, прыхапіўшы нівелір і згорнутыя трубкай чарцяжы, пашыбаваў у другі канец будоўлі. Ідучы ўжо, загадаў:

— Праз гадзіну яшчэ ўдвух няхай падыдуць з рыдлёўкамі.

На новым месцы вывяраў адзнакі новага збудавання, усё заізіраючы ў чарцяжы. Рабочыя памагалі: забівалі калочкі, значылі ямкі... Напярэдадні тут бульдозерам выкапалі катлаван, і тое, што належала зрабіць брыгадзе, у нарадах запісваецца так: падчысціць катлаван. Падчысціць — гэта значыць паглыбіцца на якую трэць метра, умацаваць сценкі, каб зямля не асыпалася. Адным словам, усё падрыхтаваць для ўстаноўкі арматуры і бетаніравання.

Калі праз гадзіну я прыйшоў сюды, унізе працавалі ўжо ўчатырох. Мы ўжо былі знаёмыя. Вітаемся. Каб не маўчаць, прыгадаў старую прымаўку:

— Бог на помач.

— Бог казаў, каб ты памагаў, — таксама жартам гаворыць Іван Шышка. Я і не знаў, што тая прымаўка мела такі неспадзяваны канец.

— Каб рыдлёўка не гуляла, — дадаў другі.

— Хіба што — каб не гуляла, — згаджаюся.

Да перапынку на абед заставалася не так доўга — гадзіны паўтары, і я смела споўз па адхону ўніз. Далі мне рыдлёўку — не тую, якую я намерыўся ўжо ўзяць — шырокі шуфель, а меншую, штыхавую.

— З памочнікам справа пойдзе весялей, — сур'ёзна зазначыў Пятро Васільевіч Буркас.

Праз некаторы час у нас у катлаване стала ціха. Зямля паддавалася лёгка. Толькі чутна, як зярністы пясок шаргаціць аб рыдлёўку, шліфуе да бляску жалеза. Капаць было няцяжка. Націснеш, падвернеш, выкінеш... Націснеш, падвернеш, выкінеш... Толькі чутна: «ш-шых — ш-ш-шах», «ш-шых — ш-ш-шах»... Нібы касой па мурожнай траве.

І пылу не было. Таму што каторыя ўжо суткі зэпар ішоў дождж. Не праліўны майскі, а самы сапраўдны асенні: з неба сыпалася нейкая смуга, не перастаючы, потым раптам праз туманную навісь праб'юцца дажджавыя кроплі, падаюць рэдка, але надакучліва... Каб кропляў падала не так многа, іх можна было б лічыць.

— Эх, каб сонца — у майках бы... — марыць Іван Крышаловіч.

Так, у маі думкі аб сонечным цёплым надвор'і маглі быць толькі марай. Гаварылі, што красавік «страшны», але ж май яшчэ халаднейшы. Толькі пяць дзён сонечных налічылі за месяц...

На заўвагу аб сонцы і майках ніхто не адказвае. Таму што праца, кажучы словамі Буркаса, ішла «весялей». Гэта значыла — ніводнага слова, строгі рытм, і яму падпарадкавана ўсё, нават частата дыхання.

З правага боку ад мяне — Буркас. Чалавек ужо ў гадах, астатнія на многа маладзейшыя за яго. Ён працуе шуфлем. Рухі яго, быць можа, маруднейшыя, чым у маладых, але кожны раз выкідвае поўны шуфель. «Чвэртка пуда, а то і ўся трэць», — прыкідваю. Што ні ўзмах — выкінута амаль як тры маіх рыдлёўкі.

Бачу, паказалася цагліна, потым кавалак дошкі. Адкуль яны на двухметровай глыбіні? А то раптам паперка ад цукеркі...

— Што такое?

— Капаем не па цаліне, — сказалі хлопцы. — Гэтая зямелька перавернута ўжо не менш як два ці тры разы. Яшчэ калі ЦЭЦ будавалі...

Стала цяжэй. Радзей выкідваецца зямля, неяк пацяжэла рыдлёўка. Першая кропля поту раўчуком пабегла да самага вока, а неўзабаве ўжо шмат іх, і яны засцяць вочы, шчыплюць...



Толькі цяпер да мяне стаў даходзіць сэнс той засяроджанасці, з якою Іван Шышка вывучаў чарцяжы і адзначаў у натуры, адкуль і колькі зямлі выбіраць, куды выкідаць. Шукаў, значыць, найкарацейшую дарогу.

Добры ты да людзей, Іване Шышка! А жыццё табе далося нялёгкае. Ты яшчэ малады, гарэзлівыя агеньчыкі свецяцца ў тваіх вачах, а скроні ўжо пасярэбраны сівізной. Няма, бадай, у цябе аніводнага знаёмага, хто не спытаў бы пра гэтую раннюю сівізну.

— Ды так, парода такая: сівізна ў мяне ад нараджэння, — жартам гаворыш ты, каб зноў не ўспаміналіся цяжкія гады юнацтва.

Палягчэла, калі падрос. Свой жыццёвы шлях Іван пачаў на Ленінскіх гарах у Маскве, дзе будаваў універсітэт, а потым 32-павярховы вышынны дом на Кацельніцкай узбярэжнай. Вярнуўся дамоў у невялічкую вёску Зубрава пад Гродна і стаў за лесніка. Любіў лес і цяпер любіць яго. Але ж як прачытаў у газеце: патрэбны муляры на азотна-тукавы — не ўседзеў, прыехаў.

У брыгадзе любяць цябе, Іване. За працавітасць, за сумленнасць і адкрытую душу. Неяк напрадвесні падзяліўся ты з таварышамі сваёй радасцю:

— Дэмабілізаваўся з арміі мой брат Віктар. Цясляр ён, заўтра прыйдзе афармляцца...

— Няхай ідзе да нас у брыгаду!

Ніхто не спытаў, які ён, твой брат, — усе ведалі: у такога добрага чалавека ці ж можа быць брат благі!

Віктару, як і Івану, працуецца лёгка. Спрытна ходзіць у яго дужых руках шуфель, з шоргатам ляцяць камякі зямлі. У яго праменістых вачах — радасць. Радасць ад усяго. І ад таго яшчэ, што прысвоілі трэці кваліфікацыйны разрад, і ад таго, што яго павіншаваў сам старшыня прафсаюза...

Падышоў незнаёмы чалавек — хударлявы, з выцягнутым тварам, у добрым летнім паліто, з пад якога вытыркаўся вузкі каўнер цёмнай гімнасцёркі, падпіраў падбародак.

— А... Барыс, прывітанне! — пачулася з усіх бакоў. — Прывітанне. Ну, расказвай, як яно там і што...

Незнаёмы стаяў высока на брустверы, і калі глядзець з катлавана, перш за ўсё ў вочы кідаюцца незапэцканыя боты. Як гэта ён умудрыўся так прайсці?!

— Не сядзіцца ў хаце? — сыплецца з розных бакоў. — А выгляд маладзецкі!..

— Ды гэта ж Барыс Мужахаеў, — шапнулі мне, калі той загаварыў. — На муляра вучыцца, а цяпер бюлетэніць.

— На Першае мая, значыць, гэта атрымалася, — расказваў мне пазней, як пазнаёміліся, Барыс. — Усе на дэманстрацыі, а я, браткі, у той час... ой, што было! Хуткая дапамога прыімчала мяне ў бальніцу. Цяжкі прыступ... Ну, а праз гадзіну я ўжо ляжаў на аперацыйным стале. Сам прафесар рабіў аперацыю... Выйшла ўсё проста: разрэзалі, адрэзалі, зашылі. Вось і ўвесь расказ пра апендыцыт!..

— Трэба не спяшацца, добра адпачыць, — заўважыў яму.

— Бюлетэнь на тры дні яшчэ. А сюды трапіў, ну... выпадкова. Гуляў па горадзе і не заўважыў, як наш дванаццаты аўтобус даімчаў мяне сюды... А хіба гэта не адпачынак?! Поле, паветра чыстае...

І зноў у катлаване толькі і чуваць «ш-шых — ш-ш-шах, ш-шых — ш-ш-шах».

Настаў абедзенны перапынак. Наперадзе цэлая гадзіна адпачынку.

— А гэта праўда, што ў Кітаі ёсць такі закон: кожны начальнік абавязкова павінен час ад часу займацца фізічнай працай? — пытаюцца.

— Праўда.

— Значыць, калі то інжынер — можа шаферам, ці токарам, ці мулярам. А калі ў таго кіраўніка ніякай іншай спецыяльнасці, акрамя, як кіраваць?..

— Мусіць, зямлю тады капаць...

Нядоўгая, на некалькі секунд

паўза, а потым Пятро Васільевіч Буркас гаворыць:

— Зямлю калупаць кожны, мусіць, умее. Тут вялікай навукі не трэба. Няма, мусіць, такога, каму ў вайну капаць не давялося. Колькі шрамаў на зямлі нарабілі? Я артылерыстам быў, меў вялікую сапёрную рыдлёўку. Капалі сховішча і сабе, і для гарматы.

«Сапраўды, — прамільгнула ў мяне ў думках. — Колькі зямлі перавернута ёю?! Рыдлёўка тая разы ў два меншая за кухарскі апалонік, а такая ёмістая...»

Шмат глыбокіх шрамаў пакінула на зямлі маленькая сапёрная рыдлёўка. Больш, чым вялікая. Ды не знойдзеш іх цяпер, тых шрамаў... Пазасыпала іх рука таго ж самага воіна, які стаў будаўніком. І тут, на месцы азотнатукавага, засыпан не адзін акоп нядаўняй вайны. Колькі год расло жыта, а цяпер узнімаюцца гмахі новага завода... Сапёрная рыдлёўка служыла вайне, яе сястра — рыдлёўка будаўніка — служыць справе мірнага жыцця. Таксама дыялектыка...

— Закопваўся ў зямлю са сваёй матухнай-засцярожніцай, — так Пятро Васільевіч называе 155-міліметровую гаўбіцу. — У Венгрыі было тое. Чулі пра возера Балатон? Горача там было. Акопваліся і ў Аўстрыі, і ў Югаславіі. А потым узялі кірунак на Чэхаславакію, дабіваць гітлераўцаў, ну, ды іх там, не чакаючы нас, прымусілі рукі ўгару ўзняць.

Пятро Васільевіч — дзядзька Пятро, як звяртаюцца да яго ўсе, ды яшчэ Іосіф Хурс — толькі яны ўдвох з усёй брыгады ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне. Буркасу ўжо за пяцьдзесят. Астатнія ж, не лічачы Хурса, у два-тры з паловай разы маладзейшыя за Пятра Васільевіча і могуць быць яму за сына ці дачку. Моладзь любіць слухаць успаміны салдата, а ён любіць прыпамінаць былое. Прыпамінае, а потым возьме ды і скажа:

— Будаваць не тое, што страляць ды руйнаваць. Што больш робіш, то яшчэ больш хочацца. Вось якая прыгажуня электрастанцыя. Паглядзіш зводдалі — бы санаторый ці які іншы палац.

А хто будаваў? Мы. Брыгада Макарэвіча! Гэта ж разумець трэба. Скажа і так па-бацькоўску ласкава пагглядзіць на маладых сяброў. Тыя, хто ў брыгадзе з першага дня, памятаюць, як прыйшоў да іх у калектыў дзядзька Пятро. Было гэта тады, калі будавалі інтэрнат.

— Лічыце, таварышы, што нам пашанцавала. Такі майстар прыйдзе да нас... — неяк абвясціў брыгадзір.

І яго чакалі. Чакалі, таму што ў брыгадзе было чацвёра муляроў ды адзін цясляр, а ўсе астатнія ўмелі хіба што падаць-прынесці.

Пятро Васільевіч адразу зрабіўся ў калектыве сваім чалавекам. Майстар, а ўменнем сваім не ганарыцца, не з гаваркіх, але кожнаму раскажа і з ахвотай пакажа. Наогул заўважылі з першага дня, што ў гэтага чалавека сталага веку рухавасці і энергіі — за маладога. Адкрыты шырокі твар глядзеў сур'ёзна, а калі маршчынкі крыху разгладжваліся — ласкавыя вочы вабілі да сябе мяккім, прыхільным позіркам.

І так ужо сталася, што з першага ж дня ў старога майстра з'явіліся вучні. Ніхто афіцыйна іх не назначаў, ніхто і старога не прасіў, а само па сабе сталася так, што юнакі «папрыставалі» да старога і ён вучыў іх.

— Цэглу трэба класці так, — і паказвае: правай рукой разроўнівае падушку з раствору, левай мякка кладзе цагліну за цаглінай. І зверху прыстуквае тронкай кельмы: тук-тук.

Браліся хлопцы самі за цэглу, вялі ўнутраны рад, рабілі забутоўку. Першыя ж тры «самастойныя» цагліны, і настаўнік заўважае: «Перакласці...» Падышоў да наступнага вучня, а тут не тры цагліны, а ўжо цэлы рад выгнаны. Тая ж заўвага: «Перакласці... Вось так...»

— Галоўнае для нашай будаўнічай справы — якасць, — паўтараў увесь час Пятро Васільевіч. — Глянуць людзі і скажуць, якія мы з табой будаўнікі.

Буркас прыйшоў у брыгаду і наогул на будоўлю пазней за тых, каго ён стаў вучыць. А да гэтага было нейкі час такое, аб чым ён сам успамінае не вельмі ахвотна. Адным словам, ішоў чалавек сабе па ўзбочыне шырокай людной дарогі, хадзіў па горадзе: там печ перакладзе, там каму гараж пабудуе ці сцены кватэры пафарбуе. У летні сезон дадому без грошай не прыходзіў, зарабляў добра, а як надыдзе зіма — не кожны дзень рубель прынясе. Суцяшаў сваю жонку: «Затое вольны казак, а лета надыдзе...»

Аднаго разу напрадвесні сустрэўся ён на вуліцы з Макарэвічам. Яны былі знаёмы і раней.

— Дык, значыць, ходзім у

— Гм, гм... — толькі і адказаў стары на запрашэнне свайго сябра.

Так і разышліся. Тое ж самае «гм» пачуў Макарэвіч і ў наступны раз, калі сустрэліся. Але адчуваў брыгадзір: недзе ў глыбіні душы стары не супраць пайсці на вялікую будоўлю. І ён пойдзе.

Неяк зайшоў Макарэвіч да старога на кватэру. За шклянкай кавы гутарка пайшла па-іншаму.

— Гігант будуем, — нібы прадужаў ранейшую гаворку Макарэвіч, — а тэрмін далі кароткі, вельмі кароткі — тры гады. Каб



Камсамолкі Данута Пальгуй і Ніна Кімко самыя маладыя члены брыгады. Яны яшчэ вучні, але ўжо спраўляюцца з тынкаваннем гатовых карпусоў.

вольных казаках? — спытаў Макарэвіч.

— А што такога? — загарэўся той.

— Ды нічога... рублікі зашываем?

— Сваімі рукамі, вось гэтымі... не сорамна.

— Ну, чаго гарачышся. Я ж проста так, — сумеўся брыгадзір. — Не крыўдуй. А мо, Пятро Васільевіч, да нас, на азотна-тукавы?

— На азотна-тукавы?

— Расце гігант. Урад прызнаў будоўлю асабліва важнай... Саюзнага значэння. Калочкі панатыканы па ўсім полі. Падмуркі кладзем. Работы шмат...

пабудаваць, значыць, і першую прадукцыю выдаць. Народу едзе да нас кожны дзень — не палічыш...

— Каму ты кажаш? — спыніў сябра Пятро Васільевіч. — Нібы я на другой планеце жыву? Ездзіў, глядзеў, і не раз...

— Бяры, Валодзька, майго старога ды вядзі, бы малога, — падліваючы каву, гаварыла гаспадыня. — З радасцю пойдзе. З'ездзіць, бывае, на будоўлю, нагледзіцца, а дома толькі ўздыхае ды лаецца. Акрыяе мой стары там, на добрай справе... Гэта ж год дзесяць назад будаваў цукровы завод у Скідэлі — і цяпер ганарыцца.

Так на будоўлі азотна-тукавага паявіўся майстар на ўсе рукі — муляр, цясляр, бетоншчык, пячнік, тынкоўшчык.

## МЫ Ж — КАЛЕКТЫЎ

Любяць у брыгадзе тыя дзесяць-пятнаццаць мінут, калі ўсе сыдуцца пасля абеду. У бытоўцы сядзець не хочацца. Цемнавата. Збіраюцца дзе на штабелі дошак ці жалезабетонных пліт. У такую хвіліну добра пагаварыць, лежачы на ўгрэтых сонцам дошках і гледзячы ў бясконцую сінь неба. Вакол ціха, толькі радасныя песні жаўранкаў льюцца бясконца. Птахі, відаць, абыходзяцца без абедзеннага адпачынку.

— Пра нашу брыгаду, — чую спакойны разважлівы голас, — кажуць: адна з лепшых. А павінны гаварыць: самая лепшая. Сорамна нам не быць лепшымі і першымі. Спаборнічаем з брыгадай светлагорцаў Георгія Мітраховіча — раз ды з лепшай брыгадай на нашай будоўлі Міхаіла Ярашэвіча — два. Брыгада Ярашэвіча вядомая ўжо колькі год. Будаўнікам усёй рэспубліцы ў прыклад ставяць, і званне камуністычнай прысвоена ёй. А перамагчы іх можам, бо таксама спаборнічаем за камуністычную працу.

Гэта гаварыў Міхаіл Мархалюк. Паважаюць Міхаіла ў брыгадзе. Муляр высокага разраду, ён карыстаецца пашанай за свае залатыя рукі, а не меней таго — за шчырасць і прамату ды за тое яшчэ, мабыць, што ў ім развіта асабліва востра пачуццё высокай годнасці савецкага рабочага-будаўніка. Не проста ж так яго прызначылі кіраўніком рабочага паста па якасці. Падыдзе, скажам, да цесляроў, праверыць па чарцяжу правільнасць апалубкі і скажа: «Можаце заліваць бетон». А іншы раз здараецца і такое: «Не, хлопцы, запаролі...», — яшчэ і яшчэ перамервае апалубку, прыкідвае. «Так, завузілі на сем сантыметраў... Што будзем рабіць?» Усе добра ведаюць, што трэба перарабляць.

І яго сябры па рабочаму пасту ўсе такія — самі не дапусцяць неахайнасці ў рабоце, але ж і другім спуску не дадуць: «Брыгадзір у нас прынцыповы, — скажа нібы ў апраўданне Мархалюк. — Не даруе аніводнага сантыметра. Іншы рабочы падумае: хіба што значыць, калі ў трохметровай глыбіні катлавана недабраць якіх пяць сантыметраў. Макарэвіч з нівеліром праверыць, знойдзе гэтыя пяць сантыметраў і скажа: нельга так, трэба каб было сантыметр у сантыметр, як па чарцяжу. Ведаеш, кажа, якія нагрузкі павінны несці падмуркі?!

Афіцыйная ж пасада Мархалюка — звеннявы: калі брыгадзір адсутнічае, ён застаецца за яго.

У мяне не выходзіў з галавы той выпадак браку на грануляцыйнай вежы, і я палічыў, што самы раз, каб спытаць:

— Ваша брыгада залівала падмурак на гранвежы?

— Наша.

— Як жа тады брак здарыўся?

Адказаў на гэта Пятро Васільевіч.

— Чорная пляма на брыгадзе, — гаварыў ён, падбіраючы словы. — Але ж, калі разабрацца, вінаваты не толькі мы. Памятаю, як пост па якасці і ўсе мы даводзілі, што брак будзе. Просім вібратар, а нам кажуць — няма. Папярэджвалі: нельга класці бетон, прыгатаваны на вельмі буйнай фракцыі галькі, а на нас цыкнулі: кладзіце, кажуць, інакш участак сарве план. Вось вам і брак!.. А што за той брак брыгаду не лаюць, ад таго нам не лепш: пляма застаецца плямай.

Людзі розныя ў кожным калектыве, нават калі ён вельмі добры. Не ўсе аднолькава думаюць і аднолькава робяць. Быў у брыгадзе такі муляр — Пятро Бондар. На першым часе за ім нічога дрэннага не заўважалі. Справу ведаў. Ад іншых не адставаў. Але ж аднойчы Міхаіл Мархалюк заўважыў такое, пра што не адразу і сказаў. Азірнуўся, каб ніхто не чуў, і шапнуў Бондару (навошта адразу сароміць чалавека):

— Перакладзі гэты рад. Бачыш, якое тоўстае шво...

Той пераклаў. А назаўтра — зноў брак. Тады Мархалюк сказаў, каб чулі і таварышы:

— Вось тут у цябе, Пеця, нешта не так, як трэба, атрымалася. Прыйдзецца, браток, выправіць.

А той паспрабаваў перавесці гаворку на жарт. Не выйшла. Мархалюк быў сур'ёзны.

Праз тыдзень Бондар зноў дапусціў брак. Сабраліся ўсе члены кантрольнага паста.

— Таварыш Бондар, ты запароў аконны праём, — сказалі яму. — Глядзі, сценка ж гарбатая!

— Ды што вы, даражэнькія, — замітусіўся хлопец. — Сто год прастаіць, нас пераживе. Ці варта з-за драбязы кроў псаваць?

— Перарабі, і без аплаты, — стаялі на сваім хлопцы.

— Не буду. Хочаце — самі перарабляйце. Сыдзе і так.

— Ты ж трэці разрад маеш... Як не сорамна! Вунь Іван Шышка вучнем яшчэ ходзіць, а браку няма...

— Ну, добра, перарабіць дык перарабіць...

У канцы змены сабраўся сход. Пасадзілі Бондара ўперадзе, тварам да ўсіх.

— Мы змагаемся за высокае званне калектыву камуністычнай працы, а ты ганьбіш нас, — сказалі яму. — Хочаш абняславіць на ўсю будоўлю?

І тут пайшло...

— А лаецца, хоць вушы затыкай, — накінуліся дзяўчаты. — Гэта ж трэба мець такі разбэшчаны язык!..

— І халадок любіць, — дадалі яшчэ. — Па паўгадзіны перакурвае. Як бы гэтага ніхто і не бачыць...

І яшчэ, і яшчэ гаварылі. А ён стаяў перад імі, апусціўшы вочы. Але ад людскога позірку нікуды не дзенешся.

Такая праборка, здаецца, падзейнічала... Але толькі на некаторы час. Потым зноў пайшло, як і раней. Зноў брыгадны сход.

— Няўжо табе не дарагая твая работа, твая брыгада?

— Не падабаецца мне ўсё гэта. Пайду, — толькі і вымавіў Бондар.

— Ну і можаш ісці, — ускіпеў Макарэвіч.

— Не вельмі вялікая страта, — сказала ў падтрымку брыгадзіра адна з дзяўчат.



**Людзей з цікавымі біяграфіямі шмат на будоўлі. Ніна Сянчук была прадаўшчыцай у Гродзенскім універмагу, а калі дачулася пра маладзёжную будоўлю — прыйшла сюды. Працавала ў брыгадзе муляроў. Пазнаёмілася з машыністам крана Сцяпанам Макеем. Пажаніліся, і Ніна вырашыла набыць мужаву прафесію. Скончыла курсы, і цяпер яны абодва задаволены.**

— Не трымаем, — дадаў Мархалюк.

Назаўтра, калі падняліся на рыштаванні, не было аднаго Бондара. «Значыць, не прыйдзе», — парашылі рабочыя. Потым дазналіся, што Бондар па накіраванню аддзела кадраў трапіў ў другую брыгаду, пазней дачуліся, што і там усё паўтарылася, як па пісанаму. Урэшце, і адтуль яго звольнілі.

А між тым пра Бондара не забылі ў брыгадзе Макарэвіча. І ўспомнілі вось пры якіх абставінах. Брыгаду пахваліла начальства. «Дружная, працавітая, сапраўдныя будаўнікі будучыні». А ў брыгадзе між сабой рабочыя потым гаварылі:

— Так, дружная, працавітая. Якія мы ўсе харошанькія. За званне камуністычнай змагаемся. Хвала нам, адным словам... А вось

чалавека, мы, пра Бондара кажам, не здолелі паставіць на ногі. Бач, ён задаволены быў, што пайшоў ад нас. Але ж мы ад яго нікуды не пойдзем. Будаваць камунізм сумесна трэба, кожны сваё плячо павінен падстаўляць.

— Не трэ было хлопца адпускаць... Можа неяк перакавалі б. Мы ж — калектыў...

## НА АДНАГО ЧАЛАВЕКА БОЛЬШ

Аднойчы ў бытоўку, дзе сабралася амаль уся брыгада, зайшоў рослы хлопец. Прывітаўся, спытаў, хто брыгадзір, і падаў яму паперку. Чытаючы яе, Уладзімір Макарэвіч хмурыў бровы, а закончыўшы чытаць, запытальна паглядзеў на таго, што зайшоў:

— А пры чым тут пракуратура?

Потым прачытаў паперку ўголас:

«Таварыш Макарэвіч. Просьба ўзяць прад'яўніка гэтай запіскі Рыгора Мікеліса ў брыгаду. Навучыць хлопца працаваць, прывучыць да працы». А подпіс... не разумею, што такое?.. Подпіс следчага пракуратуры. Следчы — знаёмы мне чалавек, але ж ёсць яшчэ аддзел кадраў на будоўлі...

— Няхай растлумачыць, — пацікавіліся хлопцы з брыгады.

Мікеліс пацiснуў плячыма, акінуўшы ўсіх позіркам, уставіўся на брыгадзіра, нібы пытаўся, ці можна не пры людзях.

— Нічога, нічога, гавары...

— Значыць, было так, — ледзь выціснуў з сябе хлопец, пазіраючы праз акно некуды ўдалячынь. — Здарылася, значыць... Знікла адна легкавая аўтамашына. У кражы абвінавацілі групу хлопцаў — маіх сяброў, ну, і мяне. Пасадзіць у турму не пасадзілі, а на допросы цягалі. Прамога падазрэння на мяне не было... Я не вінаваты. Наплялі на мяне... Шмат куды я хадзіў, прасіўся на работу, не прымаюць. Кажуць: патрэбны спецыялісты, а ў мяне няма спецыяльнасці. Вядома, гэта толькі, каб адчапіцца, бо даведаюцца пра тую гісторыю, і не прымаюць. Ну, вось следчы... ён займаўся гэтай справай... і напісаў паперку. Знаёмы, кажа, ёсць брыгадзір у мяне, на азотна-тукавым...

— А ты сам што думаеш? — спытаў Макарэвіч.

— Ды я, таварыш брыгадзір, — і ўпершыню за ўвесь час падняў вочы на Макарэвіча, — з усёй душой. Дайце мне папрацаваць, і я...

— Пачакай, пачакай... Гэта ўжо брыгада будзе вырашаць, узяць ці не.

— Твае аднагодкі ўсе ў армію пайшлі... — заўважыў нехта.

— Мяне не ўзялі, — зноў Мікеліс апусціў вочы. — Падышоў і па здароўю, і па росту... А сказалі мне так: «Не можам даручыць табе такой пачэснай справы — быць салдатам Радзімы. Дакажы на справе, тады будзем гаварыць».

Пасыпаліся пытанні. Людзей цікавіла ўсё: і колькі хлопцу год, у якой сям'і гадаваўся, якая адукацыя і з кім знаёмства водзіць...

І ўсе парашылі — узяць хлопца ў брыгаду.

Тады Пятро Васільевіч сказаў да навічка:

— Мы ж змагаемся за званне калектыву камуністычнай працы. Ведаеш, што гэта такое?

Той паглядзеў на ўсіх, нічога не сказаў, толькі пераступіў з нагі на нагу.

— Разумееш, што гэта значыць: узяць на сябе высокія абавязкі члена такога калектыву? — гаварыў далей дзядзька Пятро.

— Не прыйдзецца нам усім за цябе чырванець? — строга, але добразычліва дадаў муляр Іван Крышаловіч.

Мікеліс, нервова камечачы шапку, прагаварыў:

— Прымеце — не пасаромлю.

— Прымем!..

Так у брыгадзе стала больш на аднаго чалавека. Мікеліс назаўтра прыйшоў на работу. І з той пары — дзень у дзень. Ні аднаго спазнення. Сам брыгадзір узяўся навучыць яго. І бачыў, як старанна пераймаў хлопец вопыт, як радаваўся першай удала пакладзенай цагліне, першай пахвале. У брыгадзіра расла надзея: будзе чалавек.

У Грышкі, як сталі называць



яго ўсе, паявіліся новыя сябры.

— Бывала, як сыдзецца з тымі, — расказвала з ахвотай Грышкава маці, калі хто з брыгады наведваўся да яе, — дык у іх і гутаркі ўсяго толькі і было, што пра гулянку. А цяпер новыя сябры. Прыслухаюся іншы раз — пра кніжкі і вучобу гавораць, пра спорт...

Неяк яшчэ на першым часе даведаліся ў брыгадзе, што Грышка захапляўся спортам, асабліва барацьбой, а потым перастаў наведваць заняткі. «Хопіць, — гаварылі яму старыя прыяцелі, — умееш даць кухталя — і хопіць». А ў брыгадзе меркавалі інакш. «Цягне, кажаш, да спорту? Дык чаму ж кінуў? Хадзі на заняткі, абавязкова хадзі...» І ён пайшоў. Пасля змены бяжыць у спартыўную секцыю, а назаўтра расказвае, як там было.

## ПРА НАС

Пад канец месяца брыгада цалкам навалілася на ЦЭЦ, бо якраз падаспелі доўгачаканыя чарцяжы. Разбіўшыся на звенні, людзі ўзяліся за працу. Не абышлося і без пераробак. Змянілі праект канала для цеплатрасы, і прыйшлося зламаць частку закладзенага раней маналітнага бетону. Моцна папацелі. Заадно, гаварылі хлопцы, праверылі, ці добра зроблена. Дужа моцна... А як закончылі і адклалі ломікі ў бок ды селі адпачыць, бачаць — бяжыць нехта. З праёму варот відаць добра, што дзяўчына.

— Дзе брыгадзір? — крычыць здалёку.

— Гэта — дзяўчына з канторы.

— Ёсць яго намеснік.

— Усё роўна. Трымайце, — і яна падала тоўстую, у цвёрдай вокладцы кніжку: «У дапамогу брыгадзіру і рабочым комплексных гаспадарча-разліковых брыгад у будаўніцтве».

— Ды ў нас ужо ёсць «У дапамогу...», — сказалі ёй.

— Такой няма. Глядзіце на старонцы 74-й, — сказала дзяўчына.



**Перад здачай аб'екта і для маляра Казіміра Рапейкі знаходзіцца занятак. Ды яшчэ на якой вышыні!**

Фота **А. Дзітлава.**

Разгарнулі — і адразу са старонак кніжкі зірнулі знаёмыя людзі. Перадавікі — лепшыя з лепшых гродзенскіх будаўнікоў. Знайшлі 74-ю старонку, прачыталі: «...была паказана праца перадавых брыгад СУ-142 тт. Гнізы, Ярашэвіча, Макарэвіча, работа кантрольных пастоў па якасці, вучоба рабочых».

— А кніжка, таварышы, кніжка пра нас... Бач, тоўстая якая.

Мне зразумела ваша радасць, сябры. У той кніжцы, дзе абагульняецца вопыт лепшых будаўнікоў рэспублікі, і ваша брыгада ўспомнена добрым словам. Гэта і пра цябе, муляр Іван Крышаловіч, і пра вас, майстар на ўсе рукі Пятро Васільевіч Буркас, і пра Івана Жыгалу, і пра Зігмунда Міхалюка, і пра цябе, памочнік брыгадзіра Міхаіл Мархалюк, — пра ўсіх вас... Гэта і пра цябе, Леанід Калейнік, і пра дзяўчат Алену Бобрус і Дануту Пальгуй, і пра Грышу Мікеліса, які знайшоў у брыгадзе сваё сапраўднае месца ў жыцці, і пра вас, браты Іван і Віктар Шышкі...

### НАПЕРАДЗЕ — НОВЫЯ СПРАВЫ

Анкета, задуманая ў камсамольскім штабе, дала карысць. Шмат прапаноў, заўваг, пажаданняў паступіла, і яны былі апублікаваны ў абласной газеце. Бывала, якіх-небудзь дзесяць-пятнаццаць радкоў абдумваліся і пісаліся цэлай брыгадай.

«Сёння мы выканалі будаўнічых работ на 740 рублёў, — пісалі хлопцы з брыгады Макарэвіча, — гэта складае 147 працэнтаў зменнай нормы. План красавіка значна перавыканаем. Наша прапанова: няхай дырэкцыя АТЗ не зацягвае выдачу дакументацыі. А мы будзем працаваць на два фронты: на ЦЭЦ і на эстакадзе камунікацый. І ўсюды справімся».

А потым — сход партыйна-гаспадарчага актыву будоўлі. Сабраліся з усіх будаўнічых упраўленняў (а іх на будоўлі ўжо добры дзесятак). Актывісты з камсамольскага штаба адчувалі сябе імяніннікамі: гэта ж па іх ініцыятыве сабраліся.

У дакладзе начальніка будоўлі прагучэлі словы, звернутыя перш за ўсё да брыгады Макарэвіча:

— За дваццаць дзён забяспечыць здачу палавіны міжцэхавых эстакад.

Шапчу Макарэвічу, які сядзіць побач:

— Чуў? Палавіна!..

— Падмуркі гатовы амаль што ўсе.

А потым ён выступіў. Мне чамусьці асабліва запомніліся брыгадзіравы словы: «Абяцаем працаваць яшчэ лепш, таму што працаваць мы ўжо навучыліся і на дасягнутым не спынімся».

...Канец змены. Заступіла другая. Макарэвіч з гадзіну яшчэ прабыў на будоўлі, з памочнікам сваім Міхаілам Мархалюком абмяркоўвалі заданне на заўтра, падлічвалі зробленае:

— За гэты месяц у нас 158 працэнтаў. Памятаеш, Міша, як ты казаў наконт першага месяца?! Першае месца за намі. Па ўпраўленню!

Клопаты дня, здаецца, нарэшце скончыліся, і Уладзімір пацяжэлым крокам, але такім жа шырокім і шпаркім, накіраваўся да апусцелага ўжо аўтобуснага прыпынку. Ідзём моўчкі. Хачу здагадацца, аб чым ён думае. Узіраецца ў тое, што зроблена, вачыма нібы прамервае, выпрабоўвае на трываласць збудаванні.

— Рыхтуюся ў партыю, — раптам, парушыўшы цішыню, сказаў брыгадзір. — Статут перачытваю...

І тут толькі я ўспомніў: у брыгадзе з дваццаці пяці — ні аднаго камуніста. Камсамольцаў толькі палавіна.

Справа ж, якую робіць брыгада — справа камуністаў. Гэтай гарачай справай напоўнены іх будні.

## *Да 150-годдзя Айчыннай вайны 1812 года*



На полі Барадзінскім спачываюць побач прадзеды і праўнукі.

# ПА СТАРОЙ СМАЛЕНСКАЙ ДАРОЗЕ

Клясціцы, Барысаў, Карэлічы, Полацк... З гэтымі мясцінамі навечна звязана слава рускай зброі. Сто пяцьдзесят гадоў назад тут насмерць стаялі айчыны верныя сыны, абараняючы родную зямлю ад полчышчаў Напалеона. Але гэта не адзіныя месцы ў Беларусі, дзе калісьці грымелі баталіі, дзе вырашаўся лёс Расійскай дзяржавы. Здаралася так, што і ў лясных глухменях, у далечыні ад вёсак і гарадоў сутыкаліся батальёны ў страшэннай бітве. Даўно памерлі сведкі тых падзей, і толькі з глыбіні гадоў дайшлі да нас паданні аб мужнасці і славе нашых дзядоў... Мо таму, калі чалавек прыязджае ў Барысаў і спыняецца над серабрыстай стужкай Бярэзіны, у яго пачынае хвалявацца сэрца: вось тут каля Студзёнкі захопнікі знайшлі свой бясслаўны канец...

Нядаўна мне давялося пабыць у Крупках. Яшчэ раней я чуў ад мясцовых жыхароў, што недалёка ад пасёлка ў кірунку да Бабра захаваўся кавалачак старой Смаленскай дарогі. Той самай дарогі, па якой калісьці ішлі палкі Кутузава. Ад Крупак па шырокай аўтастрадзе Мінск — Масква праехаў кіламетраў шэсць і спыніўся каля лесу. Лясной дарогай пайшоў управа і метраў праз трыста натрапіў на даволі шырокую прасеку. Угледаюся. Не, гэта не прасека. Не відаць ні пнёў, ні карэнняў. Гэта — насып, даўно парослы травой. Там-сям трапляюцца камені. Гэта і ёсць старая Смаленская дарога. Іду па ёй. Справа і злева, нібы вартавыя, нібы свед-

кі далёкага мінулага, стаяць высачэзныя абымшэлыя сосны. Вось і канец дарогі. Яна ўпіраецца ў шашу, па якой імкліва бягуць машыны — грузавыя, легкавыя, праносяцца матацыклы...

Жыхары Крупак шмат расказваюць пра былую Смаленскую дарогу, на якой двойчы адбыўся бой паміж рускімі і французскімі войскамі. Яшчэ перад Вялікай Айчыннай вайной калгаснікі выворвалі цяжкія гарматныя ядры. Зацікавіўшыся як след гісторыяй Крупак, мне ўдалося высветліць некаторыя факты, якія маюць непасрэднае дачыненне да баявой славы нашай Радзімы. Мне стала вядома, напрыклад, што ў сярэдзіне ліпеня 1812 года праз Крупкі адступалі часці 27-й пяхотнай дывізіі, якой камандаваў генерал Неўяроўскі. За рускім войскам неадступна ішоў Напалеон, які намагаўся перарэзаць шлях рускім арміям углыб краіны. Напалеон бачыў, што яго план разгрому рускіх армій паасобку правальваецца, і таму няспынна атакаваў 27-ю дывізію. Пад Крупкамі адбылася тады буйная сутычка французскай кавалерыі маршала Мюрата з палкамі Неўяроўскага. Рускія воіны вытрымалі атаку і, адбіўшы яе, пачалі адыходзіць на Бобр, Оршу, Краснае. Вось што піша генерал Ф. І. Паскевіч аб дзеяннях 27-й дывізіі:

«...У ворага было 15 тысяч кавалерыі. Яна абышла Неўяроўскага і атакавала яго левы фланг. Харкаўскі драгунскі полк кінуўся наперад, але быў адкінуты... Вораг абкружыў яго (Неўяроўскага.— **І. К.**) з усіх бакоў сваёй конніцай. Пяхота атакавала з фронта. Нашы вытрымалі, адбілі напад і пачалі адыход. Вораг, заўважыўшы адступленне, падвоіў кавалерыйскія атакі... Французская кавалерыя прарвалася ў тыл генерала Неўяроўскага, прапанавала ўрэшце яму скласці зброю. Ён адмовіўся. Людзі Палтаўскага палка... крычалі, што яны памруць, але не здадуцца... На пятай вярсце адступлення быў самы вялікі націск французаў, але дрэвы і равы ля дарогі перашкаджалі ім урэзацца ў нашы калоны. Стойкасць нашай пяхоты зменшыла запал іх нападу. Вораг няспынна ўводзіў новыя палкі ў бітву, і ўсе яны былі адбіты...»

А праз чатыры месяцы ў сярэдзіне лістапада каля Крупак і Бабра зноў пачаліся баі. Але цяпер усё ішло наадварот. Рэшткі французскіх войск не адступалі, а беглі да Бярэзіны. Паўночным флангам праціўніка камандавалі генералы Віктор і Удзіно. Першы прыпыніўся каля мястэчка Чарэя, другі каля Бабра. Хутка да Бабра падышоў корпус Віктора, каб разам з войскам Удзіно ў якасці ар'ергарда прыкрыць рэшткі галоўных сіл Напалеона. Авангард рускага корпуса пад камандаваннем Вітгенштэйна праследаваў Віктора і наблізіўся да старой Смаленскай дарогі з поўначы ад Бабра. На захадзе ад Крупак пачаўся бой. Пра яго пісаў у рапарце генерал Уластаў: «Гэтага кастрычніка адзінаццатага чысла... вораг, які ішоў з Чарэі, напаў на аванпасты мае, якія стаялі ў вёсцы Вількавішкі, збіў іх... Тады ўзяў я дзве конныя гарматы і батальён 23-га егерскага палка і ў тры гадзіны апоўдні... кінуўся на тых стралкоў, але варожая кавалерыя сустрэла нашу, толькі была спынена і разагнана. Пяхота ворага выстраілася ў карэ...»

Уластаў падрабязна расказвае пра бой, у выніку якога было знішчана каля 500 варожых салдат. Акрамя таго, было ўзята ў палон 305 напалеонаўскіх салдат і афіцэраў. Рускія войскі выйшлі на Смаленскую дарогу і накіраваліся да Бярэзіны, на супрацьлеглым беразе якой ужо стаяла армія адмірала Чычагава.

Вось амаль і ўсё, пра што мне ўдалося даведацца. Але чамусьці не даваў спакою нумар дывізіі славутага генерала Неўяроўскага. 27-я пяхотная... Пачынаю прыгадваць чытанае пра грамадзянскую вайну на Беларусі, пра 1920 год. Фронт на Бярэзіне. Па старой Смаленскай дарозе праз Бобр і Крупкі рухалася 27 стралковая дывізія Чырвонай Арміі. Вядома ж, гэта не тая, якой камандаваў Неўяроўскі. Проста выпадковае супадзенне. 27-я стралковая паспяхова фарсіравала Бярэзіну і, знішчаючы акупантаў, у ліпені 1920 года вызваліла сталіцу Беларусі Мінск. Гэта пра яе склалі песню:

Стальною грудью врагов сметая,
Шла с красным стягом двадцать седьмая.
На Енисее врагов громила,
В широкой Висле коней поила.

Потым успамінаю падзеі Вялікай Айчыннай вайны, перачытваю гістарычныя даведкі. Аказваецца, што і ў 1941 годзе 27-я стралковая дывізія на Бярэзіне стрымлівала шалёны націск фашысцкіх захопнікаў. Прыяміна, Крупкі, Бобр... Значыць, зноў старая Смаленская дарога ў каторы ўжо раз была паліта крывёю слаўных рускіх воінаў!

Думкамі вяртаюся ў Крупкі, забудаваныя новымі дамамі, заселеныя новым пакаленнем людзей. Мне расказвалі, што ў 1812 годзе на старой Смаленскай дарозе дзейнічалі партызанскія атрады крупскіх сялян. Даказаць гэта дакументальна пакуль што нашым гісторыкам не ўдалося. Але я веру ў расказы людзей, чые продкі, дзяды, бацькі з вуснаў у вусны перадавалі самыя хвалюючыя эпізоды ратнай доблесці нашых суайчыннікаў. Веру таму, што партызанскія атрады былі ў 1920 годзе, былі і ў часы фашысцкай навалы. Гэта даказваць ужо не трэба, бо жывуць яшчэ былыя партызаны. Я ведаю многіх з іх. Ад Крупак лёгка трапіць у Халопенічы. Там жыве былы камісар партызанскай брыгады Васіль Якіменка. У калгасе імя Кірава загадвае свінагадоўчай фермай Герой Савецкага Саюза Мартын Сурын. У Крупскай сярэдняй школе кіруе практычнымі заняткамі ў майстэрнях былы партызан і воін Рыгор Кульгавы. Гэта — простыя людзі. Усё жыццё яны сеюць хлеб, вырошчваюць жывёлу, вучаць дзяцей трымаць у руках малаток, штурвал камбайна, працуюць самі і вучаць працы маладое пакаленне. Вучаць і ўспамінаюць, як у дні небяспекі бралі зброю іх бацькі і дзяды, ды і самі, і выходзілі на старую Смаленскую дарогу...

Многа такіх дарог на беларускай зямлі. Навечна запісаны ў летапіс славы рускай зброі перамогі над французскімі захопнікамі пад Мірам і Нясвіжам, Дрысай і Салтанаўкай, каля Друі і Дашкаўкі... Жывыя нашчадкі рускай ратнай славы сеюць сёння хлеб, вараць сталь, але і трымаюць зброю напагатове.

**Ілья КЛАЗ.**

# ПОМНІКІ РУСКАЙ СЛАВЫ

**Пад час Айчыннай вайны 1812 года Беларусь, як здаралася не аднойчы ў мінулым і ў пазнейшыя войны, аказалася пад ударамі грозных полчышчаў напалеонаўскай арміі, якая рынулася на заваяванне Расіі. У пачатку і на заключным этапе вайны баявыя аперацыі распаўсюдзіліся на большую частку тэрыторыі Беларусі. Зусім натуральна таму, што самыя манументальныя помнікі, якія былі пастаўлены ў адзнаку выдатных падзей «дванаццатага памятнага года» і захаваліся да нашых дзён, знаходзяцца на двух супрацьлеглых канцах беларускай зямлі — на паўночным усходзе, у Віцебску, і на паўднёвым захадзе, у Кобрыне.**

**Першая руская армія, якая адступала ад граніцы пад націскам галоўных сіл Напалеона, у канцы ліпеня набліжалася да Віцебска. На подступах да горада на працягу трох дзён ішлі ўпартыя баі. Увесь дзень 25-га (13) ліпеня дывізія Астэрмана-Талстога мужна адбівала атакі войск Мюрата пад Астроўнай. Гэту дывізію потым змянілі воіны пад камандаваннем Каноўніцына, якія мужна змагаліся з ворагам каля вёскі Кукувачына.**

**На другім этапе вайны, у той час калі французы пакідалі Маскву, злучэнне рускіх войск з корпуса Вітгенштэйна ў крывавай схватцы з французскім гарнізонам захапіла 26 кастрычніка моцна пашкоджаны пажарамі горад Віцебск.**

**У адзнаку 99-й гадавіны гэтай перамогі рускіх войск у цэнтры Віцебска,**



Помнік у Віцебску.

на высокім беразе Заходняй Дзвіны, адбылася закладка помніка, па ініцыятыве гарадскога галавы Сабіна-Гуса і старшыні Віцебскай навуковай архіўнай камісіі Кандыгробава. Праект помніка зроблен архітэктарам І. Фаміным. Урачыстае адкрыццё манумента адбылося да дня стагоддзя вызвалення горада — 26 кастрычніка 1912 года.

Помнік складаецца з п'едэстала, упрыгожанага бронзавымі каскадамі і вянкамі. На п'едэстале ўстаноўлены высокі чатырохкантовы абеліск з чырвонага шліфаванага граніту, увенчаны шарам з двухгаловым арлом. На мемарыяльнай дошцы надпіс: «Бессмяротнай доблесці герояў Айчыннай вайны — удзельнікаў змагання пад Віцебскам 13, 14, 15 ліпеня і 26 кастрычніка 1812 года». Ля падножжа помніка па рагах — кароткаствольныя марціры, якія былі на ўзбраенні рускай арміі ў 1812 годзе.

Пасля разгрому і выгнання атрада Саксонскай кавалерыі з Брэста рускія войскі з усіх бакоў рынуліся да Кобрына, дзе знаходзілася чатырохтысячная брыгада генерала Кленгеля. Баі спачатку завязаліся ў розных пунктах вакол горада, а потым перайшлі паступова ў яго цэнтр. Саксонцы, акружаныя з усіх бакоў, упарта адбіваліся на руінах старажытнага форта і на пад'ёмным мосце праз раку Мухавец. У часе бою ўзнік пажар і згарэў амаль увесь горад. Толькі пад вечар, пасля штыкавой атакі 13-га егерскага палка, праціўнік здаўся і склаў зброю. Пераможцы захапілі 4 сцягі, 8 гармат і шмат рознай зброі. Праціўнік страціў да 1400 чалавек. У палон быў захоплен сам Кленгель, 76 афіцэраў і 2234 салдаты.

Гэта была першая вялікая перамога ў тую кампанію. У адзнаку поспехаў рускай зброі батарэі Петрапаўлаўскай крэпасці далі першы пераможны салют, водгулле якога пранеслася па ўсёй Расіі.

Думка аб закладцы помніка нарадзілася сярод воінаў Кобрынскага гарнізона, продкі якіх удзельнічалі ў бітве. У 1911 годзе быў створан будаўнічы камітэт, які ўзначаліў палкоўнік Ясінскі. Праект помніка распрацаваў кобрынскі гарадскі архітэктар Маркаў. Пачалі збор сродкаў. Да стагоддзя з дня кобрынскага бою, 15-га ліпеня 1912 года, адбылася закладка помніка, які будаваўся ў цэнтры горада, непадалёк ад месца, дзе здаліся саксонцы і былі пахаваны нашы воіны. У верасні адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка.

П'едэстал помніка складзены з шэрага граніту, у выглядзе скалы. Наверсе скалы вялізны бронзавы арол, які магутнай дзюбай і кіпцюрамі разрывае вялікі лаўравы вянок, што сімвалізаваў сабою непераможнасць Напалеона. З трох бакоў пастамента ўмацаваны мармуровыя дошкі, на якіх напісана:

«Рускім воінам, якія здабылі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15 ліпеня 1812 года».

Пад началам генерала ад кавалерыі Тормасава ў запаланенні непрыяцельскага атрада ў Кобрыне ўдзельнічалі палкі: пяхотныя — Ражскі, Апшэронскі, 13-ы егерскі, піянерная рота капітана Куцэвіча; драгунскія — Старадубаўскі, Уладзімірскі, Цвярскі; уланскі — Татарскі; гусарскія — Паўлаградскі, Александрыйскі, Лубенскі, казачы барабаншчыкаў; артылерыйскія роты — лёгкая № 34 і конныя № 11 і № 12.

«Збудаван нашчадкамі Кобрынскай перамогі, палкамі: пяхотнымі — Ражскім і Апшэронскім, 9-м сапёрным батальёнам; драгунскімі — Старадубаўскім, Цвярскім; уланскімі — Уладзімірскім, Татарскім; гусарскімі — лейб-Паўлаградскім, Александрыйскім, Лубенскім; насельніцтвам Гродзенскай губерніі, пры ўдзеле палкоў 36-й пяхотнай дывізіі і 36-й артылерыйскай брыгады. 15-га ліпеня 1912 года».

На шырокай пляцоўцы цокаля перад помнікам — чатыры чыгунныя марціры з пірамідамі пяціпудовых бомбаў.

У такім выглядзе помнік прастаяў усяго тры гады. У жніўні 1915 года Кобрын быў заняты германцамі, якія, не марудзячы, знялі спачатку бронзавага арла, а потым і мемарыяльныя дошкі, з якіх уцалела толькі адна, сярэдняя, дзве ж бакавыя былі знішчаны.

У 1919 годзе Кобрын, як вядома, апынуўся пад акупацыяй белапалякаў. Новыя ўлады не раз задумваліся над тым, што зрабіць з асірацелым манументам. Мінула дзесяцігоддзе, і адбылася падзея, якая прыцягнула да помніка ўсеагульную ўвагу. Аднойчы ноччу нейкі пан-самадур паставіў на пастамент маленькі гіпсавы бюст польскага нацыянальнага героя Тадэуша Касцюшкі, зняць які ніхто не адважыўся. Пастамент зусім не падыходзіў да маленькага бюста, і ў горадзе пачалі кпіць. Мясцовыя ўлады вымушаны былі замяніць гэты бюст новым, які б адпавядаў маштабам пастамента. Новы бюст не вызначаўся мастацкімі якасцямі. У народзе пыталіся: чыя гэта кірпаносая галава заняла месца рускага арла...

Пасля ўз'яднання заходніх абласцей у Беларускай ССР на першым часе хадзілі чуткі, што гэты помнік быў збудаваны А. В. Сувораву.

У пасляваенныя гады грамадскасць Кобрына пачала дамагацца, каб помніку рускай славы быў нададзены першапачатковы выгляд. Скульптар Керзін вылепіў такога арла, які быў на першапачатковым помніку, аднавілі дзве знішчаныя мемарыяльныя дошкі, і ў



Помнік у Кобрыне.

Фота І. Чарненкі.

1951 годзе Кобрынскі манумент набыў першапачатковы выгляд.

Помнік гэты стаіць на магістралі Масква — Брэст, напамінаючы людзям пра неўміручую славу рускай зброі.

**А. МАРТЫНАЎ,**
**дырэктар Кобрынскага музея імя А. В. Суворава.**

# *Навука і культура*



Знешні выгляд будынка даследчага атамнага рэактара Акадэміі навук БССР пад Мінскам.

# САЛАЎІ БУДУЦЬ СПЯВАЦЬ

**Рэпартаж**

У густым бярозавым гаі спяваў салавей. Спяваў, як і сто, і тысячу гадоў назад. Выводзіў трэлі, вызвоньваў. А недзе побач працаваў атам. Гэтага атама не было тысячу гадоў назад. Ён нарадзіўся ў наш век. Салавей спяваў ля атама і не падазраваў, што побач працуе атам.

Дарога бегла маладым лесам. Усё было, як у будні дзень на пачатку лета, як заўжды. Свежы асфальт, які часта можна ўбачыць пад Мінскам, свежыя пахі лесу, сонца, што прабіваецца праз воблакі. Узбоч дарогі — таблічка: «Не капаць! Ток высокага напружання!». Дарогу пераступіла адна высакавольтная лінія, другая. Гудуць правады. Яны нібы напамінаюць — недзе побач працуе атам.

Мы яшчэ не прывыклі да выразу — працуе атам! Гэтак жа раптоўна на людзей мінулага стагоддзя наступала новая тэхніка — паравыя катлы, паравозы, электрычнасць, матор аўтамабіля, самалёт. Цяпер мы ўключаем электрычнае святло спакойна, як некалі запальвалі газоўку: Тое, што здзіўляла чалавека нядаўна, стала нашымі буднямі.

Атам яшчэ непрывычны, атам яшчэ не будзённы.

Асфальтаваная стужка дарогі ўпіраецца ў прахадную, за ёю — два будынкі. Адзін — маленькі, двухпавярховы, другі — высокі, з белай цэглы з чырвонымі паласамі, сучаснага тыпу. На фасадзе эмблема — атам вадароду: дзве перакрыжаваныя арбіты электронаў і ядро ў цэнтры. У гэтым памяшканні — атамны рэактар. Першы ў Беларусі. Гэта — як некалі першая электрастанцыя. Пасля іх стала больш, выраслі гіганты. І мы ўжо не здзіўляемся.

Галоўны інжынер рэактара Віктар Краснаштанаў, малады чалавек гадоў дваццаці сямі ў карычневым берэце, жмурыць вочы за шкельцамі акуляраў і гаворыць спакойна:

— Наш рэактар — тыповы. ДРТ — даследчы тыповы рэактар. Такія ёсць у Маскве, Ленінградзе, Тбілісі, Рызе. Наша задача — яго эксплуатацыя. Даваць нейтроны фізікам, хімікам, біёлагам, фізіёлагам... Яны будуць вырашаць разнастайныя навуковыя задачы — толькі мірнага характару. А зараз вас пазнаёмяць з рэактарам.

Ён гаворыць па тэлефоне, і праз некалькі хвілін у кабінет заходзіць начальнік змены, таксама малады, апрануты зусім па-сучаснаму. Гэта — Вечаслаў Золаў.

Мы ідзём да рэактара.

Рэактар? Дык гэта ж так проста! І ў ім няма нічога незвычайнага. Ён, як і цэх завода, як і электрастанцыя. Ён нават працей за ЦЭЦ. Высокая вузкая зала, у якой гулка разлягаецца рэха. Пад столлю масіўныя маставы кран. Пасярод залы, прыстаўленая адным бокам да сцяны, стаіць велізарная тумба — вышынёй у тры паверхі і ў дыяметры метраў пяць. Гэта сам рэактар. Выгляд ён мае зусім не страшны. Толькі ўсюды, куды ні глянеш, насцярожана гарэць зялёныя лямпачкі. Яны спараны з чырвонымі. Чырвоныя «маўчаць». Радыяцыі няма, біялагічная ахова надзейная.

Вечаслаў Золаў расказвае пра будову рэактара, пра біялагічную ахову, пра аўтаматы, пра нейтроны. Ён расказвае падрабязна і можа крыху аднатонна.



Загрузка ўрану ў актыўную зону рэактара.

— Вось тут уран, — ён паказвае на трубу квадратнага сячэння вышынёю сантыметраў семдзесят, унутры яе — рэдкія соты з маленькіх алюмініевых трубачак. — Гэтыя трубачкі, — гаворыць Золаў, — запоўнены вокісам урану. У нас некалькі дзесяткаў такіх труб. Крыху больш трох кілаграмаў урану-235 — крытычная маса — змешчана ў гэтых трубках. А кіруе ланцуговай рэакцыяй карбід бору. Ён паглынае нейтроны. Калі мы карбід бору выцягваем, з рашоткі ўранавых стрыжняў вылятае вялікі паток нейтронаў — самыя разнастайныя. Іменна гэтыя нейтроны нам і патрэбны, імі мы абпраменьваем рэчывы, расліны, ствараем недаўгавечныя ізатопы.

Адкуль жа вылятаюць нейтроны, калі вакол рэактара бетон і вада? З рэактара зроблены выхады, — Вечаслаў паказвае на тоў-



**Агульны выгляд атамнага рэактара.**

стыя стальныя кругі, у якіх, крыху адступіўшы ад цэнтра, прарэзаны невялікія круглыя адтуліны. Стальныя кругі размешчаны па ўсёй ніжняй частцы рэактара ля самай падлогі, супраць кожнай адтуліны — велізарная чырвоная лічба, уманціраваная ў падлогу.

— Гэтыя стальныя кругі, — гаворыць Вечаслаў, — паварочваюцца і адчыняюць скразны выхад — проста ад урану. Па гэтых трубах з рэактара і вылятаюць пучкі нейтронаў. А вунь, бачыце, фізікі манціруюць ля выхадаў свае ўстаноўкі для абпраменьвання нейтронамі.

Падыходзім да фізікаў. Яны заклапочана корпаюцца ля невялікай бліскучай бронзавай круглай дэталі, падобнай на абаранак. Гэты «абаранак» — пусты ў сярэдзіне. Ён будзе ўзяты ў магнітнае поле, з яго будзе выпампавана паветра, нейтроны пабягуць у вакууме.

— Гэта ўстаноўка для вывучэння ядзернай спектраскапіі, — тлумачыць галоўны інжынер Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР Антон Сарока.

Ён пачынае гаварыць мовай фізіка, у якой недасведчаны чалавек можа зразумець толькі прыназоўнікі і займеннікі. Усіх трохсот тысяч слоў нашай мовы фізікам не хапіла, каб яны маглі зразумець адзін аднаго. Яны прыдумалі яшчэ тысячы слоў, добра вядомых ім, але мала вядомых людзям, якія не вывучалі тэарэтычнай фізікі. Антон Сарока доўга расказвае, пераходзячы ад адной часткі апарата да другой, зусім не бянтэжачыся, што гаворыць незразумелае для нас. З усяго я разумею адно: да гэтага часу яшчэ няма завершанай тэорыі ядра — ядро атама яшчэ не вывучана да канца, і яны, гэтыя юнакі, будуць праводзіць эксперыменты, каб даць фактычны матэрыял для фізікаў-тэарэтыкаў, якія пры дапамозе матэматыкі зробяць потым абагульненні. Аднаго чалавечага жыцця мала, і адзін чалавечы мозг не можа змесціць усе веды, што патрэбны і тэарэтыкам і эксперыментатарам. Усё глыбей і глыбей драбняцца навукі, і кожны вучоны спецыялізуецца толькі ў нейкай адной вузкай галіне.



**Тэхнікі Павел Котаў і Уладзімір Вядзернікаў манціруюць у «гарачай» камеры ўстаноўку для работы з радыёактыўным матэрыялам.**





**Аператар Мікалай Ліхтаровіч і старшы тэхнік Павел Котаў працуюць маніпулятарамі ў «гарачай» камеры.**

Галоўны інжынер Антон Сарока — эксперыментатар. Ён скончыў Беларускі ўніверсітэт чатыры гады таму назад, працаваў у Інстытуце фізікі, рыхтаваўся весці даследаванні з нейтронамі, цяпер манціруе ўстаноўкі. Разам з ім працуюць два высокія, плячыстыя юнакі. Гэта студэнты чацвёртага курса ўніверсітэта Уладзіслаў Нілаеў і Леанід Сальнікаў. Ля атамнага рэактара яны — нібы дома. Гэта іх будучы дом. Хутка яны будуць праводзіць тут лепшыя гадзіны свайго жыцця і будуць узрадаваны тым, што іх пошукі больш захапляльныя, чым пошукі ва ўсіх іншых галінах чалавечай дзейнасці — у гэтым яны пераканаы гэтак жа цвёрда, як і ў тым, што атам існуе. Тады гэты рэактар з усіх бакоў абставяць самымі складанымі ўстаноўкамі, пра якія нельга расказаць многімі тысячамі слоў многіх моваў, тады гэтае памяшканне будзе населена дзесяткамі фізіёлагаў, хімікаў, геолагаў, фізікаў самых розных кірункаў. Атам будзе служыць навуцы, будзе памагаць чалавеку пранікаць у такія далёкія глыбіні прыроды, пра якія мы і не падазраем, якія нельга прыдумаць ні аднаму самаму вытанчанаму фантасту. Вось як пра гэта сказаў савецкі фізік акадэмік Ландау: «Трыумф здольнага да пазнання чалавечага розуму заключаецца ў тым, што наша свядомасць пакінула далёка ззаду магчымасці нашага ўяўлення і розум фізікаў свабодна працуе там, дзе ўяўленне чалавека ўжо бяссільнае».

Па-гаспадарску, увішна працуюць ля бліскучай бронзавай дэталі трое фізікаў, трое юнакоў. Ставяць пракладкі, закручваюць гайкі, думаюць пра тое, «пацячэ» ці «не пацячэ» алюміній, калі будзе створан глыбокі вакуум — магчыма, давядзецца паставіць арганічнае шкло на тую адтуліну, праз якую нейтроны з рэактара ўлятаюць ва ўстаноўку. Усё зусім проста, і таму такія спакойныя гэтыя людзі.

Антон Сарока іранічна ўсміхаецца.

— Гэта толькі ў кінафільме «Дзевяць дзён аднаго года» так шмат жахаў і страху. А ўсё, як бачыце, не так ужо і страшна.

Вунь і ў нас такія ж, як у кінафільме, лесвіцы, можна прайсці і па такіх жа калідорах, і паказаць такое ж нагрувашчванне прыбораў... Але ці варта рабіць так, каб замінаць самім сабе.

Інжынер завіхаецца каля гаек, а я думаю пра тое, што яны, вось гэтыя юнакі, таксама, як і фізік Гусеў з кінафільма, спакойна будуць перамагаць атам, будуць таксама жартаваць, будуць таксама захапляцца гэтай прыгожай работай — якая зусім і не трывожная, калі жыць ёю. Гэтыя юнакі, вядома, не фанатыкі, якім нічога не трэба, акрамя атама. Зусім не. Ці ж можа быць аскетам-фанатыкам студэнт Уладзіслаў Нілаеў, у якога такі ясны блакітны позірк, і такі разумны твар, і такія паслухмяныя рукі? Магчыма, не раз я сустракаў яго на сімфанічных канцэртах, магчыма, гэта ён разам са мной купляў зборнікі вершаў



Інжынеры-фізікі Эдуард Несцераў, Уладзімір Рыўкін, Віталі Шчыкаціхін і галоўны інжынер рэактара Віктар Краснаштанаў сочаць за павелічэннем патоку нейтронаў у актыўнай зоне ў момант давядзення рэактара да крытычнага стану.

Салаухіна і Межалайціса ў кнігарні. Так, ён любіць паэзію.

Разам з начальнікам змены Вячаславам Золавым падымаемся па крутой жалезнай лесвіцы наверх, бліжэй да апаратнай, дзе кіруюць жыццём рэактара. Яшчэ адна і яшчэ адна лесвіца, і мы на пляцоўцы над рэактарам, амаль пад самым дахам, упоравень з маставым кранам. Мяккая эластычная падлога, выкладзеная квадратамі зялёнага і жоўтага пластыкату, велізарныя вітрынныя шыбы, за якімі знаходзіцца апаратная — шкло аддзяляе залу ад астатніх памяшканняў. Мы ідзём над рэактарам.

— Тут таксама ніякай небяспекі, — гаворыць Вячаслаў, — над уранам шасціметровы пласт вады. Верх рэактара закрыты плексігласам, за ім у вадзе калышуцца адбіткі агнёў электрычных лямп. А вось месца, куды ўстаўляюць уранавыя трубкі, вось тут адтуліна для карбіду бору, вось тут для аварыйнай засцярогі — два карбідныя стрыжні могуць зваліцца ў рэактар за чвэрць секунды і пагасіць ланцуговую рэакцыю. Гэтым ствараецца гарантыя поўнай бяспекі рэактара.

Мы ўваходзім у апаратную рэактара. Яна знешне выглядае больш проста, чым, скажам, на тэлецэнтры. І апаратары тут не так паспешліва, як на тэлецэнтры, пераключаюць кнопкі, можна нават настроіць усё на аўтаматычную работу і толькі наглядаць за прыборамі. Калі здарыцца якаянебудзь непаладка — засігналяць чырвоныя агні, пранізліва зазвініць званок і два стрыжні самі паляцяць у рэактар, каб спыніць ланцуговую рэакцыю. Тут памыляцца нельга, тут нельга так імкліва пераключаць кнопкі, як гэта робіць асістэнт рэжысёра на тэлестудыі. Там, часам, асістэнт выдасць пасярод перадачы ў эфір занавеску або пакажа зусім не тую фатаграфію, а тут, на рэактары, патрэбна дакладнасць.

— Вы пускалі? — пытаецца Вячаслаў Золаў у апаратара.

— Так, — адказвае жвавы юнак з чорнымі быстрымі вачыма.— Падагрэлі ваду на адзін градус.

Вячаслаў Золаў зноў доўга тлумачыць, для чаго робіцца пуск рэактара: вызначаюць, колькі і якіх нейтронаў дасць рэактар пры розных рэжымах работы. Так рыхтуюцца доследы.

На вертыкальнай панелі апаратнай некалькі самапісцаў чэрцяць на шырокіх папяровых стужках чырвоныя крывыя лініі. Гэта — паказальнікі работы рэактара. Гараць зялёныя агеньчыкі. Ціха і ўрачыста.

Мы праходзім з Вячаславам міма нейкага пакоя, я зазіраю туды — кампанія маладых людзей адпачывае.

— У нас цяпер абед, — тлумачыць Вячаслаў.

Мы ходзім з ім па ўсіх паверхах. У помпавай гудуць маторы — гоняць ваду да рэактара, а ад яго — да ахаладжальнай устаноўкі. У гарачых камерах — працуюць маніпулятарамі Мікалай Ліхтаровіч і Павел Котаў. Не дакранаючыся да радыёактыўных рэчываў, яны могуць іх раздрабніць, могуць напакаваць імі трубкі. Маніпулятары — гэта падоўжаныя рукі чалавека, якія, праўда, не такія дасканалыя, як сапраўдныя, але ўсё ж... Аказваецца, рэактар — велізарная гаспадарка. Толькі спачатку ўсё здалося зусім простым. Вялікая бетонная «бочка», у якой «выгарае» уран, напакавана мноствам разнастайных механізмаў.

Абед. Мы ідзём у буфет. Вячаслаў расказвае кароткую біяграфію рэактара. Яго пачалі будаваць у 1959 годзе. За тры гады змантціравалі ўсё складанае абсталяванне. Было шмат спецыяльных работ. Метровыя сцены рэактара, напрыклад, выкладвалі з так званага цяжкага бетону. Гэта бетон, перамешаны з кароткімі кавалкамі жалезных пруткоў і са стальнымі шарамі. Калі ўсё было гатова, з Масквы прыехала брыгада вучоных, каб падрыхтаваць пуск рэактара. Устанавілі свае прыборы для кантролю новых, толькі што змантціраваных. Хто ведае: а раптам які-небудзь падвядзе? Амаль месяц ішло выпрабаванне рэактара. І вось цяпер ён цалкам падуладны гэтым юнакам і дзяўчатам. Большасць — выпускнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, політэхнічнага інстытута. Прыехалі хлопцы і з ленінградскіх навучальных устаноў. Сам ён, Вячаслаў Золаў, не так даўно скончыў політэхнічны інстытут, працаваў на Мінскай ЦЭЦ-3, пасля вырашыў ісці на рэактар — гэта новае і цікавае.

Група інжынераў і тэхнікаў ля галоўнага пульта кіравання рэактарам.





**Узята чарговая проба вады з басейна актыўнай зоны рэактара пасля давядзення яго да крытычнага стану. Радыёактыўнасць не выяўлена. Ля ўстаноўкі, якая рэгіструе β-распад, інжынер-дазіметрыст Ніна Альхімовіч і тэхнік Валянцін Зубкоў.**

Да Вечаслава падыходзіць дзяўчына ў чырвоным світары, яна трымае ў руках ладнага сушанага тарана.

— Во табе, — смяецца яна, — да піва.

— Гэта мая жонка, — усміхаючыся, знаёміць Золаў. — Мы тут цэлымі «сем'ямі». І муж, і жонка на рэактары. Бачылі катэджы? Гэта наш пасёлак. Тут жывём, тут і працуем.

Пасля абеду шукаем біёлагаў. На трэцім паверсе адчыняем, як сказалі нам, «апошнія дзверы налева» і адразу бачым, што трапілі да біёлагаў. На вокнах стаяць невялікія шкляныя кубкі, з якіх цягнуцца да святла ўсходы кукурузы, гароху, гуркоў. За сталом над кнігай сядзіць малады чалавек. Ён паварочвае да нас галаву, але відаць, што захоплены яшчэ тым, што напісана ў кнізе, а не з'яўленнем незнаёмых людзей.

— Вы біёлаг? — пытаемся.

— Не, — адказвае ён, крыху разгублена.

— Як не?

— Я — фізік.

— А чаму ж вы раслінамі займаецеся?

— Так, я цікаўлюся біялогіяй.

— Вы біяфізік?

— Не, афіцыйна я яшчэ так не называюся. Я фізік, але вывучаю біялогію. На стыку навук. Я буду даследаваць, што адбываецца з жывымі тканкамі, калі яны абпраменьваюцца нейтронамі. Парушаюцца атамныя сувязі ці малекулярныя? Куды знікае і як перамяшчаецца энергія, якую перадалі жывой тканцы нейтроны...

Гэта ў нас у Беларусі зусім новая галіна навукі. Гэтым яшчэ ніхто не займаўся. У Інстытуце фізікі Акадэміі навук БССР вывучаюць, як пераразмяркоўваецца энергія сонечнага промня, трапіўшы ў зялёны ліст расліны або ў іншае арганічнае рэчыва. Даследуюць так званую люмінесцэнцыю. Энергію святла паглынае адна група атамаў і перадае другой, якая яе і вылучае.

— Мы, відаць, крыху больш складанай праблемай цікавімся, — гаворыць фізік-біёлаг Рыгор Дрозд. — Энергія нейтронаў ад адной групы атамаў ідзе да другой, потым — да трэцяй, і трэцяя, відаць, вылучае энергію. Але яшчэ дакладна не ўстаноўлена. Я вось і вырашыў займацца гэтымі пытаннямі.

Даведацца, што адбываецца з жывым рэчывам, калі яго абпраменьваюць нейтронамі — вельмі важна для біёлагаў, фізіёлагаў, медыкаў. Бо тады мы навучымся папярэджваць прамянёвую хваробу, лячыць яе, тады біёлагі будуць у сваіх доследах абапірацца на дакладныя матэматычныя разлікі. Навука становіцца сапраўднай навукай толькі тады, калі ў яе ўваходзіць матэматыка, а цяпер на дапамогу ёй прыходзяць электронна-вылічальныя машыны. На стыку біялогіі і фізікі нарадзілася біяфізіка, фізікі прынеслі матэматыку ў біялогію, яны прынеслі свой дакладны аналіз з'явы пры дапамозе складанейшых формул. Вось Рыгор Дрозд і вывучае гэтыя кнігі — фізіка-біёлага-матэматычныя.

На падаконніках можна бачыць вынікі доследаў біёлагаў: што вырасла з насення гароху, абпраменага трыма тысячамі рэнтген, дваццаццю тысячамі. Вось кантрольная расліна. Абпрамененыя загінулі, кантрольныя — жывуць. Абпраменьванне загубіла і насенне кукурузы — з дзесяці зярнят узышло толькі два, і тыя кволыя... Радыяцыя — небяспечны вораг жыцця. Трэба вывучаць механізм яе дзеяння, трэба навучыцца яе перамагаць, засцерагацца ад яе. Бо касманаўты хоць і могуць узняцца вышэй за трыста кіламетраў над зямлёй, але там маладаследаваны пояс радыяцыі. А чалавеку трэба яго пераадолець.

Непадалёку ад рэактара знаходзіцца доследны ўчастак біёлагаў. Там яны вырошчваюць розныя расліны проста ў грунце. Яны абпраменьваюць насенне і самі расліны. Нядаўна абпраменілі маладую ліпку. Гэта — толькі пачатак даследаванняў.

Шмат таямніц будзе раскрыта тут. Побач з рэактарам будуецца вялікі лабараторны корпус, праз год-два новае памяшканне засеяляць дзесяткі вось такіх жа жыццерадасных юнакоў і дзяўчат, яны прыйдуць сюды, каб разгадаць пры дапамозе мірнага атама самыя нечаканыя і самыя фантастычныя праблемы, якія дазволяць нам зазірнуць у запаветныя таямніцы прыроды.

Чатыры гадзіны. Канец працоўнага дня на атамным рэактары. Начальнік змены пламбіруе ўсе дзверы. Рэактар застаюцца ахоўваць вартаўнікі. Хутка пойдзе ў горад службовы аўтобус. Яго запаўняюць маладыя людзі, спяшаюцца ў акадэмію, у бібліятэку.

Вось у юнака вялікі рулон папер, загорнуты ў газету. Яго позірк выпадкова спыняецца на газетных радках, і ён уголас чытае абзацы з артыкула. Японскай дзяўчынцы было толькі два гады, калі ўзарвалася атамная бомба. Яна ляжала ля сцяны дома за тысяча васемсот метраў ад эпіцэнтра выбуху. Дзяўчынка засталася жывая, але расла кволая і слабая. Пасля ў яе пачалося белакроўе. Нядаўна яна памёрла. Праз семнаццаць гадоў атамная бомба расправілася са сваёй ахвярай...

Юнак думае, задумваюцца і тыя два, што сядзяць побач. Магчыма, яны першыя знойдуць сродак, каб адолець прамянёвую хваробу, магчыма, яны знойдуць рэчыва, каб нейтралізаваць дзеянне радыяцыі.

Атамнікі — звычайныя людзі. Яны жартуюць, смяюцца. Яны гавораць пра секцыі плавання і

**Доследны ўчастак пры атамным рэактары. Кандыдат сельскагаспадарчых навук Міхаіл Венедзіктаў і навуковы супрацоўнік інстытута біялогіі Анатоль Былінскі праводзяць феналагічныя назіранні за ростам і развіццём кармавога бобу, вырашчанага з абпрамененага і неабпрамененага насення.**



ручнога мяча, пра здачу экзаменаў на права вадзіцеля аўтамашыны, пра футбол, пра гальштукі, панчохі... Яны падобны на тысячы юнакоў і дзяўчат, якіх можна сустрэць у кожным кутку краіны Саветаў.

Аўтобус хутка пойдзе ў горад. А пакуль — ціха. Сінее блакіт неба, свеціць сонца. Непадалёк, у бярозавым гаі, побач з рэактарам, спявае салавей. Ён, відаць, разумее, што гэты атам — мірны, а не той, які ўзрываюць амерыканскія ваенныя маньякі на востраве Раждзяства, высока над зямлёю, у космасе. Салавей спявае звонка, смела, ля самых сцен рэактара. Шмат тысяч гадоў будуць яшчэ пець салаўі ў бярозавым гаі. І яны, вось гэтыя юнакі і дзяўчаты, што заняты праблемамі мірнага выкарыстання атамнай энергіі, будуць захапляцца яго спевамі.

**Віктар ГОВАР.**

Фота **В. Бараноўскага.**



Галоўны інжынер аддзела фізікі цвёрдых цел і паўправаднікоў АН БССР Эдуард Васільеў і старшы механік Мікалай Макарэвіч рыхтуюць апаратуру для нейтранаграфічных даследаванняў.

# ГОРАД КНІГІ

**Рэпартаж**

Кожны раз, калі я заходжу ў Дзяржаўную бібліятэку БССР імя Уладзіміра Ільіча Леніна, мне прыходзіць на памяць народная прыказка: «Што жывем, то вучымся». І сапраўды, у Ленінскай бібліятэцы, або ў «Ленінцы», як называюць яе ласкавей, можна сустрэць людзей рознага ўзросту, рознага занятку, розных інтарэсаў. Як тут не паверыш, што ў нашай краіне кожны трэці чалавек з'яўляецца чытачом бібліятэкі, а кожны пяты вучыцца? Збываюцца словы нашага правадыра, якія ён сказаў А. Луначарскаму: «Кніга — велізарная сіла. Імкненне да яе ў выніку рэвалюцыі вельмі павялічыцца...».

Сёння ў рэспубліцы бібліятэкамі карыстаюцца каля пяці мільёнаў чалавек— амаль палавіна насельніцтва Беларусі. Звыш 30.000 чытачоў абслугоўвае беларуская «Ленінка», дзе сабрана каля трох мільёнаў розных друкаваных і рукапісных выданняў, што з'явяліся на свет праз стагоддзі. Сюды прыходзяць, каб даведацца, як жылі людзі тысячы гадоў таму назад, глыбей разабрацца ва ўсёй разнастайнасці сённяшняга жыцця чалавецтва і зазірнуць у далячыні заўтрашняга дня.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

— Нараджэнне Рэспубліканскай бібліятэкі, — расказвае яе дырэктар Фёдар Уладзіміравіч Сцепанюк, — звязана з



узнікненнем у выніку перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларускай савецкай дзяржаўнасці. Як толькі беларуская зямля ўздыхнула свабодна пасля выгнання акупантаў, узнікла пытанне аб стварэнні ў рэспубліцы дзяржаўнага ўніверсітэта. Пры ўніверсітэце, які адкрыўся ў 1921 годзе, была арганізавана і бібліятэка. Але ўжо праз год Савет Народных Камісараў БССР прымае пастанову аб пераўтварэнні бібліятэкі ўніверсітэта ў «Беларускую дзяржаўную і ўніверсітэцкую бібліятэку». Гэта было 15 верасня 1922 года. Месцілася тады яна па Савецкай вуліцы ў будынку, які захаваўся да нашых дзён (цяпер у ім знаходзіцца філармонія). Перад тым як адзначыць дзесяцігоддзе, урад рэспублікі падараваў бібліятэцы новы, прасторны для таго часу, будынак з цэглы і шкла па Чырвонаармейскай вуліцы з вялізным кнігасховішчам. У 1932 годзе бібліятэка была рэарганізавана ў Дзяржаўную бібліятэку БССР і ёй нададзена імя Леніна.

І вось мінула яшчэ трыццаць гадоў. Бібліятэка адзначае сваё саракагоддзе. Азіраючыся на пройдзены шлях, нельга не ўспомніць другое нараджэнне бібліятэкі, у пасляваенныя гады. Гітлераўскія акупанты разрабавалі былі ўсе яе багацці, а будынак зняславілі, аддаўшы яго сваім афіцэрам пад увесяляльныя забавы. На вялікае шчасце самыя каштоўныя фонды бібліятэкі гітлераўцы не паспелі нават распакаваць, і звыш паўсотні вагонаў былі вернуты з дарогі назад у Мінск.

Адразу пасля вайны руку братняй дапамогі падалі старэйшыя бібліятэкі — Усесаюзная імя Леніна і Ленінградская імя Салтыкова-Шчадрына, а таксама з іншых гарадоў краіны. Дзяліліся лішнім экземплярам кніг, камплектам часопісаў ці газет, каб вярнуць беларускай «Ленінцы» яе былую славу скарбніцы ведаў.

Сёння бібліятэка — цэлы горад кніг. А нядаўна яна атрымала багаты падарунак — новы пяціпавярховы корпус з ёмістым кнігасховішчам, светлымі чытальнымі заламі і ўтульнымі кабінетамі. Ля кніжнай «сталіцы» ўзнік «горад-спадарожнік». Прастарней стала для кніг, зручней для чытачоў. Кніжныя паліцы — гэтыя своеасаблівыя «вуліцы» — падаўжэлі адразу на 34 тысячы метраў. У новым кнігасховішчы змесціцца амаль дзве трэці ўсяго багацця бібліятэкі. А яно ж расце і расце...

## ЕДУЦЬ НАВАСЕЛЬЦЫ

Уранні і пад вечар ля пад'езда новага корпуса бібліятэкі, што ўзнёсся на крутым схіле вуліцы Кірава, можна бачыць блакітную машыну з надпісам «Пошта». Кожны дзень яна дастаўляе сюды пакункі з кнігамі, стусы часопісаў, газет.



Ёсць пра што расказаць дырэктару бібліятэкі Фёдару Уладзіміравічу Сцепанюку.

Аддзел камплектавання фондаў бібліятэкі. Сюды трапляюць кнігі-навасельцы. Тут іх прыпісваюць на сталае месца жыхарства. Адсюль пачынае кніга свой шлях да чытача.

Прыкладна паўтысячы экземпляраў кніг паступае штодзень у бібліятэку. Гэта і абавязковы экземпляр усяго, што друкуецца на тэрыторыі Беларусі, і абавязковы экземпляр выданняў на рускай мове з усяго Саюза, якія пасылае сюды па свайму выбару Усесаюзны бібліятэчны калектар, і кнігі на ўкраінскай мове, што прысылаюць з Кіева па просьбе бібліятэкі, і часопісы нашы і зарубежныя, якія выпісвае бібліятэка, гэта і кнігі, атрыманыя на час па міжбібліятэчнаму абмену або набытыя назаўсёды ў кнігарнях.

Распакавана чарговая партыя пасылак. Сярод рознакаляровага мноства кніг у вочы кідаецца важкая таміна ў зялёнай вокладцы. Гэта «Беларуска-рускі слоўнік» — дасланы з Масквы абавязковы экземпляр.

Яго запісваюць у інвентарную кнігу пад нумарам Ау 108713. У «Кнізе руху» ставяць адзінку ў графе Ау — гэта азначае, што слоўнік трапляе ў фонд абавязковага экземпляра. Неўзабаве будуць набыты новыя, якія паступяць у падсобныя фонды чытальняў.

І так кожнае выданне атрымлівае тут ордэр на сталае жыхарства ў бібліятэцы.



**Кожны дзень новыя паступленні кніг.**

## АДРАСНЫ СТОЛ

Як жа знайсці сярод больш чым трохмільённага «кніжнага насельніцтва» патрэбную вам сёння кнігу?

— Не так ужо і цяжка, — адказвае загадчык аддзела апрацоўкі і службовага каталогу Браніслава Міхайлаўна Леўта. — Разам з кнігай дасылаецца і яе пашпарт — каталожная картка ў васьмі экземплярах. Адзін з іх мы захоўваем у службовым алфавітным каталогу, астатнія трапляюць у каталогі чытальняў. На картцы пазначан інвентарны нумар і шыфр. Гэта і ёсць самы дакладны адрас кнігі.

Вялізны пакой застаўлен каталожнымі скрынкамі. Паступае запрос на кнігу, якой няма яшчэ ў чытальнай зале. Якіх дзве-тры хвіліны і вопытная рука супрацоўніцы сярод мора картак каталогу знаходзіць патрэбную і ставіць на запросе адрас кнігі. Зусім як у адрасным стале.

Тут можна даведацца не толькі пра «сваіх жыхароў», але і пра тых, якія ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве... Аддзел мае картатэку рускай кнігі ад пачатку грамадзянскага друкавання, картатэку ўкраінскай літаратуры, вядзе ўлік недасланых кніг з выданняў апошніх год. Адным словам, тут могуць адказаць нават на такое пытанне: «Ці існуе ў прыродзе названая вамі кніга?» А калі існуе, дык дзе?

## ЛЮСТЭРКА БЕЛАРУСІ

На чатырох паверхах старога і пяці паверхах новага корпуса размешчана каля дваццаці чытальных залаў і кабінетаў — агульныя чытальні, для навуковай працы, кабінет тэхнікі і сельскай гаспадаркі, кабінеты мастацтва, чытальня для моладзі, кабінет замежнай літаратуры... І ёсць сярод іх адзін адметны для ўсёй бібліятэкі — гэта аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі.

Існуе ён з першых дзён адкрыцця бібліятэкі. Спачатку гэта быў кабінет краязнаўства, потым стаў кабінетам беларускай літаратуры, цяпер жа вырас у самастойны аддзел, які займае цэлы паверх новага корпуса.

Перад уваходам шчырае запрашэнне: «Калі ласка, таварышы!» Ужо яно настройвае кожнага на вялікую ўвагу, дабрату і вялікадушнасць з боку тых сціплых супрацоўнікаў, якія заклапочаны тут адным — памагчы чытачу ведаць усё пра Беларусь.

Вялізнае кнігасховішча, толькі нядаўна заселенае, падсобны фонд, дзве прасторныя светлыя і ўтульныя чытальні, пакой бібліяграфіі дазволілі сабраць у адно месца амаль усё, што выдавалася на Беларусі ад Георгія Скарыны і да нашых дзён, і мець на ўліку ледзь не ўсё, што напісана пра Беларусь, яе народ і яго справы на розных мовах. Каля ста тысяч выданняў, сабраных часам па старонцы, складаюць багацце аддзела, які ўвесь час папаўняецца не толькі тым, што выдаецца сёння, але і тым, што ўдаецца адшукаць з выдадзенага калісьці. Пра няспыннае папаўненне фондаў аддзела беларускай кнігі клапоцяцца не толькі яго загадчык Мікола Васілеўскі — энергічны і ўлюбёны ў сваю справу малады яшчэ спецыяліст, але і тыя, хто памагаюць яму. Тут, як у люстэрку, відаць уся Беларусь — учарашняя, сённяшняя, заўтрашняя.

Ніну Барысаўну Ватацы — галоўнага бібліёграфа аддзела ўспамінаюць добрым словам усе, хто цікавіцца беларускай літаратурай. Гэта яе турботамі падрыхтаваны такія каштоўныя бібліяграфічныя выданні як «Руская дарэвалюцыйная кніга пра Беларусь. 1802—1916 гг.», «Беларуская савецкая літаратура 1917—1960 гг.» і вялікая колькасць бібліяграфічных даведнікаў ды памятак пра асобных беларускіх пісьменнікаў.

У арганізацыі работы аддзела шмат памагаюць першая загадчыца яго Юлія Іосіфаўна Бібіла ды нястомны «лоцман кніжнага мора» Адам Антонавіч Сакольчык. Юлія Іосіфаўна ўжо даўно на пенсіі, але няма таго тыдню, каб яна не завітала ў аддзел. Гэтак жа ўпэўнена вядуць свой рэйд у пошуках таго ці іншага беларускага выдання вопытныя бібліятэкаркі і спагадлівыя людзі Ірына Фалькоўская і Ася Фрайман. За ўсёй літаратурай на іншых мовах пра Беларусь сочыць уважлівая да кожнага запытання чытача Лізавета Апацкая.



**Службовы алфавіт. Старшы бібліятэкар Людміла Брыль выконвае чарговы запрос чытальні.**



**Ніна Барысаўна Ватацы, Валя Камардзін і Мікола Сямёнавіч Васілеўскі зацікавіліся нядаўна адшуканым старым выданнем.**

**Першыя выданні работ У. І. Леніна ў Беларусі.**



Мікола Васілеўскі дастае з шафы некалькі дзесяткаў брашур. На вокладцы з абгортачнай паперы дарагое імя — Ленін. Гэта — першыя ў Беларусі выданні твораў вялікага правадыра рэвалюцыі: «Зямельнае пытанне», «Урокі рэвалюцыі», «Пра марксізм»... Іх выпускала на рускай мове выдавецтва «Звязда» ў векапомны семнаццаты год. У гэтых ленінскіх брашурах працоўныя людзі шукалі адказу на тое, што іх турбавала. Час захаваў дарагія рэліквіі



У чытальні аддзела беларускай літаратуры. На першым плане малады крытык Алесь Яскевіч.

рэвалюцыі, і мы з вялікім хваляваннем бярэм іх сёння ў рукі, каб адчуць подых тых бурлівых дзён нараджэння новага ладу.

Аддзел вядзе свае алфавітны, сістэматычны, геаграфічны каталогі, картатэку персаналій (літаратуры аб аўтарах выданняў). Фонды ўвесь час папаўняюцца старымі выданнямі — набылі бібліятэку вядомага вучонага-славіста У. Пічэты, скамплектавалі літаратурныя часопісы «Полымя», «Узвышша», «Маладняк»...

У Тамары Гайдукевіч, якая займаецца апрацоўкай новых паступленняў, з кожным днём не меншае, а ўсё большае работы. І яна задаволена гэтым, бо ведае, як удзячны будуць за ўсё чытачы.

Непасрэдна з чытачамі маюць справу самыя маладыя супрацоўніцы Валя Камардзін і Рыма Чыгірова. У іх яшчэ мала вопыту, але шмат гарачай любві да кнігі і павагі да тых, хто ёю цікавіцца. А калі ўзнікае цяжкасць, на дапамогу Валі прыходзяць і галоўны бібліёграф, і загадчык аддзела... Тут усе імкнуцца найлепшым чынам задаволіць патрабаванні чытача.

А каго толькі тут не сустрэнеш? Побач з вядомымі ў рэспубліцы філолагамі М. Суднікам, Н. Перкіным, М. Барсток паглыбіліся ў кнігі і маладыя літаратуразнаўцы. Д. Бугаёў аблажыўся рознымі выданнямі паэзіі Максіма Танка — ён працуе над артыкулам пра творчасць паэта. Анатоль Клышко зацікавіўся сучасным станам зарубежнага кіно, і вось яму падабралі цэлы стус літаратуры... Сядзі толькі і набірайся ведаў у новай для цябе галіне!

Цішыня і спакой — вечныя спадарожнікі людзей, занятых разумовай працай. Убеленая сівізной галава прафесара і насупленыя вусы, а побач непакорлівы «вожык» аспіранта, яшчэ далей стомлены, але мілы тварык студэнткі-завочніцы, якая ўрвала вольную ад працы часіну і таму спяшаецца чытаць, нават не гляне ўбок... А вось усміхнуўся яшчэ бязвусы юнак, не адрываючыся ад кнігі: мабыць захапіўся сатырай Крапівы... Глянеш, здаецца, толькі чытаюць, а колькі напружанай працы мозгу і бурных эмоцый сэрца!

## ДЛЯ САМЫХ МАЛАДЫХ

Толькі пачаўся пасля летняга адпачынку навучальны год у студэнтаў. Першыя дні вучобы, першыя лекцыі, і таму не так людна ў чытальнях бібліятэкі. Не тое, што ў дні экзаменацыйных сесій. Тады нос, як кажуць, не ўб'еш. Чарга ў раздзявалцы, чарга ля кніжных паліц, нават «барацьба» за месца ў чытальні. Больш за тысячу месц, і ўсё роўна не хапае. Як правіла, не хапае для тых, хто адкладае ўсё на апошні дзень і забываецца на вядомую прыказку: «Адклад не ідзе ў лад». Тыя ж, для каго бібліятэка стала родным домам, знаходзяць тут заўсёды прытулак, адчуваюць клопаты і ўвагу. Бываюць дні, што праз чытальні прахodзіць больш трох тысяч наведвальнікаў, а колькасць кнігавыдач дасягае пяці тысяч.

Пад новы год адкрылася спецыяльная чытальня для моладзі. Сюды прыходзяць старшакласнікі, навучэнцы тэхнікумаў і прафтэхшкол, рабочая моладзь, адным словам, людзі таго ўзросту, калі цікавіць усё.

Вось над падручнікам геаметрыі схіліўся русявы юнак у каўбойцы. Гэта — Алесь Краўцэвіч з Івацэвіцкага раёна. Пасля дзесяцігодкі задумаў паступіць на механіка-тэхналагічны факультэт Політэхнічнага інстытута. Калі мы пазнаёміліся з ім, экзамены толькі пачыналіся, і мы пажадалі хлопцу па-студэнтцку «ні пуху, ні пер'я». Лагодная ўсмешка ў адказ на гэта пажаданне.

На паліцах заказаныя юнакамі і дзяўчатамі кнігі: «Асновы электратэхнікі», «Таямніцы космасу», «Выбранае» Я. Яўтушэнкі, Ю. Алеша, раман І. Мележа «Людзі на балоце»... Невядома, хто яны, гэтыя чытачы, але вядома адно — хочуць усё ведаць.

Бібліятэкары Вольга Аляксандраўна Федарэнка і Ліля Каршакевіч як клапатлівыя педагогі выхоўваюць у сваіх чытачоў любоў да кнігі, да навукі, дбаюць пра густы моладзі. Сюды прыходзяць тыя, хто імкнецца да ведаў, хто наважыўся аддаваць кнізе свой час, а можа і прысвяціць ёй сваё жыццё. Такому чалавеку трэба памагчы, пачынаючы ад правіл карыстання каталогам аж да навыкаў канспектавання прачытанага.

Малады чытач не надта паседлівы, каб захапляцца толькі кнігай. Ён хоча бачыць, чуць тое, што за яе старонкамі. Бібліятэкары ведаюць гэта і два разы на месяц, а то і часцей, парушаюць правілы ўнутранага распарадку. Тут жа ў чытальні наладжваюць вечары пытанняў і адказаў, сустрэчы з аўтарамі і героямі кніг, выпускі вуснага часопіса, агляды навінак навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры.

Сустрэча з братам гераіні беларускага народа Веры Харужай, з вучонымі і лётчыкамі, якія расказвалі пра поспехі савецкіх касманаўтаў, з прадстаўнікамі розных прафесій на тэму: «Пайшлі ў жыццё рамантыкі» — такі далёка не поўны пералік таго, што ўжо адбылося ў чытальні для моладзі, акрамя звычайнага занятку над кнігай.

Утульна, зручна, цікава — так гавораць пра сваю чытальню яе наведвальнікі, самыя юныя чытачы бібліятэкі, самыя дапытлівыя.

## БЮРО ДАВЕДАК

У кожным вялікім горадзе ёсць даведачна-інфармацыйная служба. Ёсць яна і ў горадзе кнігі: даведачна-бібліяграфічны аддзел. Скрынкі з каталожнымі карткамі, шматтомныя энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі аж да адрасных і тэлефонных кніжак не толькі Мінска, але і другіх гарадоў краіны пад рукамі дзяжурных бібліёграфаў. Каля 50 тысяч даведак за год — гэта больш, чым



У чытальні для моладзі.

паўтараста за дзень — даводзіцца выдаваць аддзелу вусна, па тэлефоне, пісьмова. Даведкі з трох слоў і пашыраныя, на некалькіх старонках.

Зайшоў аспірант — ён цікавіцца рускім фальклорам. Бібліёграф Ірына Пратасеня дастае з прадметнага каталога скрынку з карткамі на адпаведныя кнігі, прапануе азнаёміцца.

Тэлефонны званок. Дзяжурны бібліёграф бярэ трубку. Званяць з камвольнага камбіната — просяць парэкамендаваць творы Леніна, у якіх ён пісаў пра сацыялістычнае спаборніцтва.

— Хвілінку, — адказвае Ірына і спяшаецца да тэматычнай картатэкі па ленінскіх творах. Потым вяртаецца да тэлефона, дыктуе пералік...

Яшчэ званок. Рэдакцыя «Настаўніцкай газеты» просіць падказаць, дзе пісалася пра бакінскі вагонарамонтны завод як прадпрыемства камуністычнай працы...

А бібліёграф Ала Гуліс у гэты час

перагортвае ёмісты том ампелаграфіі — апісання гатункаў вінаграду, каб адказаць на пісьмо з бібліятэкі Новаельненскага сельскага дома культуры: «У калгасе пасадзілі вінаград, але не ведаюць, які гатунак, мяркуюць, што «Алікант чорны». Дашліце, калі ласка, апісанне яго». Не адну гадзіну патраціла Ала Гуліс, пакуль адшукала апісанне і вось ужо рыхтуе пісьмо ў адказ.

Вялікую, добрую службу нясуць у гэтым своеасаблівым «бюро даведак» людзі начытаныя, эрудыраваныя, кемлівыя, проста-такі — энцыклапедысты.

## КААПЕРАЦЫЯ

Намаганні бібліятэкараў розных гарадоў краіны даўно ўжо скааперираваны пад дэвізам: «Ніводнай адмовы чытачу». Маленькія бібліятэкі — сельскія, заводскія, раённыя — маюць абмежаваныя фонды літаратуры. Але ж нічым не абмяжуеш інтарэсы чытача. Каб задаволіць іх найлепшым чынам, існуе сістэма міжбібліятэчнага абанементу — МБА. Беларуская «Ленінка» абслугоўвае 583 бібліятэкі-абаненты і сама звязана з буйнейшымі кнігасховішчамі краіны. Больш двух тысяч заявак пасылае за год міжбібліятэчны абанемент у бібліятэкі СССР, а яшчэ больш атрымлівае з бібліятэк рэспублікі. Пастаянныя абаненты аддзела — абласныя і раённыя бібліятэкі, Акадэмія навук, навукова-даследчыя галіновыя інстытуты, выдавецтвы, музеі, праектныя ўстановы, мотавелазавод і завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску, Беларускі аўтазавод у Жодзіне, Навабеліцкі шклозавод, полацкі Нафтабуд і іншыя. Перабіраеш фармуляры, заяўкі, запросы, і дзіву даешся, якой магутнай сілай духоўнага ўдасканалення чалавека стала ў наш час кніга, якім ні з чым не параўнаным стала імкненне людзей да самых вышынь чалавечых ведаў!



Новы корпус бібліятэкі па вуліцы Кірава.



Дзяжурны бібліёграф Ірына Пратасеня дае даведку.

## ДА ПОЗНЯГА ВЕЧАРА

Мы прайшліся з вамі, чытач, толькі па некаторых «кварталах» беларускага горада кнігі, спынілі, і то на непрацяглы час, вашу ўвагу на некалькіх яго службах. Засталіся абмінутымі не толькі асобныя чытальні. Абмінулі і кнігасховішча, зайшоўшы ў якое самы абыякавы чалавек не ўтрымаецца, каб не захапіцца лабірынтам вуліц і завулкаў, абапал якіх стаяць густанаселеныя кнігамі шматпавярховыя дамы-палацы. Увішныя дзяўчаты ў сініх халатах з ранння да вечара ныраюць у гэтае кніжнае мора, дастаючы з самых глыбінь яго самае неабходнае чытачу з яго разнастайнымі густамі.

Прыкладна адну трэцюю частку заўсёдных чытачоў складаюць студэнты вышэйшых навучальных устаноў, адну пятую — інжынерна-тэхнічныя работнікі, адну дзесятую — людзі навукі. Што больш чытаюць? Часопісы, агульна-палітычную і эканамічную літаратуру, кнігі па тэхніцы і прыродазнаўству, літаратуразнаўчыя працы. Менш за ўсё чытаюць сельскагаспадарчую літаратуру. Пра ўсё гэта нам расказалі ў навукова-метадычным аддзеле. Стан бібліятэчнай работы ў рэспубліцы, характар сучаснага чытача і клопаты пра павышэнне кваліфікацыі тых, хто заклікан абслугоўваць яго — вось чым заняты бібліятэкары-метадысты. Пры бібліятэцы ўвесь час працуюць курсы бібліятэчных работнікаў, наладжваюцца семінары-нарады па абмену вопытам, арганізавана выданне бібліяграфічных і метадычных дапаможнікаў.

Сто пяцьдзесят заўзятых прапагандыстаў кнігі ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна свае веды і вопыт, сваю натхнёную працу скіроўваюць на тое, каб прывесці ў карыснае дзеянне вялізную энергію людскога розуму і вопыту, затоеную ў друкаваным слове.

З дзевяці гадзін раніцы і да позняга вечара не сціхае жыццё ў горадзе кнігі, няспынна дзейнічае акумулятар чалавечай думкі, насычаючы духоўна сотні чытачоў, адпаведна іх жаданням і інтарэсам.

Бібліятэка, якая носіць імя Леніна, за сорак гадоў свайго існавання ператварылася ў магутную зброю сацыялістычнай культуры і калектыўнага выхавання мас. І ў наступныя дзесяцігоддзі яна гэтак жа дзейсна і энергічна будзе памагаць вялікай справе пабудовы камунізма ў нашай краіне, а нястомным працаўнікам бібліятэкі будзе заўсёды спадарожнічаць народная любоў і пашана.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**
Фота **А. ДЗІТЛАВА.**

# *Да 80-годдзя з дня нараджэння ЯКУБА КОЛАСА*

# ПІСЬМЫ ЯКУБА КОЛАСА

***Гэтыя пісьмы народнага паэта Беларусі адносяцца да часоў вайны і пасляваенных гадоў. Адрасаваны яны партыйным і савецкім дзеячам нашай рэспублікі, шчырым сябрам і родзічам — усім тым, каму магло адкрыцца ў цяжкую гадзіну набалелае сэрца паэта. Пісьмы гэтыя дапаўняюць светлы вобраз паэта-грамадзяніна, які жыве ў нашых сэрцах, раскрываюць яго глыбокую чалавечнасць.***

## *Да Петруся Броўкі*

*Родны. мілы, дарагі Пятрусь!*

*Был я сегодня в Союзе писателей — почти каждый день бываю там. Мне сказали, что на моё имя получена открытка от Бровки. Эту открытку взяла Эди Огнецвет для передачи мне... Уж вечер. Темно. Скупо горит электрическая лампочка, а я пишу тебе, не прочитавши твоего письма. Милый Петрусь, я уж хотел написать Леле в Алма-Ату и справиться о тебе. Но как раз вчера пришла от нее открытка. Она тоже собиралась наводить о тебе справки у меня. Но в этой же открытке была приписка. В ней сообщалось, что от тебя получена молния с указанием твоего местопребывания. Я отправил ей, Леле, сегодня письмо и разделил с нею радость по поводу известий о тебе. И вот приходит ко мне письмо непосредственно от тебя! Как хорошо! Живу я здесь не очень роскошно. В настоящее время имею другое помещение ближе к центру города. Комната большая, довольно уютная. М. Д. немного оправилась, и я освобожден от лишней нагрузки. Понемногу работаю. Написал 4 небольших рассказа. Один был напечатан в здешней газете и в московской «Комсомольской правде». Два в военной газете. Третий должен появиться в ней на этих днях. Кроме того написал 14 стихотворений. Они переписаны в тетрадь, которую я назвал «Ташкентская торба». К сожалению, я потерял связь с вами. Белорусское постпредство в Москве ликвидировано, что еще больше нарушило эту связь. Я нигде не работаю, человек свободной профессии. А здесь начались холода. Морозы свыше 10°, выпал снег. Время проходит, а я успеваю мало. Где Янка, не знаю. Он так и не ответил мне. Здесь находится Уткин, Луговской, Чуковский, мой Сережа, Скосырев и много других. Украинцев мало — Тищенко и еще один... Эди так и не принесла твоей открытки. Оставлю немного места, допишу завтра, прочитавши твое письмо.*

*Здесь упорно ходят слухи, что умер Бядуля. Говорят, ехал в Ходжент и по дороге умер. Как справиться, не знаю. Мавр написал мне... два письма и умолк. Письма твоего все еще не прочел. Надо разыскивать Эдю. Якуб.*

*24.XI. Я надумаўся пасдаць гэта пісьмо праз Алма-Ату: Лёля напэўна ведае твой новы адрас. Доўга будзе ісці маё пісьмо да цябе. Шмат падзей адбудзецца за гэты час. Веру, спадзяюся, што ашалелы гітлерызм раскрышыць свой арыйскі чэрап. Многа пакут зазналі мы праз яго. Пылаю страшэннаю помстаю, і будзе святая справа, калі за іх злачынства зямля фашысцкая будзе абернута ў чорную пустэлю. Цалую вас усіх. Напішу вам ад паўнаты сэрца, калі пачую навіну, што Гітлер стаіць у двух кроках над цёмнаю ямай, якая глыне яго. Твой Якуб.*





**Пятрусь Броўка, Якуб Колас і Максім Танк у Вялікім Крамлёўскім палацы ў час Другога Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў. 1954 г.**
Фота **В. Ляонава.**

*17.XII.1941 г.*

*Мілы, любы, харошы, дарагі Пятрусь!*

*Вось ужо дні тры, а можа і болей, як атрымаў я тваё пісьмо ад 18.XI. Мне хацелася ў той жа дзень сесці і пісаць табе, пісаць многа, шмат чаго прыгадаць. Ды вось, Петрусёк, не ўдаецца мне: зноў захварэла мая Маруся. Не шанцуе ёй у Ташкенце. Яшчэ калі мы ехалі сюды з Клязьмы, яна трохі прыхварнула. «Прыдзецца, мусіць, пакінуць вам мяне», — сказала яна тады мне. «Чаму гэта пакінуць?— пытаюся: — як гэта пакінуць?» Яна перавяла гутарку — могуць знайсці ў яе такую хваробу, што ссадзяць з поезда. Да Ташкента даехалі ўсе разам. У пачатку верасня яна захварэла на крупознае запаленне лёгкіх, ляжала ў шпіталі. Выпісалі яе, калі яна крыху аправілася, але не давялі да канца лекаў. Зноў захварэла. Паляжала, ачуняла ды ізноў хварэла. Потым з месяц адчувала сябе здаровай, праўда, не ў поўнай меры, але з усёй уласцівай ёй гарлівасцю ўзялася за работу і вось ізноў 14.XII злегла. Што з ёю, напэўна не ведаю, але ўся хвор знаходзіцца ў цеснай сувязі з лёгкімі. Тэмпература няроўная, высокая ў агуле. І сёння яна мне кажа, каб я не крыўдзіў Міхася, калі мне здарыцца жыць з другім чалавекам. Гэта мяне так расстроіла, што вось пішу табе, а слёзы замінаюць пісаць... Як яно што будзе, хто можа сказаць? Мне ж без Марусі не жыццё. І ад Юркі не маю ніякіх звестак. Наогул жа становішча маё ў апошні час у матэрыяльным сэнсе палепшылася. 31-га X мне аднавілі маю персанальную пенсію па пастанове СНК Уз. Сёння напісаў мне пісьмо сакратар Вярхоўнага Савета БССР. І ўсё ж настрой у мяне зніжае М. Д. І сам я хаджу ды баюся, каб не паваліцца — падкошваюцца ногі, кружыцца галава. Наогул, браце, аслабеў. Цяпер мой палец адагне кожны з вас. Аслабеў, а з чаго — не ведаю. Ніколі я не лячыўся, а падлячыцца трэба б было. Ператаміўся трохі. Для радасці ж цяпер прычын многа. Той пералом, аб якім я ўвесь час думаў і прочна жадаў, на фронце адбыўся. А я кожную раніцу бегаў у суседнія двары паслухаць радыёвесці з фронта. 9.XII я набыў сабе радыёточку. Яна цяпер гудзе над самай галавой, калі кладуся нанач. Як радасна слухаў я навіны! І пачаліся добрыя весткі з таго часу, калі я ўстанавіў радыё. Удзел у вайне Японіі нічога новага не ўнясе, апроч некаторага ўскладнення і можа быць зацяжкі вайны. Ды ўсё гэта не ўратуе Гітлера, гэтага асноўнага шворна вядомай восі. Шворан можа выкінуцца шмат раней, чым гэта прынята думаць...*

*Цалуй моцна Міхала і ўсіх маіх дарагіх землякоў. Лёля мне нядаўна пісала. Збіраюся адпісаць ёй. Хацеў бы я, Пятрусік, сустрэцца з вамі за сталом. «Дзядзька Карусь» займаў бы на ім вельмі віднае мейсца. Бывай жа здаровы. Пасылаю два вершы. Адзін з іх можна будзе скарыстаць у газеце. А другі ты сабе прачытай. У зборніку вершаў*

*б. м. знайшлося б і яму мейсца. Апошні мой верш «Дуб» (З падбярэжскага побыту). Пішыце. Усіх цалую. Твой Якуб.*

*P. S. Каля 5-ці сваіх вершаў я перадаў тут т. Клімаву з тым, каб даслаць вам. За вялікі гонар, які аказалі вы мне, увёўшы ў склад рэдакцыі, шчыра дзякую.*

*Ад Марыі Дзмітрыеўны табе і ўсім вам шчырае прывітанне.*

*Я. К.*

*28.V.1942 г.*

*Дарагі мой Пятрусь!*

*Першы з Масквы напісаў мне ты, мой мілы Пятрусь. Я не ведаю, як мне радавацца з повадy паведамлення аб Юрку. Нас засмучае адно: чаму ж Юрка не напіша нам? Ён жа ведае наш адрас. Калі б ён яго страціў, то мог бы напісаць у Клязьму. Баюся, што тут выйшла непаразуменне. Ёсць наш зямляк і аднафамілец Коля. Можа яго Нортман прыняў за Юрку. Дзе вы цяпер, сакалы мае мілыя? У Маскву паехаў Ліпатаў, праз яго я паслаў пісьмы. Паслаў сякія-такія матэрыялы. Зараз (з 24-га мая) пачаў пісаць аповесць. Яшчэ не ахрысціў яе. Напісаў адзін раздзел. Як яна пойдзе далей, не ведаю. Калі будзе выпадак, напомні Ваеніздату і Гіхлу няхай бы прыслалі мне грошы. Як пажываеце?.. Вось бы спаткацца нам! Я ўсімі сваімі думкамі там, на беларускай зямлі. Нашы саюзнікі мяне абураюць — вядуць сябе, як чорт яго ведае што. На словах я знайшоў бы для гэтага параўнанне. Вельмі востра перажываю ўсё, што адбываецца на фронце. Цалую цябе і ўсіх вас, браты мае.*

*Якуб.*

*P. S. Прывітанне ўсім добрым людзям. Няхай Гітлер... здохне.*

*Я. К.*

*Мілы Пятрусь! Абнімаю цябе, цалую. Помні мой наказ: жывіце з Міхалом у дружбе і згодзе. Аб Юрку нічога не ведаю. І радасць мая стаіць пад вялікім знакам запытання. Рэсурсы мае растаюць. Папаўнення няма, а расходы вялікія. М. Д. ляжыць. Грып у яе ці што. Занепадае мая жанчына, мой лепшы ў свеце друг. Данік нядаўна вышаў з бальніцы... Спяшаюся пісаць. Заўтра едзе ў Маскву Клімаў. Без яго мне тут будзе яшчэ трудней. Даймае спякота. Цалуй Кузьму і ўсіх нашых хлопцаў. Як бы гэта было добра апынуцца ў Беразянцы, але штось непадобна на тое. Эх, браткі мае родныя. Пішы ж, Петрусёк. Мне не дужа весела. Цалую. Твой Якуб.*

*4.VI.1942 г.*

*Ташкент 13.VIII вечарам.*

*Дарагі Пятрусь, Лёля, Юрка!*

*Прывітанне вам усім, мае родныя.*

*Тэлеграму тваю, Петрусёк, я атрымаў. Вось наважыўся напісаць табе ў Алма-Ату. Покі дойдзе маё пісьмо, то табе да першага верасня астанецца не так ужо і многа. Сягоння прыслаў пісьмо Міхал. Ніякіх асаблівых змен за час твайго ад'езду не здарылася, не адбылося. Хіба толькі тое, што Міхал перабраўся з свайго № у 1053. За час, што прайшоў з дня твайго выезду адгэтуль, таксама нічога цікавага не здарылася. Напісаў артыкул на 13 ст. друкованых на машынцы. 8.VIII здаў яго Лежневу. Артыкул называецца «Белоруссия под гитлеровской оккупацией». Як ён будзе прынят, які яго далейшы лёс не ведаю. У гэтыя дні балелі зубы. Шчака мая распухла, як падушка. Прыйшлося лячыцца. Сягоння вырваў зуб. Пазаўчора зняў з зубоў мост. Кожны дзень хадзіў і хадзіць буду, покі не прывяду зубы ў парадак. Некалькі дзён таму назад прышла тэлеграма ад Фадзеева. Просіць напісаць артыкул на 4 старонкі для інтэрнацыянальнага журнала. Характар артыкула — антыгітлерызм. Над гэтым артыкулам і пацею. Цяжка пісаць, не маючы акрэсленага курса. Палавіну работы зрабіў. Але што з яе будзе, не ведаю.*

*14.VIII. Сёння як раз мінаецца год, як, выехаўшы з нашага роднага горада, мы прыехалі ў Ташкент. Пішу пад перадачы радыё. Сягоння ўпамінаюцца ў зводцы Савецкага Інфармбюро Мінеральныя Воды. А нашы саюзнікі і не кратаюцца. Англічане цяпер, як відаць, болей заняты Індыяй, чым новым тэатрам вайны. Наогул нашы саюзнікі — сволач. Уся гісторыя гэтай вайны паказвае, наколькі дрэнны саюзнік Англія. Грэцыі яна не*



*дапамагла. А ўжо другі год, як яна вялікіх ваенных аперацый не вядзе. У яе апраўданне можна сказаць, што яе ўладанні занадта параскіданы. Але цвёрдалобым пара б, здаецца, засвоіць прастую мысль, што каб хутчэй скончыць вайну, дык трэба біць немцаў на іх зямлі. Калі загрымяць гарматы на палях немцаў, тады яны адразу пераменяцца і «фюрару» пакажуць зады.*

*А нам адным трудна біцца з усёй Еўропаю. Наш працаўнік па геаграфічнаму палажэнню сабран у кулак. Працаўнікі яго раздзелены вялікімі прасторамі. Але як ні цяжка нам, як далёка ні ўбіўся ў нашы землі нямецкі смярдзючы труп, яму будуць капцы. Не можа быць, каб свет вярнуўся ў чорныя вякі 13, 14 сталеццяў.*

*Усё ж, Петрусёк, едучы з водпуску, завярні сюды да нас. Можа ўдасца паехаць адгэтуль найболей хуткім маршрутам.*

*Што чуваць у Алма-Аце?*

*Перадай прывітанне сям'і і ўсім маім знаёмым, землякам, якія знойдуцца там.*

*Цалую цябе горача.*

*Твой Якуб Колас.*

*[1942 г.]*

*23.VI.1943 г.*

*Дарагі Пятрусь!*

*Па прыездзе з Масквы пішу табе другую адкрытку. На першую твайго голасу не чуў. Я ўжо Міхалу скардзіўся ў пісьме, што адсылаю сягоння. Што parабляеш, Петрусёк? Што чуваць? Калі ж Гітлер скруціць галаву? Што ў цябе дома чутно? Мне прыслалі пропускі на выезд з Ташкента. Выехаць здолеем у канцы лета. Першы паедзе Даніла. Яго выклікаюць. Мне ж трэба падправіць маю Марусю. Яна зноў, ужо трэці раз прахварэла на запаленне лёгкіх. Мне прыходзіцца падмяняць яе. Скора год, як ты быў у Ташкенце. Дарагі Пятрусь! Як маркотна без вас, без роднай зямлі! Няхай сатне немчуру маланка. Цалую цябе. Якуб.*

*P. S. Толькі што слухаў цябе. Чытаў «Кастуся Калін.» Было так добра чутно, усё роўна, як бы ты быў у некалькіх кроках ад мяне. Мы былі так рады. Не ставала толькі, каб ты сам зірнуў на нас.*

*Я. К.*

*P. S. Пагавары з Лыньковым і напішыце ў Алма-Ату, каб Маўра Я. К. перавялі ў вышэйшую катэгор.*

*23.VIII.1943 г.*

*Мой мілы Пятрусь!*

*Не вельмі даўно я паслаў табе пісьмо. А зараз пішу другое. Заўтра збіраемся паехаць у горы. Трохі мы спазніліся і не па сваёй віне. Усё ж такі трэба Узбекістан пабачыць апроч Ташкента, трэба трошкі пабыць у горах, падыхаць свежым паветрам, якога няма ў Ташкенце. Гэтым летам, як ніколі, я адчуваў сябе стомленым. Усё ж, браток, заматаўся я і работаю, і паездкамі ў Маскву, і хранічным недасыпаннем. У выніку — празмернае напружанне нерваў і нейкае атупенне. Ужо шмат часу мяне абурае пачуццё злосці ў адносінах да нашых саюзнікаў. Па істоце справы няма вялікай розніцы паміж заправіламі Англіі і Амерыкі і заправіламі гітлераўскай стадолы. Адны вынішчаюць наш край і наш народ, а другія са спакойным сумленнем пазіраюць на гэта і не робяць ніякай перашкоды гітлерызму. Гандляры яны, сукіныя сыны. Яны думаюць ажыццявіць подлую справу, задушыць ідэю народаўладнасці, панавання шырокіх працоўных мас, тую ідэю, за якую змагаемся мы. Не, ім гэта не ўдасца. Я пасылаю табе верш, прысвечаны нашым саюзнікам. Думаю, што я не адзін гэтак стаўлюся да фальшывых пабornікаў праўды і справядлівасці. У канцы верасня ці ў самым пачатку кастрычніка будзем збірацца ў дарогу, бліжэй да нашай роднай зямлі. Як ты жывеш, над чым працуеш? Я напісаў за гэты час даволі многа для такога падтоптанага чалавека, як я. Пачаў пісаць 9-ы раздзел паэмы «Адплата». Каля тысячы радкоў ужо напісана. У 12 раздзелаў можа ўложыцца ўвесь змест паэмы. Пішы мне, дарагі друг. Я паспею яшчэ атрымаць тваё пісьмо. Перадай маё шчырае прывітанне ўсім нашым хлопцам. Абнімаю цябе: моцна цалую. Прывітанне тваёй сям'і. Цалую яшчэ раз. Твой Якуб Колас.*

*P. S. Янка Маўр просіць паслаць яму вызаў. Пагавары з Міхалам. Я стаю за тое, што выклікаць яго трэба.*

*Я. К.*

*13.II.1945 г.*

*Дарагі Пятрусь!*

*Пісьмо і наказ Глебку перадаў. Кнігу тваю прадстаўлю. Пятруська, у маёй паэме трэба выкінуць дзве страфы ў тым мейсцы, дзе вядзецца размова Цімоха з Жыгуном.*

*Адна.— А нас не ганялі, прыпомні,*
*Зімой басанож у каменаломні...*

*Другая страфа, дзе гаворыцца пра калгас — ці стала салодкай трава, якою жывіўся ў калгасе.*

*У мяне няма тэксту паэмы, дык не магу цытаты прыводзіць дакладна.*

*І яшчэ адно мейсца трэба папрaвіць. Не ведаю ў якім раздзеле — можа 19, можа 20 — там гаворыцца пра труп, што ляжыць пры дарозе з бяростаю на грудзях. Есць там спачатку раздзела пад яго канец: «Так з цяжкіх каменняў агіды*
*Курган дзікі вырасце з часам...»*

*Трэба змяніць, выкінуць «курган», а лепей так папрaвіць —*
*У полі горб вырасце з часам.*

*Можна выкінуць і страфу — (7, 8-6 раздзелы)*
*Савецкі Саюз не адзін —*
*Амерыка, Англія ў згодзе.*
*Што будзе, калі такі млын*
*На поўныя ставы заходзіць?*

*Калі б у мяне быў пад рукамі тэкст паэмы, я папраўляў бы ў ёй сёе-тое. А так даручаю табе, як і пісаў я табе раней, рабіць папраўкі, вынятк і г. д. Паэма яшчэ не адстаялася. Ей трэба крыху ўляжацца. Я потым яе перагледжу і зраблю сам папраўкі, калі буду выдаваць яе паасобным выданнем.*

*М. Д. усё яшчэ ў бальніцы. Гэтымі днямі яе выпусцяць і дадуць перапынак, а потым ёй прыдзецца прайсці курс лекаў рэнтгенам. Я жыву, дзе прыдзецца. Учора прасіў Палікарпава, каб далі № у «Маскве». Абяцаў. Напішы, як жывеш... Падгані там справу з узнагародай пачэснымі граматамі Ісакоўскага, Мазалькова, Гарадзецкага, Ірыніна і яшчэ каго-небудзь пятага... Падштурхні справу аб ліміце Мазалькову. Трэба нейк адну нашу адзінку вярнуць у Маскву з просьбай падзяліць яе на 300 і 200 руб. А можа і не трэба.*

*Цалую цябе.*
*Твой Я. Колас.*

*12.VII.1950 г.*

*Дарагі Пятрусь!*

*Нядаўна мне прынеслі тваё пісьмо. Я толькі што расчыніў партфель, дастаў прычандалы, каб узяцца за работу над 3-й кнігай палескіх аповесцей... Мая работа ўперлася ў парог, а ідзе яна так, як гараць на агні макляні. Вось і рашыў напісаць табе колькі слоў — дзякую, што даў знаць аб сабе.*

*А што пісаць? Быў вельмі рады, што нарэшце вырваўся з Масквы. Толькі тады адчыніўся мне свет, калі ад'ехаліся кіламетраў 20—30, і я пабачыў зямлю, жыта, ярыну, палі і лугі. Прыехаў да хаты — ну, не без таго, каб не ўзяў на зуб з Максімам,— прыйшоў у Акадэмію. Аж прыйшоў кіраўнік спраў ды кажа: ці не згодзен я перайсці на яго месца? — Чаму? — пытаюся. Аказваецца пр-т і віца варочаюцца на старое котлішча!*

*Вось ты сядзіш там ціха, а мне прыходзіцца крута: то артыкулы, то запісы на плёнку. Я страціў сон, хоць яго ў мяне ніколі не было. Я ледзь-ледзь поўзаю па зямлі, як той клешч, што напіўся з сабачага вуха. 15.VII іду ў водпуск. Баюся, ці дацягну да яго.*

*Ну, цалую, наўперад абняўшы.*

*Прывітане дому твайму.*
*Якуб Колас.*

*13.I.1951 г.*

*Дарагі мой Пятрусь!*

*Выехаў я ў Барвіху 11.I. Твой ліст пераслалі мне з Крэмлёўкі ў Барвіху. У Крэмлёўцы я быў ужо не ў 17-й палатцы, а на другім паверсе № 97. Прасіў-маліў мяне галоўны ўрач бальніцы перабрацца з 17-й палаткі, каб палажыць туды цяжка хворага. А ці доўга мне перанесці сталіцу з аднае палаткі ў другую? Яшчэ з 17-й палаткі я паслаў табе пісьмо. Відаць да пасылкі мне свайго апошняга пісьма ты яго яшчэ не атрымаў. Як бы там ні было, я зрушыўся з месца, змяніў абстаноўку. Далейшае прабыванне ў бальніцы ўжо не ішло мне на карысць. Апошнія дні і асабліва перад паездкаю ў санаторый я адчуваў сябе надзвычай дрэнна: балела галава, кружылася, а ногі здаваліся мне спіцамі. Вельмі баяўся, каб дактары, прыслухаўшыся да мяне, не сказалі: «Ехаць з бальніцы не можна». Аднак Соф'я Анатольеўна, вельмі мілая і разумная жанчына, прыішла толькі развітацца. 11.I я ўжо быў у Барвісе. Палатка папалася халодная, неагледжаная. Пры мне пачалі канапаціць дзверы на балкон. Вельмі баяўся, каб не застудзіцца. Цяпер нічога. Паставілі печку, і я часамі, як цыган, грэюся каля яе. Учора хадзілі глядзець кіно. Ставілі нейкую грузінскую карціну «Вясна ў Сакене». Пуставатая.*

*Дык ты зараз займаешся выбарамі? Што ж, браце, трэба надбаць і на грамадскую справу. Пазаўчора званіў Даніла з Масквы. Ён казаў, што ў нядзелю (сягоння 14.I) ён едзе дамоў. Ён мог прыехаць учора. Я прасіў дырэктара санаторыя, але Даніла не прыехаў. Можа пад'едзе сёння. Учора хадзіў гуляць пры 27 — мароза. Сягоння мароз адпаў. У палавіне 9-га было 10, а праз 40 хвілін здаўся на паўградуса... Перадай прывітанне Ноніку. Пра «Воз навукі» болей не чуваць было? Мяне напалохаў сват, сказаўшы, што ты чытаў пісьменнікам. Ну, ды на свеце адбываюцца справы шмат важнейшыя. Пішу на лістках блакнота, бо з паперай у мяне голадна. Ды я дастану. Моцна цалую. Прывітанне твайму дому. Твой Якуб.*



**Горача... 1952 г.** **Фота В. Акуліча.**

*23.I. 1951 г.*

*Дарагі Пятрусь!*

*Трохі спусціў час па атрыманні твайго пісьма, адрасаванага на Барвіху. Адрас правільны. З Барвіхі я таксама паслаў табе пісьмо. Нашы пісьмы ў дарозе размінуліся. Ужо 12 дзён жыву ў Барвісе, хаджу у кіназал. Кожны дзень хаджу на пагулянку. Гадзіны тры ў дзень прагульваюся. Праўда, я болей сяджу, чым хаджу. Хадзіць многа не магу: баляць ногі, асабліва правая ніжэй клуба. Яна балела і раней, яшчэ да гэтай хваробы. Апроч таго, калі трохі пераходзіш, дык пачынае балець сэрца. Я тут нічога не раблю, чытаю кнігі. Прачытаў іх многа, але яны, як ранішні туман летам, расплываюцца, і я забываюся пра іх. Толькі нямногія кнігі трывала жывуць у памяці. Сон у мяне дужа кепскі. Кожны раз прыймаю на сон барбаміл і нейкую мікстурку. І ўсё роўна сплю гадзін 5—6. Такая ўжо мая натура. Як відаць, трэба кінуць к чортавай матары снатворнае.*

*Сваім выбаршчыкам я паслаў тэлеграму. Прыдзецца і паехаць да іх. Мне ж такія вандроўкі зараз не па сіле. Я праз меру填 пераматаміўся, ад гэтага і захварэў. Гэтаму ж спрыяе і маё бяссонне...*

*Числа 8.II напэўна паеду адгэтуль. 1—2 дні затрымаюся ў Маскве. Числа 10—11.II мяркую быць дома.*

*Зіма тут хвацкая. Многа снегу, стаяць маразы. Па маіх прыметах павінен быць гэтымі днямі вялікі мароз.*

*Пісьмо Міхала таксама атрымаў. Ну, дык усяго найлепшага. Цалую моцна-моцна.*

*Твой Я. Колас.*

*I.VI.1955 г.*
*Барвіха.*

*Дарагі мой Пятрусь!*

*Не пісаў адказу з Мінску на тваё пісьмо. І часу аставалася мала і не было ўпэўненасці, што маё пісьмо застане цябе ў Кісlаводску. А таму пішу табе з Барвіхі. Усё было б дужа добра, калі б не такая небывалая і нечуваная для нашых месц пагода. Мімаволі прыходзяць на памяць вершы В. А. Жукоўскага (пераводныя);*

*«Были и лето и осень дождливы,*
*Были потоплены пажити, нивы,*
*(А. В. Жукоўскі «Епископ Гаттон»)*

*Яшчэ болей паганая пагода ў Беларусі. Учора званіў Пасыпкіну. Ён сказаў, што ў Мінску 30 і 31-га мая ішоў дождж і снег. На адным з карпусоў санаторыя прыладжана метэаралагічная станцыя. З акна мае палаткі мне добра відаць флюгер. Дзесяткі разоў на дзень я гляджу на яго. А морда яго ўсё павернута на поўнач. Калі б у мяне была стрэльба, дык я стукнуў бы яму ў рыла, каб ён павярнуўся ў процілеглы бок. Сягоння ён змяніў свой кірунак, павярнуў на паўднёвы ўсход. І гэта ўжо добра. Ды і дзень сёння быў лагаднейшы, хоць, праўда, усю ноч хвастаў дождж. Такая пагода, як табе вядома, прыгнятае мяне, псуе настрой. Ужо чэрвень, а дрэвы яшчэ не распусціліся на поўную сілу. Зацвітаюць вішні. Адны ўжо вынеслі на свет свой цвет, а на тым жа дрэве пупышкі згорнуты, чакаюць цяпла.*

*Прыехаў сюды разбіты, стомлены. Ціск крыві быў высокі і трымаўся на гэтым узроўні цэлы тыдзень, чаго са мною ніколі не бывала. І толькі сягоння ўзяў кірунак на норму — 180-100. Усе аналізы пройдзены. Я трохі акрыяў. З ядою асцерагаюся, каб не абарачацца ў адкормленага япрука. За першы тыдзень пацяжэў на 650 грамаў. Не ведаю, што пакажа наступны тыдзень.*

*2.VI. Пагода трошкі пачынае дабрэць. Сягоння ясная, хоць, праўда, халаднаватая раніца. Добра, што хоць свеціць сонца і вецер павярнуў з захаду. У далейшыя дні і месяцы павінна быць сапраўдная цеплыня, бо не выспяюць на палях збажына і ярына.*

*Тэрмін мой канчаецца 22 чэрвеня. Будзе жаданне, напішы мне аб усім, што для нас цікава.*

*Моцна абнімаю. Цалую.*
*Усяго найлепшага.*
*Прывітанне ўсяму дому.*

*Твой Я. Колас.*

## Да І. Ф. Клімава

*Ташкент, 20.VIII, Пушкінская 84, ком. 39.*

*Дарагі Янка!*

*Ты, выбач мне, што да гэтага часу не напісаў табе нічога. Аб чым жа пісаць? Яшчэ болей асірацеў я з тваім выездам. Хто ж тут застаўся?... Я мала куды хаджу. Некаторы час хадзіў з падвязанай шчакой. Дзве ночы не спаў — балелі зубы. Прышлося зняць мост і вырваць зуб. Цяпер зрэдка хаджу лячыць зубы, каб прывесці іх у парадак. Многа прыходзіцца пісаць. Настала паласа, калі прышлося пісаць розныя артыкулы. Напісаў аб партызанах для мясцовай узбекскай газеты. Напісаў у зборнік, які рыхтуецца да 25 гадавіны Кастрычніка. Напісаў і адаслаў у Маскву для інтэрнацыянальнага антыфашысцкага журнала. А цяпер трэба напісаць уступны артыкул для аднатомніка твораў нябожчыка Янкі Купалы... Так і не дачакаўся мой бедны Янка звароту ў родны край!.. Помніш ты мяне сярдзітага, як ты казаў? Прыйшоў ты раз да мяне і ўбачыў на маім твары як бы незадавальненне. А гэта было пасля нашага харкаўскага наступлення. Мне было цяжка. Я пачуў, што нас чакаюць вялікія выпрабаванні. Я перажываю ўсё гэта востра і балюча.*

*Пра свайго Юрку я нічога не ведаю. Каб ён быў жывы і на гэты бок фронта, то ён даў бы аб сабе вестку... Наша Акадэмія павісла ў паветры. У адзін час была гутарка, што Прэзідыум Акадэміі асталюецца тут. Час ідзе, нічога не робіцца. Ліпатаў нэрвуецца, збіраецца куды-небудзь падавацца. На гэта яго накіроўвае адсутнасць сувязі з Масквой па лініі Акадэміі. Гэта пытанне трэба паставіць на акрэслены грунт. Я ўсё збіраюся пайсці ў адведзіны, паглядзець на тваю дачку. Жонка твая непакоілася, не маючы аб табе вестак. Наогул яна вельмі руплівая і клапатлівая, можа нават не ў меру. Усё што я пішу, я стараюся перасылаць у Маскву. Далёка я ад Масквы. Доўга ідуць туды і адтуль пісьмы. Прыезд Чэрчыля ўскалыхнуў нас. Узмацнілася надзея на тое, што вайна павінна перайсці на новы этап, што Гітлеру рыхтуецца лазня, што можа быць хутка ён пакоціцца назад. Напішы, што добрага чуваць у цябе.*

*Лета я пражыў у Ташкенце. Паехаць у раён, каб перажыць гарачыя дні, я не адважыўся. Заехаць заедзеш, але як вернешся назад?..*

*Ну, што ж, браток? Моцна цябе абнімаю, цалую, жадаю табе здароўя, поспехаў. Эх, Ваня! Як бы радасна было сустрэцца на нашай роднай, разбуранай зямлі, на зямлі вольных савецкіх людзей!*

*Бывай жа здаровы, пішы.*

*Твой Я. Колас.*

[*1942 г.*]

*Дарагі Янка-Іван-Ваня!*

*У нас сёння 25 верасня. Прышоў Лагута каля адзінаццаці гадзін (раніцы). Прынёс тваё пісьмо... Я многа атрымліваю пісем ад нашых людзей. І скажу табе без лесці — тваё пісьмо самае лепшае, самае дарагое і, калі хочаш, самае жыццёвае з усіх пісем, якія даходзяць да мяне. У тваім пісьме я пачуў вялікі аптымізм, я пачуў у ім голас нашай зямлі, голас народа, які выступіў цвёрдымі нагамі на арэну прастора, на арэну шырокага жыцця, голас народа, які не схіляе галавы перад навальніцаю. Можа ён трохі ўгнецца, прыпадзе да зямлі, каб галаву яго абмінуў шквал буры, каб потым пераможна падняць галаву, разглядзецца, як спрытней павесці змаганне за сваё бяссмертнае жыццё. Дзякую табе, дарагі друг. Дзякую за тыя здаровыя крыніцы народнай душы, якія жывяць тваю волю, твае паступкі. Ад твайго пісьма павеяла сілаю зямлі, нашай роднай беларускай зямлі, і гэта сіла ўліваецца ў жылы старога Якуба, і Якуб, таксама аптыміст па натуры, хоча ісці ў дарогу, хоча мабілізаваць усе сілы для агульнай карысці народа, нашай зямлі. З далёкага Ташкента я працягваю табе сяброўскую руку, абнімаю і цалую цябе, мой мілы друг-таварыш!*

*Нядаўна прыслаў мне пісьмо Міхась Лынькоў. Ён пераслаў мне ў пісьме васілёк з загонаў роднай зямлі. Тут у Ташкенце мне ўдалося знайсці фатаграфію Янкі Купалы. Адзін фатограф засняў мяне. Пятрусь Глебка прыслаў мне сваю фатаграфію. Такім чынам у мяне сабраліся тры беларусы. Міхась насадзіў іх на ліст паперы: я, Купала, а ў сярэдзіне Пятрусь Глебка (трошкі ніжай нас, старэйшых). У цэнтры фатаграфіі красуецца васілёк. Можа гэта сентыментальна, але я часамі пазіраю на ўсю сваю беларускую галерэю і адчуваю сувязь з народам, з нашай зямлёю. Чэрчыль... ды што пісаць аб ім? Ён узначальвае краіну, якая знаходзіцца ў саюзе з намі. Я не стану капацца ў яго душы, у яго настроях, у яго мыслях — што ён тоіць у іх, як ставіцца да нас. Адно для мяне ясна — старая англійская традыцыя жыве і ў ім. Англійскія палітыкі — халодныя людзі, людзі расчотлівыя. Яны не паддаюцца парывам сэрца. Яны як бухгалтары пазіраюць на лічбіны. Яны не хочуць паступацца сваімі інтарэсамі — ім выгадней заграбаць жар чужымі рукамі. Самыя лютыя ворагі іх б'юцца паміж сабою, сплываюць кроўю, гараць на агні, запаленым іх жа рукамі. Англіі болей нічога не трэба. Яны не спозняцца прыйсці на шапачны разбор. А пакуль што нам трэба ўпрэгчыся да апошняй магчымасці ў плуг вайны, павярнуць яе так, каб выйграць яе і захаваць свае сілы на столькі, каб мы маглі сказаць свае слова. Думаю і спадзяюся, што так яно і [робіцца] не гледзячы на ўсе нашы хібы.*

*Твая прапанова аб жывым кантакце з нашымі ваякамі-партызанамі — прапанова добрая, разумная. Я прылажу ўсе свае намаганні, пушчу ў ход усе магчымасці, каб ператварыць яе ў жыццё.*

*М[арыя] Д[змітрыеўна] крэпка захварэла. Нелады ў яе з лёгкімі. Даніла і Міхась таксама хварэлі, цяпер усе патрохі падняліся на ногі. ...Я атрымаў тэлеграму прыбыць на мітынг прадстаўнікоў б[еларускага] народа, які намячаецца на канец верасня. Паехаць не мог. Паездка не так лёгка робіцца. Дома не [ўсё] ў парадку. Напісаў сваё выступленне. Прышлося перакласці яго на рускую мову, каб пераслаць у Маскву. Сёння праз аказію пасылаю беларускі тэкст. Можа не апозніцца яшчэ.*

*Бачыў тваю Наталлю Іванаўну. Слаўная дзяўчына, спакойная, рахманая. Галіна М[аркаўна] ўчора званіла мне, абяцалася зайсці сёння.*

*Цалую цябе моцна-моцна. Жадаю здароўя, удачы, поспехаў. Усе нашы кланяюцца табе.*

*Твой Якуб Колас.* [*1942 г.*]

*Ташкент, 26-XII-1942 г.*

*Дарагі Ваня!*

*Дзе ты, мілы, белабрысы?*
*Дзе ты, адгукніся!*
*Па табе смуткуе лысы,*
*Прыдзі, падзівіся.*

*Даруй мне, браток, што я даўно ніводнага слова не напісаў табе, хоць аб табе часта ўспамінаў. Вось ужо другі месяц, як нічога не палажыў я ў сваю «Ташкентскую торбу». Як напісаў паэму «Суд у лесе» яшчэ напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя, дык з таго часу нічога не напісаў. Па-першае, адчуваю сябе трохі стомленым. Ці то ад старасці ці ад журбы па роднай зямлі я, прызнацца табе, крыху падупаў: і галава кружыцца і ногі ступаюць не надта цвёрда — адна ступае па Пушкінскай, а другая забірае на Асакінскую. Праўда, Асакінскую павінны перахрысціць у вуліцу Якуба Коласа. Па-другое, за гэты час прышлося пераключыцца на другую работу. Ужо мая такая доля, што мне прыходзіцца браць удзел ва ўсіх грамадскіх справах. Была ў нас сэсія Акадэміі, з Масквы намякнулі, што было б не дрэнна, каб я выступіў на сэсіі з дакладам і назвалі гістарычную тэму. Абяцалі падкінуць матэрыялу, але не падкінулі. Мая тэма была — векавая дружба беларускага і рускага народа і іх сумесная барацьба. Памог У. І. Пічэта, узброіў гістарычнымі фактамі Але ж факты трэба было ўцісмуць у нейкую лагічную сістэму, даць ім кірунак, сагрэць іх чалавечым пачуццём і ажывіць жывым духам. Словам павінен быць час, каб усё гэта зрабіць. Апроч таго, прышлося таксама напісаць даклад да пленума пісьменніцкага ў Ташкенце аб беларускай літаратуры. А пад рукамі нічога няма. І наогул мала я займаўся пытаннямі гісторыі літаратуры. Потым 25-годдзе Украіны — трэба было выступіць. Нядаўна Эдзі Агняцвет зложыла кніжачку вершаў. Прасілі напісаць прадмову да зборніка. А ўчора з Масквы прыслалі пісьмо — просяць даць для нашай Арміі артыкул аб гераізме нашага народа. Думаю пра гэты артыкул — трэба напісаць. Іншая справа пісаць у Маскве: там шмат далі б мне свежых яркіх фактаў. Уся гэта работа, патрэбная, зразумела, адбірае час. Але ты хмурыш бровы, і я стаўлю кропку.*

*Усе мы тут поўны радасці і гордасці за нашу дзявосную Чырвоную Армію, за нашы перамогі, за наш гераічны Савецкі народ, за нашых дарагіх беларусаў-герояў. Калі ж перавядзеш вока на нашых саюзнікаў, дык можаш адно толькі сказаць: шуму ад іх многа, а толку мала. Вялікія яны палітычныя спекулянты.*

*Мне ўжо надакучыла сядзець у Ташкенце. Вясною старайцеся там, браты, дапамагчы мне разам з усім гняздом перабрацца пад Маскву. Тваё гняздо — жонка, дачка, сястра жывуць патроху. Даўно, праўда, бачыў я Наталлю Іванаўну. Але яна чалавек здаровы, спакойны,ураўнаважаны. Месяцаў праз колькі, глядзі, і хадзіць пачне.*

*Пішы мне на такой паперы, на якой не расплываецца чарніла. Усім нашым сябрам-беларусам перадай мой глыбокі і шчыры паклон.*

*Абнімаю і крэпка цалую.*

*Твой Якуб Колас.*

## Да І. А. Крупені

*Дарагі Іван Ануфрыевіч!*

*Як Ваша здароўе? самапачуванне? Што добрага чуваць? Па прыездзе з Масквы я паслаў пісьмо Лынькову, Бройку. Ніхто з іх да гэтага часу адказу не прыслаў. Можа таму, што доўгі час паязды хадзілі дрэнна. Нават зусім не хадзілі: дзесь у раёне Урала было вялікае разводдзе і папсавала палатно дарогі. Я хацеў бы, каб сувязь з ЦК і з нашым урадам не абрывалася...*

*Напішыце мне хоць колькі слоў. Як пажываюць нашы таварышы? Напэўна пісьменнікі нашы выехалі з Масквы. Ці чулі што пра Янку Купалу? Я не маю ад яго ніякіх вестак. Гарачае, сардэчнае прывітанне ўсім нашым таварышам...*

*Не прапускаю ніводнага паведамлення Савецкага Інфармбюро. Пачаліся рашучыя аперацыі на фронце. З заміраннем сэрца сачу за імі. Англічане покі што дэкларыруюць.*

*Мой адрас: Ташкент, вул. Пушкіна, 84, пак. 39.*

*Моцна ціску Вашу руку.*

*Як бы добра было сустрэцца нам у 42 годзе на свабоднай роднай зямлі.*

*Ваш Я. Колас.*

*Пасылаю вершы.*

*Перадайце іх Кавалёву. Я. К.*

[*1942 г.*]



*4-VII-1942 г.*

*Дарагі Іван Ануфрыевіч!*

*Учора я атрымаў Ваша пісьмо. Шчыра дзякую. Пасля таго, як вы паслалі мне гэта пісьмо, Вы далі мне тэлеграму, цяжкую, балючую: Вы паведамілі аб смерці Янкі Купалы. Цяжкі час перажываем мы. Сёння радыё прынесла весць аб заняцці немцамі і румынамі Севастопаля. Не радуе і лета другога года вайны — лезе пракляты немец. Гутаркі аб другім фронце покі што астаюцца толькі гутаркамі. У дабавак да ўсяго сумная весць аб Янку Купалу. Учора я паслаў пісьмо з вершам на смерць Купалы. Пісьмо пасылаю праз чалавека, які сёння ці заўтра едзе ў Маскву поездам. Дачуўся, што заўтра вылятае на самалёце адзін чалавек з нашага дома. Праз яго хачу адаслаць Вам гэты ліст. У пісьмо палажу таксама і верш, прысвечаны Янку з прычыны яго смерці. 7.VII. наша Акадэмія ладзіць вечар памяці Купалы. Мне прыдзецца выступіць на гэтым вечары. Бяда толькі ў тым, што ў мяне пад рукою няма кніг Купалы і дастаць іх тут трудна. У бібліятэцы ёсць яго творы ў перакладзе на рускую мову, і то на рукі іх не даюць. Паведаміце, калі ласка, што здарылася з Янкам, пры якіх абставінах ён памёр. У мяне астаецца такое перакананне, што з ім прыключылася нейкая раптоўная бяда. Мне так шкода. Сіратою я. Нічога не ведаю пра сына. Была з Масквы чутка, што бачылі яго ў Калузе. Хацелася б верыць, што ён жыў. Але калі б гэта было так, то ён ужо напісаў бы нам. Тут выйшла нейкае непаразуменне. Наблытаў наш хлопец Сцяпан Нортман. У Ташкенце гарачыня. Самыя гарачыя дні яшчэ наперадзе. Нашы два акны глядзяць на поўдзень. Мы заклеілі іх папераю, паперу афарбавалі фіялетавымі чарніламі, каб не так пякло сонца. І ўсё ж такі горача. Справу аб выездзе ў Маскву прыдзецца адкласці да канца лета: што нам цяпер рабіць? Работа, праўда, усюды знойдзецца. Жыць трохі цяжкавата. Але сяк-так кідаемся.*

*За «Партызанскую дубінку» вельмі дзякую. Я пісаў у адказ на Вашу тэлеграму невялікі водклік на смерць Купалы. Гэту заметку перадаў у ТАСС. Што яны зрабілі з ёю, не ведаю. Заметку пералажылі на рускую мову, бо па-беларуску тэлефаністкі наблыталі б.*

*Бывайце здаровы.*

*Прывітанне членам нашага ўраду і партыі.*

*Няхай 200 калгасаў павялічацца ў дзвесце разоў і болей. Крэпка ціску Вашу руку.*

*Я. Колас.*

*Ташкент, Пушкінская, 84, пак. 39.*

*Ташкент, 29.VII.1942 г.*

*Дарагі Іван Ануфрыевіч!*

*Я атрымаў 20.VII Вашу тэлеграму. Мяне глыбока кранула Ваша ўвага да мяне. Чакаю чалавека, якога Вы пасылаеце сюды. Покі што яго няма. Як горка, Іван Ануфрыевіч, слухаць паведамленні аб нямецкіх поспехах. Як гэта так магло здарыцца, што немцы так хутка лезуць на Каўказ? Кожнаму штацкаму чалавеку было ясна, куды немцы будуць накіроўваць свой асноўны ўдар. Аб гэтым гаварылі і гэтага чакалі яшчэ ў канцы 1941 г. Што думаюць нашы саюзнікі? Ці не сволачы яны? Ці няма ў іх задняй здрадніцкай мыслі? Ці не згаварыліся яны з Гітлерам? Што ж такое тады нашы дагаворы? Дзе другі фронт? Чаму немцы агаляюць свае тылы і без упынку падкідаюць на наш фронт дывізію за дывізіяй і нават знімаюць з захада сваю авіяцыю? За апошні час з Масквы ніхто не піша.*

*Пасылаю Вам вершы. Будзьце ласкавы, перадайце іх у рэдакцыю «Савецкая Беларусь». Сёння чуў па радыё аб выхадзе з друку рада беларускіх кніг. Падашліце іх мне. Толькі што атрымаў тэлеграму за подпісам «Пятрусь». 26.VII ён выязджае з Масквы. Можа гэта і ёсць той жаданы чалавек?*

*Прывітанне ўсім членам ураду, усім нашым таварышам.*

*Ціску Вашу руку. Я. Колас.*

*Ташкент, Пушкінская, 84, пак. 39.*

*Ташкент, 4.VIII.1942 г.*

*Дарагі Іван Ануфрыевіч!*

*Пятрусь прывёз мне Ваша пісьмо. Я вельмі кранут той увагаю, якую Вы аказваеце мне. Ад шчырага беларускага сэрца прыношу Вам падзяку і за Ваша пісьмо і за Вашы ўсе турботы аба мне. Учора Пятрусь паехаў у Алма-Ату. Яго прыезд прынёс радасць*

*і ажыўленне ў наш дом. Шмат аб чым гутарылі з ім. Шмат расказаў ён мне цікавых фактаў з жыцця нашай многапакутнай Беларусі пад чорнаю гітлераўскаю акупацыяй. Такіх цікавых фактаў шмат прывялі і Вы ў сваіх пісьмах. Я чытаю і перачытваю іх. Гэтыя факты асабліва цэнны для мяне. Я выкарыстаю іх у самы блізкі час для свайго артыкула «Белоруссия под игом немецкой оккупации». Гэты артыкул я павінен здаць у гатовым відзе 15.VIII у наш Саюз пісьменнікаў. К 25 гадавіне Кастрычніка пісьменнікі Узбекістана выдаюць кнігу. Зложана падробная праграма і план. Зборнік зацверджан ЦК Узб. У гэты зборнік павінен увайсці і мой артыкул. Сёння буду пісаць пісьмы, адказы на пісьмы, што прывёз мне Пятрусь. Я патроху працую, пішу вершы, артыкулы, даклады, часамі выступаю па радыё. Аб пайку, пра які Вы пішаце і аб якім гаварыў Пятрусь, покі што нічога не чуваць.*

*Вельмі цяжкія дні перажывае ўся наша краіна. Нямецкая армада-арда, сабраная з усёй Еўропы, ужо даходзіць да ніжняй Волгі. Гэтага не павінна было быць... Нашы няўдачы глыбока адклікаюцца ў сэрцы тых, хто любіць сваю зямлю і тыя ідэі, якія пратвараліся ў жыццё на гэтай зямлі. Думаю, што няўдачы гэтыя шмат чаму навучаць нас. Яшчэ год таму назад, выступаючы ў «Праўдзе» з невялікім артыкулам, я падкрэсліваў, што ў вайне з Гітлерам мы павінны спадзявацца толькі самі на сябе. Практыка вайны падцвярджае гэта. Англійскія заправілы пазіраюць з боку з халоднаю развагаю і не таропяцца з дапамогаю. Як відаць, яны гадаюць, ці дастаткова выліта з нас крыві. Ім усё яшчэ здаецца, што мала. А можа ў іх дубовых галовах і халодных сэрцах спеюць і подлыя планы і разлікі. Ну іх к чорту, такіх саюзнікаў!*

*Буду чакаць Вашага прыезда. Толькі ж Вы не дужа ўзвальвайце на мае плечы груз Акадэміі. Я ведаю, што такое кіраўніцтва Акадэміяй. Тады прашчай маё пісьменніцтва і апроч згрызот і нуды ў мяне нічога не будзе. Для гэтай справы я не надаюся.*

*Буду вельмі рад сустрэцца з Вамі ў Ташкенце. Жадаю Вам поспехаў, здароўя, радасці.*

*Цісну Вашу руку. Прывет усім таварышам.*

*Якуб Колас.*

*18.XII.1942 г.*

*Дорогой Иван Онуфриевич!*

*Уж много времени прошло с тех пор, как я писал Вам. Но это не значит, что я не думал о своей задолженности перед Вами. Давно написал бы Вам хоть несколько слов, но Вы уезжали, отсутствовали, а на меня тем временем навалилась целая куча разной работы и заботы. Вот только сегодня развязался с одной, правда, небольшой работой — написал небольшую вступительную статью о творчестве нашей Эди Огнецвет. Она приготовила книжечку своих стихов и издает в издательстве «Советский писатель» здесь, в Ташкенте. С октября месяца мне не пришлось сесть за свою работу, а всё занимался разными статьями, докладами: к сессии Академии, к писательскому пленуму в Ташкенте и т. д. В октябре я написал небольшую поэму «Суд у лесе»...*

*Живу я помаленьку. Весной в начале мая, хочу направиться ближе к родной земле, в район Москвы. Там есть у меня пристанище. Но мой выезд надо организовать в Москве... Впрочем, об этом начну хлопотать после Нового года. А ведь когда дойдёт к Вам это письмо, так, пожалуй, и наступит Новый год. Поэтому на всякий случай сердечно поздравляю Вас с Новым 1943-м годом. Уже если немцам не свернем головы в 43 году, так я откручу голову сорок третьему году. Во всяком случае не вредно было бы с Вашей стороны повести агитацию за моё возвращение из Ташкента. У нас здесь больших холодов нет. Можно ходить в осеннем лёгком одеянии. Иногда нападает немного снегу, иногда слегка подморозит. Но выглянет солнце, и станет снова тепло. Если увидите Лынькова, передайте ему мой привет и сябровский поцелуй. Привет всем нашим товарищам.*

*Ежедневно хожу в поликлинику, делаю уколы — головокружение чувствую.*

*Как здоровье Кузьмы?*

*Всего наилучшего. Жму Вашу руку. Я. Колас.*

*Ташкент, Пушкинская, 84.*



## *У Мікалаеўшчыну*

*6.IX.1944 г.*

*Дарагі Ігнась і В. М.*

*Вялікая для мяне радасць была — чытаць твае пісьмы. Я так часта ўспамінаў цябе і В. М. Прыгадваў дні нашых летніх адпачынкаў у Падбярэжжы, у Вусці, у Беразянцы. Так і стаялі ў вачах пышныя хвоі, дубы над Свіслаччу. Як цягнула мяне ў тыя мясціны! І сягоння я таксама жыву ў думках аб тым, што было. Разбурана Беразянка. Многа народу загінула ў агні. Мне пісала пра гэта адна з дачок Ігнася Дзяткі. Ты нічога не напісаў пра Балачанку, пра Косціка, якому я астаўся вінен 200 руб. за таго ярпучка, якога я выпусціў з хлява 24.VI.1941 г., калі мы ратаваліся ад пажара ў Мінску і нямецкіх бомб. Думаў я аб табе, калі з Калодзішч ты падаўся ў Балачанку, а мы паехалі на Оршу і далей на ўсход і нарэшце апыніліся ў Ташкенце. Я нават напісаў верш аб нашым расставанні... У маленькай пісульцы ўсяго не апішаш. Здароўе маё моцна, падупала. У лістападзе збіраемся пераязджаць у Мінск. Пра кнігі навяду ў Маскве спраўкі. Што можна будзе зрабіць, пастараюся аб гэтым. Можа не пашкодзіць звярнуцца ў Кам. асветы ў Мінску... Пасылаю табе сваю кніжачку. За вайну напісаў многа, але не ўсё выдана. Шчырае прывітанне мікалаеўцам і маім родным. Паклон ад Міхася і Марусі. Данік паехаў у Мінск і ўзяў ключ ад сейфа. Цалую. Твой Костусь.*

*P. S. Падручнікі атрыманы Беларускім Н. К. А. Камандзіруй каго ў Мінск у Наркамасветы. Райком павінен дапамагчы ў паездцы. Я. К.*



**На радзіме Коласа. Альбуць.**

Фота **А. Дзітлава.**

*27.V.1945 г.*

*Дарагія В. М. і Ігнась!*

*Паведамляю Вас аб маім вялікім горы: у ноч з 20 на 21-ае мая памёр мой самы блізкі, самы дарагі друг Маруся. Памерла ў Маскве ў больніцы. 24 мая пахавалі яе ў Мінску на Ваенных могілках. Адчуваю сябе так, як бы мне адсеклі правую руку і адабралі палавіну душы. Цяжка мне і пуста.*

*Дзён праз колькі паеду ў Маскву на кароткі час для ліквідацыі сякіх-такіх спраў і прыеду ў Мінск на пастаяннае жыццё. У другой палавіне чэрвеня прыеду ў Мікалаеўшчыну. Школьную справу буду падганяць. Гаварыў ужо аб ёй. Спадзяюся, што сёе-тое зроблена. Перадай маім родным аб смерці Марусі. Пісаць зараз мне цяжка. Цалую.*

*Ваш Костусь.*

*8. IV.1948 г.*

*Дарагі Ігнась!*

*Як бачыш, я зачасціў сваімі пісьмамі да цябе. Учора паслаў, паслаў і пазаўчора. Я ўсё ж моцна стаю на сваіх пазіцыях у дачыненні да вырашэння пытання аб павелічэнні зямлі для Мікалаеўшчыны, Ворыўную зямлю можна павялічыць за кошт балот, якіх не бракуе непадалёку ад Мікалаеўшчыны. Іх толькі трэба асушыць. Я мяркую, што найболей прыдатным месцам з'яўляецца Альбуць. Не ведаю, як выглядае яна сягоння, якія змены адбыліся там за сорак гадоў, г. з. з тых часоў, як я яе бачыў. Памятаю, было там шмат балот, па якіх рос бярэзнік, лаза і розны хмыз. Адным словам трэба разведаць. Стары мікалаеўскі куток, Дворную вуліцу не канечне перасяляць, іх толькі трэба—*

*дварыі — разрадзіць: двары два перанесці, а пакідаць на месцы кожны трэці двор. Магчыма, што ў Мікалаеўшчыну прыедуць меліяратары для разведкі і планіроўкі самой асушкі. Ім трэба падказаць, у якім месцы пажадана рабіць асушку. Побач з гэтым народу трэба падаць гэту думку. Колісь мікалаеўцы карчавалі Ліпава і Цёмныя Ляды, а яны шмат далей і пры тым давалі ў скарб трэці сноп. Калі параўнаць ураджай на асушаных балотах з ураджаем на нашых мінеральных глебах, то адзін гектар асушаных балот, дасць столькі, колькі могуць даць тры гектары мінеральнай зямлі. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ніхто гатовай асушанай зямлі Мікалаеўшчыне не прыпаднясе: ёй трэба самой адваяваць гэту зямлю сваёю працаю. Яны павінны гэта зразумець. Дзяржава толькі можа заахвочваць такія мерапрыемствы, бо яна таксама зацікаўлена ў павелічэнні пасяўной плошчы. Для Мікалаеўшчыны я сягоння не бачу іншага выйсця з малазямелля. Перад ёю можа прадстаць перспектыва далёкага перасялення.*

*Вось гэта вы, настаўнікі, абмяркуйце і засявайце ў свядомасці мікалаеўцаў добрыя мыслі. Камсамольцам з хаты-чытальні перадай, што я збіраю для іх кнігі. Думаю, што кніг удасца сабраць дастаткова. К маю ці к пачатку мая яны будуць дастаўлены. 12.IV я еду ў Маскву і затрымаюся там не меней, як на тыдзень.*

*Напішы па поваду таго, аб чым я пішу ў дачыненні да зямельнага пытання.*

*Жычу здароўя і ўсяго добрага.*

*Твой Костусь.*

**ЗАЎВАГА.**

**Прозвішчы і імёны, якія сустракаюцца ў пісьмах: Іван Ануфрыевіч Крупеня — тады намеснік старшыні Саўнаркома БССР; Іван Фролавіч Клімаў — тады сакратар Мінскага абкома КПБ; Ігнась Юр'евіч Міцкевіч — дзядзька Коласа, В. М. — жонка Ігнася Валянціна Міхайлаўна, Лёля — Елена Міхайлаўна — жонка Броўкі, М. Д., Маруся — жонка Коласа — Марыя Дзмітраўна; Міхась, Юрка, Даніла — сыны Коласа; Міхал — Міхась Лынькоў; Кузьма — Кузьма Чорны; Сцяпан Нортман — беларускі журналіст, Ліпатаў — акадэмік АН БССР.**

*З блакнота падарожніка*

**Валянціна ЦІМАФЕЕВА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# ДОВИЖДАНЕ, БЪЛГАРИЯ! — ДА ПАБАЧЭННЯ, БАЛГАРЫЯ!

Цікава сачыць за краявідамі, што хутка мільгаюць за акном вагона. Яшчэ больш цікава, калі ўпершыню едзеш па «заграніцы» — Румыніі.

Чым бліжэй мэта паездкі — Балгарыя, тым з большым нецярпеннем усе ўдзельнікі нашай групы ўглядаліся ў далячынь. І раптам — дождж. Але ж на прыпынку ў Бухарэсце ніхто не застаўся ў вагоне. Не зважаючы на лівень, кожны хацеў як мага больш пахадзіць па румынскай сталіцы.

Славуты мост Дружбы цераз Дунай праехалі ўжо без дажджу. Балгарыя сустрэла цёплым, як увесну, сонцам, прывітаннямі балгарскіх дзяўчат, воклічамі «Да живее българска — съветска дружба!»

У Русе, перасеўшы ў мясцовы вагон, адразу апынуліся ў асяроддзі балгар. Завязваюцца гутаркі, гучыць руская і балгарская мовы, а калі нестае слоў, на дапамогу прыходзяць жэсты. Бясконцыя «А як у вас?». І адразу першыя непаразуменні. Слухаючы нас, балгары матаюць галовамі. Пакуль прывыклі, што балгарскі жэст ухвалы, згоды падобны на наша — «не-не», нас гэта вельмі бянтэжыла. Але і потым мы ўсё ж часта памыляліся. У цырульні нехта з нашых на пытанне «Галаву памыць?» адмоўна паківаў галавой. А цырульнік зразумеў гэта як згоду і прыступіў да справы. Гэта было смешна, але і запомнілася навечна. Усё-такі вывучаць балгарскую мову лепш не па адных слоўніках і размоўніках, а праз жывыя зносіны з людзьмі.

Першую няўдачу ў гутарцы з хлопчыкам гадоў шасці, што ся-



**Мост Дружбы.**

дзіць у бабулі на каленях. Ён нагадвае мне сына. Па-руску зусім не разумее, а маё вымаўленне балгарскіх слоў нязвыклае для яго. Бабуля разумее па-руску і перакладае. Мы даведваемся, хто куды едзе, хто чым займаецца. Бацька хлопчыка скончыў савецкую вышэйшую навучальную ўстанову, маці была ў нас па турысцкай пуцёўцы, а бабуля памятае савецкіх воінаў, калі яны вызвалялі Балгарыю ў верасні 1944 года.

За акном імкліва бяжыць дабруджанская раўніна, потым на даляглядзе ўзнікаюць абрысы гор. Праехалі Горна-Араховіцу, Леўскі. Цягнік падыходзіць да Плеўны. Мясцовыя жыхары, што ехалі разам ў вагоне, запрасілі наведаць іх горад, у якім — заўважылі яны — ёсць маўзалей, збудаваны ў памяць аб перамозе рускіх войск над туркамі ў 1877 годзе.

Пейзажы ў дарозе мяняюцца часта, але кожны з нас — тбілісец і масквіч, кіяўлянін і я, мінчанка, — сустракаюць нешта блізкае да родных краявідаў.

Сцямнела. Хутка Сафія. Пераводзім гадзіннікі на балгарскі час — з сямі адразу на восем.

Упершыню балгарскую сталіцу мы ўбачылі з акна аўтобуса, які прадаставілі нам гасцінныя работнікі міністэрства культуры. Машына едзе праз цэнтр. Універмаг, гасцініца «Балкан», універсітэт... Аднак лепш разгледзець усё нам давялося пазней, калі пешкі вымералі адлегласць ад Студэнцкага гарадка на бульвары Леніна да плошчы Леніна, калі хадзілі і гулялі па асветленых вуліцах і скверах Сафіі.

Кажуць, што ў балгарскай сталіцы больш за 380 паркаў, садоў і сквераў. У нас не было часу абысці ўсё, і мы задаволены былі ўжо тым, што наведалі самы вялікі з іх — парк Перамогі. Ён пачынаецца каля ўніверсітэта і раскінуўся на плошчы ў 350 гектараў. У Сафію мы прыехалі ў самым пачатку кастрычніка. Яна ўся яшчэ была ў зялёна-залатым убранні. Большасць вуліц тут называюць бульварамі, бо па абодва бакі іх мноства дрэў і газонаў. У кветніках каля народнай бібліятэкі «Васіл Калараў» ружы цвітуць нават у лістападзе, а потым аж да самага снегу — «анюціны вочкі».

Сафія хутка будуецца. У цэнтры яе падняў сваю вежу са шпілем дом Цэнтральнага Камітэта Балгарскай камуністычнай партыі, які напамінае вышынныя будынкі Масквы. Сёння не верыцца, што ў час вайны ўвесь цэнтр горада быў разбуран — ніякіх слядоў гэтых бессэнсоўных з ваеннага пункту гледжання налётаў амерыканскай авіяцыі ўжо не засталося.

Сафія на дзіва маладая. Яшчэ ў 70-я гады мінулага стагоддзя яна нагадвала вялікае сяло з вузкімі, крывымі вуліцамі, невялічкімі хацінкамі і вялізнымі бруднымі лужамі ды крамкамі з зазываламі ля дзвярэй.

У канцы мінулага стагоддзя Сафія пачынае будавацца як еўрапейскі горад, спачатку пры дапамозе рускіх, чэшскіх і аўстрыйскіх дойлідаў, а потым — сваіх балгарскіх архітэктараў, якія ў шматлікіх збудаваннях трымаліся лепшых нацыянальных традыцый. Але найбольшыя клопаты пра добраўпарадкаванне сталіцы праявіла народная ўлада. Захоўваючы помнікі мінуўшчыны, яна ў той жа час многа ўвагі аддала таму, каб надаць гораду сучасны выгляд. За апошнія гады насельніцтва Сафіі амаль падвоілася і новыя жылыя комплексы рассунулі межы горада.

Не толькі пры сонечным святле, якім так багата балгарская восень, але і ўвечары, калі загараюцца шматлікія ліхтары, неонавыя шыльды і рэкламы, Сафія прыгожая. На вуліцах людна. Сафійцы прагульваюцца па Рускім бульвары, запаўняюць шматлікія сладкарніцы, дзе вялікі выбар кандытарскіх вырабаў, піва і, вядома, заўсёды ёсць традыцыйнае «кісело мляко», якім так ганарацца балгары.

У самым цэнтры горада днём і вечарам можна ўбачыць, як сафійцы, прыгнуўшыся над порцікамі-фантанамі, п'юць цёплую мінеральную ваду, што падаецца сюды з прыродных крыніц. Тут жа, у цэнтры горада, — прыгожы будынак мінеральнай лазні.

Нельга абмінуць увагай і славуты нацыянальны парк Віташа. І не толькі таму, што ён быў базай і апорным пунктам сафійскіх падпольшчыкаў-рэвалюцыянераў і партызан у гады антыфашысцкай барацьбы. А яшчэ таму, што цяпер гэта найлепшае месца адпачынку, святочных прагулак, турысцкіх паходаў. Парк Віташа — гэта курорт у гарах, многія з вяршынь якіх дасягаюць двух тысяч метраў і нібы навісаюць над Сафіяй.

У суботу пасля абеду вялікае ажыўленне на тых аўтастанцыях, адкуль машыны адыходзяць на Віташу. Людзі, апранутыя па-турысцку, спяшаюцца вечарам прыпыніцца ў цудоўным лесе, каб з самага ранку блукаць па маляўнічых кутках парку.

Вечарам ехаць мы не адважыліся. І дарэмна. Як потым высветлілася, у парку многа спецыяльных дамоў — «хіж», дзе можна атрымаць спальнае месца і гарачую ежу. Адправіліся зранку. Дзень выдаўся надзвычай халодны для балгарскага кастрычніка, і мы ў дэмісезонных паліто прыкметна вылучаліся між спартыўных куртак. Аўтобус прыпыніўся на маленькім плато — канцавой станцыі з паэтычнай назвай «Златні мостове» («Залатыя масты»). Першае, што мы ўбачылі, — гэта вялізная паласа вялікіх шэрых камянёў. Не адзін раз потым давялося бачыць такія нагрувашчванні валуноў. Ад «Златні мостове» ў розныя бакі цягнуцца добраўпарадкаваныя, з частымі ўказальнікамі дарожкі. Наш праваднік, выкладчык-гісторык, які скончыў савецкую навучальную ўстанову, прапанаваў нам нялёгкі, але цікавы маршрут. То з аднаго, то з другога боку дарожкі адкрываліся нам цудоўныя горныя пейзажы.

На адным з пераходаў да нас далучыліся два балгарыны — бухгалтар і выкладчык архітэктурнага інстытута. Абодвум ужо за пяцьдзесят. Якое б ні было надвор'е, але кожную нядзелю яны тут. Гэта іх адпачынак. Нам пашанцавала: спадарожнікі ведалі ўсе сцежачкі і масткі, «хіжы» і дамы адпачынку, да таго ж былі цікавыя субяседнікі. Ад іх мы даведаліся, што большасць «хіжаў» будавалася энтузіястамі, якія цягалі будаўнічыя матэрыялы знізу на плячах.



**Хіжа — сядзіба балгарскага селяніна ў парку Віташ.**

У адной з такіх «хіж» нас напаілі лясным чаем — з маліннiку, ліпавага цвету і розных траў. Мы ведалі ўжо, што балгары амаль не п'юць чай. «Мы яго п'ём, калі хварэем», — гаварылі яны. А нам без чаю не абысціся. Гэта ведалі балгары, і ў нашых пакоях, дзе мы апынуліся, заўсёды былі чайнікі. Студэнты-балгары, пасміхваючыся, назіралі, як двойчы на дзень мы з задавальненнем чаявалі.

З ранку на Віташы быў туман. Пад поўдзень ён рассеяўся, і нам цяжка было адарвацца ад незвычайна прыгожага спалучэння колераў восенскай лістоты з асляпляльна белым снегам на горных вяршынях. З аўтобуснага прыпынку «Капыты» (балгары амаль гаварaць «Копитото») мы доўга любаваліся раскінутай унізе Сафіяй, а потым вярнуліся ў горад.

Сталіца ў нядзелю адпачывае. Працуюць толькі тэатры, кіно, рэстараны і транспарт. Магазіны ж, атэлье, нават цырульні — закрыты. Для нас гэта было непрывычна. Але можа яно так і трэба, каб усе разам адпачывалі.

Аб гасціннасці балгар мы чулі і раней. Але кожная асабістая сустрэча з імі нас радасна здзіўляла. Варта аб чым-небудзь спытаць, як адразу ж некалькі чалавек, блытаючы балгарскія з рускімі словы, спяшаюцца растлумачыць. Балгары вывучаюць рускую мову і пры першай магчымасці стараюцца гаварыць на ёй, прыносячы гэтым самым нам прыемнае «расчараванне», бо нам вельмі хацелася ў размовах з балга-



**Ля помніка савецкім воінам-вызваліцелям у Сафіі.**

рамі ўдасканальваць сваё веданне балгарскай мовы. Нашы гутаркі часта ператвараліся ў маленькія мітынгі балгара-савецкай дружбы. Нават дзеці, пачуўшы рускую мову, спяшаліся аказаць нам якую-небудзь паслугу, а то і стаць «праваднікамі». Аднойчы дзяўчынка гадоў дванаццаці з карымі вачыма расказала мне па-руску верш. Прыемна было чуць радкі пушкінскага верша «Зима. Крестьянин, торжествуя...» на бульвары Стамбалійскага.

Аб Расіі, Савецкім Саюзе нагадвае многае ў Сафіі. Бульвар і плошча Леніна, Рускі бульвар, Рускі помнік, помнік Савецкай Арміі, Маскоўская вуліца, бульвар Талбухіна... Усяго не пералічыць, бо на кожным кроку сустракаеш то вуліцы Гагарына, Ігнацьева, Гурко, то рэстаран «Масква», то кіёск, дзе прадаюцца савецкія газеты і дзе кожны дзень а другой-трэцяй гадзіне дня выстрайваецца чарга, каб купіць іх. Яны не залежваюцца. «Неделю», напрыклад, мне так і не давялося ні разу набыць.

Балгар вельмі цікавіць усё, што адбываецца ў нашай краіне. XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза балгары чакалі бадай што з не меншым хваляваннем і ўрачыстасцю, чым мы. У дзень адкрыцця з'езда мне трэба было зайсці па справах у савецкае пасольства. Нечакана дарогу перагарадзіла дэманстрацыя, якая стыхійна ўзнікла перад будынкам пасольства. Мне растлумачылі, што гэта дэлегацыі розных прадпрыемстваў і ўстаноў, і не толькі сафійскіх, але і з іншых гарадоў, прыйшлі ўручыць паслу прывітальныя тэлеграмы ад сваіх калектываў. Я чула як жанчына, што прыехала аднекуль з Паўднёвай Балгарыі, прасіла: «Калі ласка, перадайце тэлеграму з'езду і савецкаму ўраду. Мяне дзеля гэтага і паслалі мае таварышы па рабоце».

Незабыўнай падзеяй застанецца для мяне і дэманстрацыя балгарскіх працоўных 7-га лістапада 1961 года. Нам былі ўручаны запрашальныя білеты на адну з трыбун супроць маўзалея Г. Дзімітрава. Зранку было хмарна. Вецер гнаў па небе шэрыя воблакі. Прайшоў дождж, буйны і спорны. Здавалася, дэманстрацыі не будзе. Але, не зважаючы на дождж, шырокім патокам на плошчу ўліваюцца калоны працоўных. Наперадзе ўсіх — вялізны макет легендарнай «Аўроры». А ўслед — атрады балгар у скураных куртках і шэрых шынялях чырвонагвардзейцаў таго легендарнага года. Над імі — плакат: «Уся ўлада Саветам!» Дэманстрацыю завяршыла вялікая танцавальная група ў нацыянальных касцюмах. Акрамя звычайнага святочнага ўздыму і ўрачыстасці, мы ў гэты пахмуры і халаднаваты дзень адчулі і гарачае выяўленне балгара-савецкай дружбы.

У пачатку лістапада ў Сафіі праводзілася традыцыйная Дэкада савецкай кнігі. Былі ўрачыстыя вечары, сустрэчы з пісьменнікамі, літаратурныя чытанні, віктарыны, выстаўкі. Многа зроблена ў Балгарыі па распаўсюджванню савецкай кнігі. Адзін з часопісаў паведамляў у дні Дэкады, што толькі пасля 9 верасня 1944 года ў Балгарыі разышлося больш за 27 мільёнаў экземпляраў кніг, прывезеных з Савецкага Саюза. Яшчэ больш распаўсюджана кніг у перакладзе на балгарскую мову. У вялікім магазіне савецкай кнігі на Рускім бульвары заўсёды людна. Я чула, як малады балгарын, відаць, рабочы, пытаў «што-небудзь савецкае па такарнай справе», а студэнт шукаў самае новае з савецкай медыцынскай літаратуры.

Цікава адзначыць, што першая «савецкая кніжарніца» адкрылася ў Сафіі яшчэ ў канцы 30-х гадоў. І ўжо тады, нягледзячы на непрыязныя адносіны тагачаснага балгарскага ўрада да Савецкага Саюза, яна выклікала вялікую цікавасць жыхароў сталіцы. Адзін з прапагандыстаў савецкай кнігі Трыфан Костаў, які здолеў у гады рэакцыі адкрыць з любоўю афармленую «савецкую кніжарніцу», паплаціўся за гэта некалькімі гадамі канцлагера.

Попыт на савецкія кнігі сапраўды вялікі. Многія чытаюць іх у арыгінале, абыходзячыся без перакладу. Чытаць жа лягчэй, чым размаўляць. Нават у школах па некаторых прадметах выкарыстоўваюць савецкія падручнікі, не перакладзеныя на балгарскую мову, а савецкія фільмы ідуць не дубліраваныя, па-руску.

— Чаму? — спытала я ў аднаго работніка кінематаграфіі.

— Так хоча глядач, — адказаў ён. — Усё зразумела. Бывае, праўда, абмяжоўваемся надпісамі на балгарскай мове.

* * *

Шчырую дружбу Балгарыі з нашай краінай, выключную сардэчнасць я асабліва адчула ў час многіх дзелавых сустрэч з навуковымі работнікамі, пісьменнікамі, журналістамі. Уважлівасць балгарскіх таварышаў, іх гатоўнасць ва ўсім памагчы, аблегчыць маю работу, вельмі памаглі ў задавальненні маіх навуковых інтарэсаў.

На перасячэнні Рускага бульвара і бульвара Талбухіна стаяць, распасцёршы свае крылы, будынкі Сафійскага ўніверсітэта — старэйшай навучальнай установы краіны. У 1888 годзе ў Сафіі былі заснаваны Вышэйшыя педагагічныя курсы, пазней рэарганізаваныя ў Вышэйшае вучылішча з трохгадовым тэрмінам навучання. У 1904 годзе на базе гэтага вучылішча ўзнік універсітэт імя Клімента Ахрыдскага. За 40 год існавання ва ўмовах буржуазнай дзяржавы ў ім адбылося менш перамен, чым за 17 год народнай улады. Цяпер колькасць спецыяльнасцей, факультэтаў і студэнтаў такая вялікая, што стала цесна. Па рашэнню балгарскага ўрада з двух бакоў старога будынка зрабілі прыбудоўкі. Нехта, расказ-



**Цэнтр Сафіі — плошча імя 9 верасня, месца святочных урачыстасцей.**

ваючы нам аб гэтым, дасціпна заўважыў:

— Да гузіка прышылі паліто.

Універсітэт мае цяпер каля васьмі тысяч студэнтаў, з іх амаль тры тысячы вучыцца на філалагічным факультэце. З нейкім хваляваннем увайшлі мы ў будынак галоўнага ўніверсітэцкага корпуса. Вялізныя дзверы, высокая і шырокая лесвіца — усё гэта ў першы момант крыху бянтэжыла. Але варта было ступіць некалькі крокаў па калідоры, як мы апынуліся ў аздобленым панеллю з цёмнага дрэва кабінеце дэкана філалагічнага факультэта. Насустрач з-за стала падняўся ўжо немалады чалавек высокага росту, з добрымі, стомленымі вачыма. Гэта — прафесар Сімеон Русакіеў.

Напружанасць першага моманту знікла, і мы адчулі сябе з ім, ветлівым і сардэчным, проста, як старыя знаёмыя. Прафесар Русакіеў, ці, як мы звалі яго на рускі манер, Сімеон Стаянавіч, гаворыць з намі па-руску, зрэдку ўстаўляючы балгарскія словы, іншы раз блытаючы склонавыя канчаткі.

Ён нас чакаў, бо ведаў аб прыездзе савецкіх навуковых работнікаў і быў гатовы ўсім памагчы. Прыемна здзівіўся, што я з Беларусі. Ён многа чуў аб выдатных подзвігах беларускага народа ў гады вайны, чытаў аб тым, які велічным і прыгожым стаў разбураны немцамі Мінск, цікавіўся літаратурай беларускага народа. На яго стале — беларускія кнігі па літаратуразнаўству.

— Я ўжо сёе-тое прачытаў, —

гаворыць ён. — Вельмі цікавая літаратура. Мы, на жаль, яшчэ мала ведаем пра яе. Трэба часцей і больш сустракацца.

Сімеон Стаянавіч прыйшоў ва ўніверсітэт 12 гадоў назад. Ён — удзельнік рэвалюцыйнага руху, падпольшчык, які многа гадоў жыў на нелегальным становішчы, потым апынуўся ў канцлагеры. Пасля вызвалення працаваў у міністэрстве асветы, адкуль і прыйшоў ва ўніверсітэт. Як вучонага яго больш за ўсё цікавяць праблемы руска-балгарскіх літаратурных сувязей. У кола яго даследаванняў увайшла ўкраінская літаратура. Цяпер вырашыў заняцца і беларускай.

— Толькі б часу хапіла, — гаворыць Сімеон Стаянавіч.

Складанае і напружанае жыццё вялікага факультэта патрабуе нястомных клопатаў, увагі, такту і ініцыятывы. Дэкан вельмі заняты. Але заўсёды, калі я званіла па тэлефоне ці прыходзіла ў кабінет, прафесар знаходзіў час для кансультацый, гутарак. Сімеон Стаянавіч у Савецкім Саюзе быў некалькі разоў, наведваў Маскву, Ленінград, Кіеў.

— Цяпер, — гаворыць ён на развітанне, — я абавязкова прыеду і ў Мінск.

Кафедра рускай літаратуры, якой кіруе прафесар В. Велчаў, абмяркоўвала рукапіс падрыхтаванага мною артыкула «Балгарская літаратура ў Беларусі». І зноў адчувалася тая жывая цікавасць да нашай літаратуры, тое ж сардэчнае жаданне бліжэй пазнаёміцца з яе гісторыяй і дасягненнямі.

Асабліва запомнілася мне знаёмства з загадчыкам кафедры балгарскай літаратуры прафесарам Петэрам Дзінекавым. У застаўленым кніжкамі кабінеце прафесар ў накінутым на плечы паліто (атапляльны сезон яшчэ не пачаўся) сустрэў мяне добрай усмешкай на твары.

Ён пачаў гаварыць па-руску. Мяне цікавіў шэраг пытанняў развіцця балгарскай літаратуры ў перыяд Адраджэння, а прафесар Дзінекаў многа займаўся гэтым перыядам.

У час гутаркі нечакана зайшоў пажылы самавіты чалавек — вядомы лінгвіст прафесар Любамір Андрэйчын, па граматыцы якога вучацца не толькі балгарскія студэнты, але і савецкія. Даведаўшыся, што я з Мінска, здзіўлена ўсклікнуў:

— За адзін месяц трое знаёмых з Мінска! І нават з аднаго і таго ж Беларускага ўніверсітэта!

— Чаму трое? — здзівілася і я.

Прафесар Андрэйчын нядаўна вярнуўся з Варшавы, дзе пазнаёміўся з маімі калегамі па факультэту — Марыяй Андрэеўнай Жыдовіч і Варварай Фёдараўнай Крычук.

Некалькі слоў варта сказаць і пра балгарскіх даследчыкаў журналістыкі. Прафесар Топенчараў расказаў многа цікавага з гісторыі балгарскага друку, паказаў першыя нумары газеты «Отечествен фронт» і іншыя выданні. Прафесар Боршукаў пазнаёміў з яшчэ ненадрукаваным артыкулам па гісторыі балгарскай журналістыкі. У Саюзе журналістаў нам прапанавалі шмат кніжак па курсу балгарскага друку.

З кожным годам растуць і беларуска-балгарскія літаратурныя сувязі. Толькі за апошнія гады ў балгарскім перыядычным друку былі змешчаны вершы П. Броўкі, П. Панчанкі, М. Танка і іншых беларускіх паэтаў, апавяданне І. Навуменкі «Домік над морам», выдадзены зборнік апавяданняў Я. Брыля «На парозе сталасці».

Неяк мне кінулася ў вочы невялікая кніжка ў чырвонай вокладцы «Па савецкай зямлі». Аўтар яе вядомы балгарскі пісьменнік Ст. Ц. Даскалаў. Я ведала, што ён бываў у Мінску, значыць, у кнізе павінны быць успаміны і пра Беларусь. Не памылілася. У змесце ўбачыла раздзел. «Зямля партызан». Вядома, гэта пра Беларусь. Прыемна і радасна было чытаць цёплыя словы балгарскага пісьменніка пра гераічныя справы беларускіх партызан, пра сустрэчы аўтара кнігі з нашымі літаратарамі.

У дзень адкрыцця XXII з'езда КПСС на старонках газеты «Работническо дело» я заўважыла радок «Въвдалечния Минск» з верша «Една дьсчена сграда» («Драўляны домік»). Аўтар гэтага верша пра домік-музей Першага з'езда нашай партыі Найдзен Вылчаў — балгарскі паэт, які займаецца перакладамі з беларускай мовы. Ён не адзін раз бываў у Беларусі, і верш гэты быў, вядома, вынікам гасцявання ў беларускай сталіцы.

Амаль нічога не ведалі балгары пра Беларусь і яе літаратуру ў мінулым стагоддзі. У перыёдыцы тых часоў мне трапілася толькі адно ўпамінанне, якое адносіцца да нашай літаратуры — нататка пра беларускія народныя песні. У 20-я гады, пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, цікавасць да нашай рэспублікі ў Балгарыі павялічылася, але ўсё роўна не характарызуецца якімі-небудзь значнымі даследаваннямі ці артыкуламі. Найбольш цікавымі з'яўляюцца балгарскія публікацыі пра нашу літаратуру напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. У аднатомнай Літаратурнай энцыклапедыі, створанай рэвалюцыйным пісьменнікам і крытыкам М. Марчэўскім і выдадзенай у 1940 годзе, ёсць некаторыя звесткі па гісторыі беларускай літаратуры, дарэвалюцыйных перыядычных выданнях Беларусі і пададзены імёны некаторых пісьменнікаў. Буйнейшымі з іх М. Марчэўскі лічыць Янку Купалу і Якуба Коласа.

Пасля вызвалення Балгарыі ў 1944 годзе рэгулярней пачалі з'яўляцца і пераклады твораў беларускіх паэтаў, і артыкулы аб іх. Выходзіць з друку анталогія «Славянскія паэты». Яе рэдактарамі і складальнікамі былі вядомыя балгарскія пісьменнікі Л. Стаянаў, М. Грубешліева і Д. Панцялееў. У балгарскім часопісе «Славяни» ў 40-я і 50-я гады з'явіўся шэраг артыкулаў пра беларускую літаратуру і асобных яе аўтараў. У «Славяни» і цяпер супрацоўнічае балгарскі журналіст і перакладчык з беларускай мовы Петка Атанасаў. Рэдактар гэтага часопіса, вялікі энтузіяст балгара-савецкай дружбы пісьменнік Іван Марцінаў, гаварыў мне:

— Мы хочам больш ведаць пра Беларусь. Пішыце нам, мы будзем рады.

Цяпер творы пісьменнікаў нашай рэспублікі з'яўляюцца не толькі ў літаратурных балгарскіх газетах і часопісах, але становяцца здабыткам многіх перыядычных выданняў — агульнапалітычных і спецыяльных, прафсаюзных і жаночых, маладзёжных і дзіцячых. Газета «Земляк» публікуе апавяданне А. Кулакоўскага «Стары млын», часопіс «Музыка» — верш М. Танка «Шапэн». Са старонак літаратурна-эстраднага зборніка «Жанчына ў краіне сацыялізма» размаўляе з балгарамі на іх роднай мове Якуб Колас («Шчаслівым жанчынам»). Дзіцячы часопіс «Пламьче» змяшчае апавяданне М. Лынькова. Прафсаюзная газета «Труд» заклікае да барацьбы за мір радкамі верша М. Танка «За мір». Вершы М. Танка сталі вядомы нават чытачам спартыўных выданняў. Так, «Народен турист» змясціў яго верш «Звязда», «Народен спорт» — «Разліў». На жаль, большасць перакладаў зроблена з рускай мовы, таму што беларуская мова ў Балгарыі яшчэ мала вядома. А цікавасць да яе вялікая. Многія прасілі: «Прышліце, калі ласка, беларуска-рускі слоўнік!»

* * *

У бібліятэцы «Васіл Калараў», на сёмым паверсе, размешчан старадрукарскі аддзел. Тут можна знайсці старадаўнія рукапісныя кніжкі, якіх няма ні ў адным кнігасховішчы свету, і ўнікальныя кніжкі, выдадзеныя ў мінулым стагоддзі. Загадчык аддзела, доктар Манеў сам займаўся пошукамі і набыццём такіх кніжак. Док-

**Сафійскі ўніверсітэт.**



тар Манеў гады два назад рыхтаваў па просьбе з Мінска бібліяграфію публікацый беларускіх твораў на балгарскай мове. З гэтай бібліяграфіяй я і прыйшла сюды.

У старадрукарскім аддзеле, ці як яго называюць, аддзеле рэдкасный кнігі, захоўваюцца творы, выдадзеныя ў Балгарыі яшчэ ў мінулым стагоддзі. Першае перыядычнае выданне з'явілася на балгарскай мове ў 1844 годзе. 50—60-я гады мінулага стагоддзя характарызуюцца хуткім развіццём літаратуры, інтэнсіўнай перакладной дзейнасцю. Першая ж балгарская аповесць («Няшчаснае прозвішча» В. Друмева) з'явілася ў 1860 годзе. Так пяцівяковае турэцкае ярмо затрымала развіццё культуры і мастацтва народа, які даў некалі славянам пісьменнасць. Разгром рускімі войскамі турэцкай імперыі стварыў умовы для бурнага нацыянальнага развіцця Балгарыі. У XIX стагоддзі яе літаратура становіцца ў адзін рад з іншымі літаратурамі свету.

Да паездкі ў Балгарыю я ведала балгарскую літаратуру галоўным чынам па перакладах, па артыкулах у перыядычным друку. Цяпер я пазнаёмілася з некаторымі яе прадстаўнікамі, пачула і ўбачыла, як спрачаюцца аб ёй балгарскія чытачы, як хутка знікаюць з прылаўкаў кнігарань новыя кніжкі.

Неяк у чытальнай зале бібліятэкі я ўбачыла знаёмага чалавека. Дзе я сустракала яго і калі? Вырашыла спытаць, ці не вучыўся ён у Ленінградзе?

— Так, вучыўся, — адказаў.

Гэта Іван Цветкаў, цяпер кандыдат навук, а тады, дванаццаць гадоў назад, балгарскі студэнт-філолаг Ленінградскага ўніверсітэта. Мне ўспомнілася, як ён упершыню з'явіўся ў нас на факультэце і студэнткі балгарскага аддзялення з задавальненнем слухалі яго расказы пра радзіму. Пасля ўніверсітэта Іван Цветкаў скончыў аспірантуру ў Маскве і вярнуўся ў Балгарыю вучоным.

Калісьці ў Ленінградзе рускія студэнты і аспіранты памагалі яму вучыцца, авалодваць рускай мовай, знаёміцца з горадам. Цяпер ролі памяняліся. Іван Цветкаў памог нам разабрацца ў новай балгарскай літаратуры, пазнаёміцца з многімі навінкамі паэзіі.

Вось перада мною два зборнікі Ал. Муратава «Выратаваны свет» і «Школьны дах». Па тэмах яны розныя. Адзін услаўляе герояў антыфашысцкай барацьбы, другі — шчаслівае дзяцінства юных балгар. Але абодва зборнікі аб'ядноўваюцца глыбокай зацікаўленасцю паэта падзеямі сучаснасці.

Многа піша сучасны балгарскі паэт Іван Давідкаў (вядомы і беларускаму чытачу па вершах, перакладзеных Н. Гілевічам). Толькі за апошнія два-тры гады выйшлі яго зборнікі «Сузор'е светлякоў», «Украінец з белым гармонікам», «Днепр цячэ пад маім акном» і іншыя. У апошнім з названых зборнікаў паэт услаўляе Украіну — яе гасцінных людзей, яе дзівосную прыроду. Але як ні хораша ў гасцях, ён увесь час думае пра радзіму, вобраз якой часта зліваецца з вобразам каханай.

Аднойчы ў сям'і балгарскага ўрача, куды мяне запрасілі ў госці, я спаткалася з вучаніцамі старэйшых класаў. Размова зайшла пра паэзію. Дзяўчына доўга маўчала, а потым раптам ажывілася і ўзнёсла прачытала некалькі незнаёмых мне вершаў.

— Чые гэта? — міжвольна вырвалася ў мяне.

Але, глянуўшы на дзяўчыну, сумелася. Вучаніцы здзівіліся: як можна не ведаць Дамяна Дамянава?

Я зразумела, што ў паэта многа верных сяброў. Яны бачаць у ім духоўную блізкасць з Мікалаем Астроўскім. Два зборнікі Д. Дамянава — «Калі няма агню» і «Чаканне» — гэта шчырая споведзь чалавека, які можа глядзець на навакольны свет, шумны і радасны, толькі з акна свайго пакоя.

У 1959 годзе выйшаў з друку паэтычны зборнік Д. Панцялеева «Касец вяртаецца з пакосу». Паэт вельмі патрабавальны да сябе. Думаючы пра сваю трыццацігадовую паэтычную дзейнасць, ён шкадуе не аб тым, што «срабрысты снег пакрыў галаву», а аб тым, што «ад жыцця многа-многа ўзяў і мала-мала яму вярнуў я». Д. Панцялееў любіць свайго героя-працаўніка, вершы паэта блізкія і зразумелыя яго сучаснікам, іх марам, іх бадзёраму і мужнаму настрою.

Высокую ацэнку балгарскай крытыкі атрымаў зборнік В. Ханчава «Лірыка». Кніга радуе шчырым жаданнем паэта стаць упоравень з грандыёзнымі падзеямі ў краіне, быць сугучным пафасу цяперашняга гераічнага часу.

Балгарская паэзія вельмі багата талентамі. І шкада толькі, што мала пакуль што перакладаюцца на рускую і беларускую мовы творы А. Стаянава, Х. Радзеўскага, Н. Ланкава, Д. Методзіева, В. Пятрова і іншых. Кожны з іх па-свойму, цёпла і шчыра ўслаўляе свайго сучасніка — змагара і стваральніка.

Я неяк спытала ў аднаго з балгар, што цяпер больш чытаюць з прозы. Мне адказалі: «Мёртвае хваляванне» І. Пятрова, ужо вядомага савецкаму чытачу па аповесці «Нончына каханне».

Аб кааператыванні ў балгарскай вёсцы пісалі многа і да Пятрова. Але раман «Мёртвае хваляванне» арыгінальны і па манеры, і па глыбіні паказу падзей, і па смеласці, з якой пісьменнік умешваецца ў жыццё. Да Пятрова літаратура паказвала пераважна адзін фронт барацьбы — супраць кулацтва. Але вялікую шкоду прыносілі тыя партыйныя кіраўнікі, якія не верылі серадняку, лічылі, што хутчэй прымусіць, чым пераканаць. Пра тыя гады ў Балгарыі, калі ўсякія справы вырашаліся загадамі, і напісан гэты раман.

Зусім нядаўна ў Мінску, чытаючы «Литературен фронт», я даведалася, што «Мёртвае хваляванне» ўдастоена другой прэміі, як лепшы твор на сучасную тэму.

Вастрынёй канфліктаў, глыбокім псіхалагізмам прасякнуты і раман Г. Маркава «Мужчыны». Трое галоўных яго герояў разам служылі ў арміі. І толькі гэта агульнае ў іх біяграфіях. У астатнім — яны розныя людзі. Нялёгка жывецца ім пасля арміі. Івану замінае затхлая абстаноўка ў навуковым інстытуце, і ён горача выступае супроць яе. Сашо вечна цягнецца да незвычайнага, марыць, памыляецца, пакуль сябры не памагаюць яму знайсці сваё месца ў жыцці. Младзэн — моцны і здольны чалавек, але пагоня за кар'ерай ледзь не прыводзіць яго да здрады. Для герояў Маркава няма лёгкіх дарог, але яны заўсёды аддадзены справе свайго народа, сацыялістычнаму будаўніцтву і таму перамагаюць.

Балгарская літаратура ўсё больш паварочваецца да хвалюючых тэм сучаснасці. Пісьменнік Іван Марцінаў знаёмы савецкаму чытачу па аповесцях «Завод» і «Шахцёры», напісаных яшчэ ў пачатку 50-х гадоў. Пры нашай сустрэчы (яна адбылася ў рэдакцыі часопіса «Славяни», рэдактарам якога з'яўляецца пісьменнік), я пацікавілася яго новымі творамі. Ён ахвотна расказаў аб напісаным у апошнія гады, аб планах на будучае, аб тым, што ў Маскве рыхтуецца да выдання зборнік яго апавяданняў.

Аповесць Івана Марцінава «Вечны агонь» — твор аб жыцці невялікай тэатральнай трупы ў буржуазнай Балгарыі, аб лёсе людзей мастацтва, якія ў пошуках вечнага агню праўды вандравалі з горада ў горад, цярпелі праследаванні паліцыі, часта галадалі і мёрзлі. Розныя характары гэтых людзей, па-рознаму складваецца іх лёс, але іх збліжае самаадданая любоў да тэатра.

У творах аб сучаснасці І. Марцінаў стварае вобразы камуністаў, стойкіх і прынцыповых, якія не баяцца цяжкасцей, змагаюцца і перамагаюць.

Я спынілася толькі на некаторых творах, што апынуліся ў мяне пасля паездкі пад рукамі, але імі не абмяжоўваюцца ўсе дасягненні балгарскай прозы. Радасна тое, што ў балгарскай літаратуры ўсё больш перамагае метад сацыялістычнага рэалізму.

... Хутка праляцелі тры месяцы гасцявання ў братняй Балгарыі. Апошнія прагулкі па заснежаных сафійскіх вуліцах, бульварах і плошчах, апошнія развітальныя візіты, зборы ў дарогу. У чамаданы пакладзены балгарскія сувеніры, сшыткі запісаў.

Зноў вакзал. Поціскі рук, пажаданні. І пад стукат колаў: «Довиждане! Да живее българска-съветска дружба!»



# АДШУМЕЛА СПАРТЫЎНАЕ ЛЕТА

Фотарэпартаж В. Бараноўскага, У. Валодзіна

Адзвінела лета. І хоць не зусім песціла яно сёлета цёплымі, сонечнымі днямі, але на рэспубліканскім стадыёне «Дынама» ў Мінску было заўсёды людна — у буднія дні, і ў святы.

З раніцы і да позняга вечара на стадыёне вірыць спартыўнае жыццё. У залах, што пад трыбунамі для гледачоў, чарговая трэніроўка барцоў-дынамаўцаў. Яны рыхтуюцца да асабістага першынства БССР. Майстар спорту Віталі Фефелаў, пераможца і прызёр раду міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтваў, не дае спуску сваім «праціўнікам» і на трэніроўках. Цяжка вырвацца з жалезных абдымкаў праслаўленага майстра.

Але выйдзем на вольнае паветра. На тэнісным корце адпрацоўвае сваё майстэрства чэмпіёнка рэспублікі Валянціна Сурына.





Стадыён «Дынама» — буйнае спартыўнае збудаванне. Тут праходзяць не толькі рэспубліканскія, але і ўсесаюзныя спаборніцтвы, нават міжнародныя сустрэчы, спартакіяды школьнікаў, студэнтаў. Дзесяткі тысяч мінчан прыходзяць на стадыён, каб паглядзець матчы чэмпіянату краіны па футболу, валейбольныя сустрэчы.

Гэты момант гульні на валейбольнай пляцоўцы зазняты ў час сёлетняй рэспубліканскай спартакіяды школьнікаў. Змагаюцца каманды сталіцы і Мінскай вобласці.



Шмат радасці мінчанам прынеслі занальныя спаборніцтвы дынамаўцаў Прыбалтыкі, Беларусі і Ленінграда па лёгкай атлетыцы. На бегавых дарожках, у сектарах для кідання і скачкоў змагаліся такія майстры, як сусветныя рэкардсменкі сёстры Ірына і Тамара Прэс, заслужаны майстар спорту Марыя Іткіна, сярэбраны прызёр рымскай Алімпіяды Уладзімір Гараеў і многія другія вядомыя спартсмены.

Мінчанка Марыя Іткіна, абышоўшы на сваім этапе ўсіх саперніц, перадае эстафету сяброўцы па камандзе.

З шастом скакае ленінградзец Мікола Касценка. Вышыня ўзята!



Выдатна выступіў на гэтых спаборніцтвах і студэнт Беларускага інстытута фізкультуры Уладзімір Боркін. Ён фінішыраваў першым у бегу на 3 000 метраў з перашкодамі.





Сёлета мінчане былі сведкамі нараджэння новага віду спорту — гонак на гокартах, маленькіх аўтамашынах, якія можна змайстраваць сваімі сіламі. Маленькія, але ўдаленькія!



На стадыёне «Дынама» збіраюцца мінчане і ў дні свят. На пачатку лета тут адбылося яркае, маляўнічае свята ў гонар 40-годдзя савецкай піянерыі. Міма трыбун, запоўненых гасцямі, ва ўрачыстым карнавальным шэсці прайшлі юныя ленінцы.

Гэтыя смелыя летуценнікі покуль яшчэ на бегавой дарожцы, але мары іх далёка — у завоблачных высях космасу.



Стройныя, загартаваныя, спрытныя дзяўчаты выступаюць з абручамі. Гэта — гімнасткі спартыўнага таварыства «Працоўныя рэзервы».

Свята піянераў закончылася масавым выступленнем школьнікаў. На зялёным дыване стадыёна, быццам у казцы, зацвілі розным колерам жывыя цудоўныя клумбы.

Надышла восень, а стадыён «Дынама», як і ўлетку, жыве напружаным спартыўным жыццём.



# Гумар і сатыра

Алесь ШАШКОЎ

## ТОНКІ РАЗЛІК

Гумарэска

Мал. Г. Скамарохава.

Прападзі ён пропадам, гэты сход! Каб ведаў Васіль Загорскі, што ўсё здарыцца менавіта так, ён ні за што на свеце не пайшоў бы на яго. Дык не, панесла нячыстая! Ну, дык і слухай жа цяпер! Ды каго? Семнаццацігадовую цялятніцу Насценьку!

Хіба ён мог думаць, што ў гэтай з выгляду наіўнай рагатушкі такія зыркія вочы і такі пякучы язык? Ды з-за чаго ўз'елася? З-за курэй, з-за нікчэмнага стварэння, якое Васіль не мог цярпець з часоў свайго маленства, бо не раз атрымліваў ад маці лупцоўку, калі тая знаходзіла на градах падзяўбаныя агуркі... І вось, на табе, яшчэ адна «лупцоўка»!..

Спачатку ўсё было добра, нават вельмі добра. Насця з нязвыклай для яе сур'ёзнасцю гаварыла аб тым, што не ўся калгасная моладзь актыўна працуе. Васіль слухаў і задаволена дзівіўся. «Малайцы! Бачылі, якія пытанні іх хвалююць! Трэба будзе выступіць, пахваліць, падбадзёрыць...» Але выступіць ён не паспеў. Унёсшы прапанову пакараць самых заўзятых сімулянтаў (такіх набралася чалавек пяць), Насця нечакана звярнулася да сходу з прапановай заслухаць справаздачу старшай птушніцы, камсамолкі Нэлі Усінскай.

— Справа, таварышы, у тым, што на сённяшнім нашым сходзе прысутнічае старшыня калгаса паважаны Васіль Іванавіч, — растлумачыла Насця.— І, думаю, вы ўсе не будзеце пярэчыць, калі мы ўключым у парадак дня гэтае важнае пытанне, якое да таго ж мы не раз збіраліся разгледзець. Якія будуць меркаванні?

— Уключыць! — пачуліся дзесяткі галасоў, і Васіль неспакойна заварушыўся. Чаму іменна сёння, калі ён на сходзе, спатрэбілася абмяркоўваць работу птушкафермы?

— Калі згода агульная,— зноў загаварыла Насця,— папросім Нэлю, каб яна расказала нам, як ідуць справы на ферме. Давай, Нэля, да стала!

З залы — сход праходзіў у новым клубе — выйшла невысокая дзяўчына з ясным і круглым, як сонца, тварам, чорнымі, што нераспелыя вішні, вачыма і маленькім, гарэзліва задзёртым угару носам. Яна нясмела зірнула на старшы-

ню і, нібы просячы прабачэння, прамовіла:

— Ну, калі ўжо трэба, дык раскажу. Толькі з чаго пачаць?

— А ты без пачатку,— падказала Насця, непрыкметна штурхнуўшы сяброўку пад бок,— смялей!.. Калі старшыні няма, дык ныеш: і тое не так, і гэта не гэтак. А цяпер што? А ну, кажы, колькі яек атрымала за мінулы год?

— А навошта гэта гаварыць?— наіўна здзівілася Нэля. — Хіба людзі і так не ведаюць? Паўяйка на курыцу.

Дружны рогат пракаціўся па зале. Але Васіль Загорскі не засмяяўся. Толькі вочы звузіў, і яны сталі вострыя і халодныя, бы тое лязо брытвы.

— Дзе птушка размешчана?— спытала Насця.

— Хіба сама не ведаеш? — яшчэ больш здзівілася Нэля.— Куры — у ёвеньцы, а гусі і качкі — у склепе. Іх там і палічыць немагчыма, што таго гароху насыпана.

— Ну, дарагія мае, вы гэта кіньце!— раззлаваўся Загорскі.— Такога быць не можа!..

— Гэта святая праўда,— з тым жа наіўным спакоем здзівілася Нэля.— Ёвенька маленькая, а курэй у ёй, можа, цэлая тысяча. Не паспее адна курыца знесці яйка, як другая раздзяўбе яго. Хоць ты жменю падстаўляй.

Ад новага выбуху смеху на вокнах загойдаліся фіранкі.

— Трэба за кожнай чубаткай замацаваць члена праўлення!— крыкнуў нехта з залы.— Няхай пільнуюць!



— Саўрук стары, рукі ў яго дрыжаць!

— Анатоль Прыгрэбка за яго яйкі лавіць будзе...

— Дзе вы былі раней, таварыш Ясінская?— накінуўся на флегматычную птушніцу Загорскі, але Насця пастукала па графіне алоўкам, як гэта любіць рабіць сам Васіль на агульных сходах калгаснікаў, і сурова прамовіла:

— Таварыш Загорскі, хто вам даваў слова?

Сумеўшыся, Васіль сеў, сунуў у рот папяросу, але, спахапіўшыся, зноў схаваў у партсігар.

— Гавары далей, Нэля,— кіўнула Насця птушніцы.

— А што яшчэ казаць? Усё сказала. Хіба яшчэ пра тое, каб для птушкі больш зерня давалі. А то наш загадчык фермы вельмі ўжо скупы стаў. Усё свінням ды каровам. Курам жа ды качкам — што застанецца.

Нэля зірнула на Насцю, нібы пытаючы: «Ну, ці хопіць?», і пайшла на сваё месца. На хвіліну ў клубе ўсталявалася цішыня. Васіль насцярожыўся і чакаў, хто яшчэ падыдзе да стала і што скажа. Падышоў Алёша Грынюк, сын брыгадзіра ільнаводчай брыгады, рослы хлопец год дваццаці, бялявы, не па гадах сур'ёзны, з задуменным, заклапочаным тварам. Абапёршыся левай рукой на край стала, Алёша паглядзеў на сяброў і, спыніўшы позірк на Загорскім, загаварыў:

— Я не ведаю, Васіль Іванавіч, чаму вы гэта самі не зрабілі, калі рыхтаваліся да справаздачнага сходу. Я ж неяк раз узяў аловак ды і падлічыў, што нам дае птушкаферма і што даём мы ёй. І вось што ў мяне атрымалася. На гадоўлю курэй ды качак мы трацім штогод прыблізна дваццаць тысяч рублёў. Гэта калі ўсё, што яны з'ядаюць за год, узяць і прадаць на рынку. Прыплюсуйце цяпер сюды працадні на аплату працы птушніц. Колькі набярэцца? Прыбытак жа маем такі: ад курэй — нуль, ад качак — нуль, ад гусак — нуль. Увогуле — тры нулі. Вось і падумаем давайце, каму патрэбна такая ферма?

— Кінь, Лёнька! А дзе хто ад гэтых самых качак ды курэй прыбытак меў?!— крыкнуў нехта з залы.— Трымаюць для формы!



— Для формы, кажаш?— павярнуўся на голас Алёша.— А я ведаю тысячы людзей, якія ад курэй прыбыткі маюць, і не малыя.

— Хто, напрыклад?

— Бачыш на мне касцюм? Яго маці мая купіла за грошы, што за яйкі выручыла. А ў нас толькі дзесяць курэй, і самі мы ў хаце да яек ласыя. Колькі ж калгас можа мець грошай ад тысяч курэй і качак?

— Параўнаў курыцу калгасную і курыцу хатнюю!

— А чым жа калгасная курыца горшая? Не з такога ж круглага яйка вылупліваецца?

Загорскі нават як быццам узрадаваўся, пачуўшы гэтыя словы.

— Справа не ў тым, што адна курыца называецца калгасная, а другая — Агаціна ці Тэкліна. Справа ў доглядзе,— зноў спакойна загаварыў Алёша, павярнуўшыся да старшыні, нібы гэтыя словы аднаго яго датычыліся.— Вы, Васіль Іванавіч, за вялікімі справамі проста забыліся на такую дробязь, як куры. Іначай хіба сядзелі б яны ў нейкай там ёвеньцы? Ды ніколі! Не такі ў вас характар!

Камсамольцы дружна заапладзіравалі, Васіль пакруціў галавой і ўсміхнуўся: ну і хлопец! Тонка падлічыў! Паспрабуй пасля такіх слоў гэтых самых чубатак увагай абмінуць!

— Хто, таварышы, яшчэ хоча выступіць?— пастукала алоўкам па графіне Насценька.— Ніхто? Дык можа вы, Васіль Іванавіч, што скажаце?

— Што ж мне гаварыць?— развёў рукамі старшыня.— Ясна!

— Тады пераходзім да наступнага пытання.

Наступнае пытанне было для Загорскага мала значнае, і ён, папрасіўшы прабачэння, пакінуў камсамольскі сход.

У гэты ж вечар у калгаснай канторы сабралася пасяджэнне праўлення. Брыгадзір будаўнічай брыгады Анатоль Прыгрэбка атрымаў самае строгае заданне: за адзін тыдзень пераабсталяваць свабодны кароўнік пад птушнік і нават шыльду на варотах павесіць: «Птушнік калгаса «Перамога»!



### ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





А. Шыбнёў. Мальвы.



А. Калюжны. Пра справы калгасныя.



Л. Эрлер. Ранак маладосці.

